Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
“Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Францыска Скарыны”

Навукова-даследчы інстытут гісторыі
і культуры ўсходнеславянскіх народаў
пры ГДУ імя Ф. Скарыны

# Скарынаўскія традыцыі: гісторыя і сучаснасць

Зборнік навуковых артыкулаў

У дзвюх частках

Частка 2

Гомель
ГДУ імя Ф. Скарыны
2015

УДК 821.161.3 Скарына.06

**Скарынаўскія традыцыі: гісторыя і сучаснасць** : зборнік навуковых артыкулаў : у 2 ч. Ч. 2 / рэдкал. : А. М. Ермакова (гал. рэд.) [і інш.] ; М-ва адукацыі РБ, Гом. дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2015. – 263 с.
ISBN 978-985-577-072-6(Ч. 2)
ISBN 978-985-577-073-3

У зборніку змешчаны артыкулы, у якіх асвятляюцца праблемы скарыназнаўства, разглядаюцца пытанні беларускай дыялекталогіі і фалькларыстыкі, розных узроўняў беларускай літаратурнай мовы, міжмоўнай камунікацыі і моўных кантактаў, а таксама асаблівасці перакладу і інтэрпрэтацыі тэкстаў, стылістыка мастацкага слова, літаратуразнаўства.

Адрасаваны вучоным, выкладчыкам роднай мовы, гісторыі і культуры, студэнтам.



**Рэцэнзенты:**

доктар філалагічных навук В. А. Ляшчынская,
кандыдат філалагічных навук І. А. Бароўская

**ISBN 978-985-577-072-6 (Ч. 2)**
**ISBN 978-985-577-073-3**

# Змест

## Стылістыка мастацкага і публіцыстычнага слова



## Тэкст. Камунікацыя. Сацыялінгвістыка

## Літаратуразнаўства

# Стылістыка мастацкага і публіцыстычнага слова

УДК 808. 26: 785. 13 – 826

*І. А. Бароўская*

## МОЎНА-ВОБРАЗНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ “ПЕСЕНЬ НА ВАЯЦКІ ЛАД” ЯНКІ КУПАЛЫ

У артыкуле прадстаўлены ваяцкія песні Янкі Купалы. Аўтар даследуе цыкл, праводзячы паралелі з фальклорнымі песеннымі творамі, і раскрывае розныя моўна-вобразныя сродкі.

Дзейнасць Я. Купалы ў сферы нацыянальнай песеннай лірыкі спалучае ўсе важнейшыя дасягненні беларускай народнай песні і традыцыі прафесійнай песні 19 – пач. 20 стст., прадвызначае асноўныя шляхі далейшай яе эвалюцыі. Эманацыя купалаўскай песеннай лірыкі магутная, шматзначная, шматузроўневая і шматвектарная, яна вызначае асноўныя напрамкі развіцця беларускай песні 20 стагоддзя, а эвалюцыя першай абумоўлівае выразнае жанравае змяненне апошняй. У класічнай песні Я. Купалы вызначальнымі становяцца глыбокая шчырасць і высакароднасць пачуцця, выключная самабытнасць, што дасягаецца арыгінальнасцю спалучэння паэтычнага тэксту і абуджанай, схаванай у ім да наканаванага часу музыкі, яскравае выяўленне нацыянальнага характару з яго асноўнымі пачуццямі і страсцямі, абагульненне і творчае развіццё асноўных элементаў мовы народнай песні і вяртанне апошняй уласных здабыткаў, шырокі разліў меладычнага дыхання вакальных твораў, элегічнасць гучання пастэльных тонаў споведзі і роскат нот пратэсту і гневу. Усё гэта выводзіць сутнасць паэтыкі песеннай лірыкі Я. Купалы за межы формы ўласна беларускай традыцыйнай песні ў нашым звыклым успрыняцці, што і садзейнічае з’яўленню пераходных формаў класічнай песні. Наогул, Я. Купала будзе імкнуцца спасцігнуць веліч і трагізм народных балад, салдацкіх і рэкруцкіх песень, мілагучнасць мелодыкі калыханкі, іранічнасць жарту і прыпеўкі, велічнасць і ўрачыстасць грамадзянскай і інтымнай споведзі, што і прыводзіць да з’яўлення песні-балады, песні-маналога, песні-раманса.

Практычна ўсе творы Я. Купалы заснаваны на прыёме паралельнага сінтаксічна-кампазіцыйнага размяшчэння аднатыпных элементаў паэтычнага выказвання (з’яў, вобразаў, матываў), што супастаўляюцца паміж сабой. Самыя разнастайныя спалучэнні сінтаксічнага,

псіхалагічнага і дапаможнага страфічнага паралелізму надавалі ягоным песням непаўторны нацыянальны каларыт і меладычнасць гучання. Сістэма сінтаксічнай арганізацыі вершаванай мовы, ці паэтычны сінтаксіс, таксама зведала выразныя ўплывы народнай вершабудовы, што асабліва прыкметна ў творах пейзажнага і грамадска-сацыяльнага зместу.

Паэтычная інтанацыя многіх твораў цалкам сугучна мелодыцы народных песень, што абумоўлена не толькі супадзеннем агульнай ролі паўтораў, анафар, эпіфар, рытарычных фігур, але і спецыфікай будовы сінтаксічных сувязей унутры вершаваных радкоў, у большай расчлянёнасці складаных сінтаксічных агульнасцей самой паслядоўнасцю вершаваных радкоў, у шырокім выкарыстанні далучальных канструкцый, у большай свабодзе словаразмяшчэння, у асобай сінтаксічнай ролі вершаваных радкоў-пераносаў. На гэтым шляху Я. Купала будзе, безумоўна, першым, але не адзіным. Менавіта ў такім стылі гучыць песенная лірыка Я. Коласа, Зм. Бядулі, К. Каганца, Ц. Гартнага.

У першыя паслярэвалюцыйныя гады асабліва папулярнымі на тэрыторыі Беларусі сталі ваяцкія і рэкруцкія песні, якія характарызуюцца народнасцю музыкі і паэтычнай мовы, вызначаюцца тыпова народнай трактоўкай тэмы. На пачатку 20-х гадоў ваяцкія песні на словы Я. Купалы былі ўключаны ў “Школьны спеўнік“ А. Грыневіча, “Беларускі спеўнік“ У. Тэраўскага.

На мелодыю старадаўняй рускай воінскай песні Я. Купала напісаў “Гэй, паехаў сын Даніла“. У аснову песні паэт паклаў рытмічны склад, які надае вершу страявы, паходны характар: *Гэй, паехаў сын Даніла* ***Ваяв****а**ць на* ***ва****йну,* ***Ад*** *нападу,* ***ад*** *няволі* ***Бара****ніць ст****ара****ну* [1, с. 335]. Радок (як дарэчы і ўвесь твор) насычаны паўторамі гука *а*. Сугучнасць галосных гукаў, паўтарэнне аднолькавых ці аднародных галосных для стварэння мілагучнасці і інтанацыйна-гукавой выразнасці маўлення носіць назву 'асананс' [3, с. 188]. Асананс дапамагае падкрэсліць асобныя словы, узмацніць інтанацыйна-гукавую выразнасць верша, надаць яму своеасаблівы тон. Асананс утварае сістэмы паўтораў: паслядоўныя, перакрыжаваныя, аднаразовыя, шматразовыя [3, с. 190].

У стылі народнай салдацкай песні напісана “Гэй, у лесе, пры даліне“. Сюжэт характэрны для фальклорных твораў: *К нам там выйшла на сустрэчу дзяўчынанька малада…/ А мы, хлопцы, ўсе не зломкі, Спадабалі ўсе яе…/ Кожны лезе па-жаўнерску прытуліці да сябе…/ Чуць не сталі нашы хлопцы За дзяўчыну біцца там…* [1, с. 338]. Песня насычана рэфрэнамі (*Гэй, гэй+падвойны паўтор дзеясловаў першага радка+паўтор другога радка*), зваротамі (*братцы, хлопцы, дружа мой*), сталыя эпітэты (*дзячынанька малада, лёс шчаслівы, хлопцы*), блізкія да народных афарызмаў прастамоўныя словы і выслоўі (*хлопцы не зломкі, біцца за*

*спадніцу, каб цёмны на іх вір*). Развязка песні – у апошніх радках: *Выйграў дзела камандзір* [1, с. 338]. Упершыню песня была надрукавана ў часопісе “Рунь” (1920 год).

Вобразна-выяўленчай структурай нагадвае адзін з варыянтаў народную песню, аднак ідэйны змест верша Я. Купалы значна глыбейшы. “Дзе ты, хмелю, зімаваў?..” [1, с. 334] насычана патрыятычным пафасам. Традыцыйная любоўная калізія народнай песні ўскладнена драматычнымі ўмовамі, у якіх апынуўся герой. Развіццё аўтарскай думкі аб вернасці радзіме знаходзіць мастацкае выяўленне ў сюжэтна-кампазіцыйнай сістэме. Верш заснаваны на прынцыпе паралелізму, напісаны ў форме дыялогу. Складаецца з 3 частак. Першыя дзве развіваюць тэму, а ў трэцяй сцвярджаецца ідэя. На пытанне “Чаму, сынку, на вайну…?”, гучыць моцны, пераканаўчы адказ: *ваяваў я на вайне за сваю краіну* [1, с. 335]. Я. Купала сцвярджаў неабходнасць актыўнага ўдзелу народу ў абароне рэвалюцыі і роднай Бацькаўшчыны. Глыбокую лірычнасць песні надаюць традыцыйныя фальклорныя вобразы хмелю, віхуры, сцюжы, клічная форма, пытальныя звароты, шматлікія анафары: *Цвёў я ўлетку, дзе пякуць Спекі агняваты; Дзень правёў я, дзе гудуць, Як грымот, гарматы. / Чаму, хмелю, не адну Зносіў сцюжу, спеку? Чаму, сынку, на вайну Шоў ты ў небяспеку?* [1, с. 335]. Верш быў пакладзены на музыку пад уплывам украінскай народнай песні У. Тэраўскім.

“Габруся ў жаўнерку ўзялі” поўнасцю заснавана на народнай рэкруцкай песні: *Габруся ў жаўнерку ўзялі, Ад дамоўства адарвалі. Зажурыўся стары татка, Стогне, плача цяжка матка, Ой, Габруська! Ой, Габруська!* [1, с. 335]. Але сам хлопец не журыцца – вораг *патаптаў нам наша поле,* таму трэба ісці бараніць краіну. Пасля кожнага куплета думка ўзмацняецца рэфрэнам.

Вельмі часта Я. Купала выкарыстоўвае розныя віды анафары і эпіфары. Для гукавой анафары характэрна ўжыванне ў пачатку вершаваных радкоў адных і тых жа злучнікаў і прыназоўнікаў [2, с. 122]. Вельмі частыя паўторы складоў ці спалучэнняў гукаў: ***Папа**ліў нам нашы хаты, **Па**таптаў нам наша поле, **Па**караў людцоў няволяй* [1, с. 335]. Сінтаксічная анафара, выкарыстоўваючы паўтарэнне на пачатку радкоў аднолькавых ці аднатыпных сінтаксічных канструкцый, скіравана на ўзмацненне эмацыянальнага ўздзеяння для стварэння пэўнай сітуацыі. Я. Купала выкарыстоўвае лексічную анафару, паўтараючы дзеясловы і прыназоўнікі, а сінтаксічную – дзве аднолькавыя канструкцыі.

Даволі распаўсюджанай з’яўляецца ў паэта гукавая эпіфара. Паўторы канцавых гукаў узмацняюць рытмарад, рыфмоўку ў творы:

*Не журбуйце ж, тата, м**аці**!*
*Буду вас яшчэ віт**аці**,*

*Як з вайны здароў выр**нуся***

*І вам нізка пакла**нюся**…*[1, с. 335].

Сінтаксічная эпіфара ў Я. Купалы ўключае ў сябе двух-, трохкампанентныя канструкцыі, а таксама можна сустрэць радковую эпіфару. У песні "А ў бары, бары.." назіраем паўтор двухкампанентнай канструкцыі:

Выбіраў жаўнер

**Трэццю сцежаньку**!

Гэй, гэй, гэй, **трэццю сцежаньку**!

Бо вяла яна

**Ў родну межаньку,**

Гэй, гэй, гэй, **ў родну межаньку**! [1, с. 337].

Вельмі пашыраны ў ваяцкіх песнях рытарычныя фігуры. Я. Купала надае важную ролю рытарычным воклічам, якія ствараюць у песні асаблівую экспрэсіўнасць і пранікнёнасць. Пры дапамозе гэтых фігур паэт выклікае ў душы чытача жывы водгук на тое, пра што гаворыць. Я. Купала ў ваяцкіх песнях выкарыстоўвае рытарычныя воклічы, якія адрасуюцца асобам ці сукупнасці асоб: *Стогне, плача цяжка матка, / **Ой, Габруська**! **Ой**, **Габруська!*** [1, с. 335]; ***Гэй,** выходзь, бяда!* [1, с. 335]; ***Гэй, гэй, гэй,** наш прыгожанькі!* [1, с. 336].

Дзе ты, хмелю, зімаваў?..." заснаваны на рытарычным пытанні. З пункту погляду лагічнай характарыстыкі рытарычныя пытанні, у адрозненне ад звычайных пытальных сказаў, не ўтрымліваюць пытання аб невядомым, яны проста выражаюць думку, у якой што-небудзь сцвярджаецца або адмаўляецца, і такім чынам выражаюць меркаванне. Такое меркаванне з'яўляецца больш эмфатычным, чым меркаванне, выражанае сцвярджальным сказам. З'яўленне ў радку гэтага стылістычнага прыёму псіхалагічна абумоўлена жаданнем аўтара выразіць свае адносіны да выказанага або аказаць эмацыянальнае ўздзеянне на слухача. Афектыўны бок паведамлення ў рытарычных пытаннях пераважае над лагічным. Аўтар ставіць рытарычныя пытанні і ў той жа час патрабуе ад слухача і адпаведнай рэакцыі: *Дзе ты, сынку, дзень правёў, / Што і не абедаў?/ Дзень правёў я, дзе гудуць, / Як грымот, гарматы* [1, с. 334]. Сутнасць рытарычнага пытання як стылістычнага сродку заключаецца ў яго асаблівым, узмоцненым уздзеянні на слухача. Гэта ўздзеянне можа насіць лагічны або эмацыянальны характар, у сувязі з чым стылістычныя функцыі разглядаюцца як еднасць лагічнай і эмацыянальнай функцый. Лагічная функцыя выказвання выражаецца ў тлумачэнні, захаваным намёку і ў тых адносінах аўтара, якія ўкладваюцца ім у змест. Рытарычныя пытанні ўзмацняюць эмацыйнае ўздзеянне на

слухача, надаюць яскравую экспрэсіўную афарбоўку, перадаюць разнастайныя душэўныя перажыванні герояў.

Лірычнае пытанне можа быць не разлічана на адказ – яно па сваёй сутнасці безадказнае. Адказ на пытанне застаецца чакаць, таму што на момант маўлення ён, нібы разлятаючыся ў паветры, застаецца невядомым: *Падыйдзі, дзяўчынка, / Ці ж мяне не знаеш?* [1, с. 338].

Вызначальнай асаблівасцю рытарычных пытанняў з пункту погляду зместу выказвання з'яўляецца адсутнасць пытання аб невядомым. Рэпліка, якая ідзе іншы раз за рытарычным пытаннем, не з'яўляецца адказам на гэтае пытанне, яна толькі падкрэслівае станоўчы ці адмоўны змест рытарычнага пытання. У большасці выпадкаў рытарычнае пытанне граматычна аформлена пытальным сказам.

Такім чынам, аналізуючы "Песні на ваяцкі лад" Я. Купалы, адзначым, што важную ролю ў іх адыгрываюць сродкі гукапісу і рытарычныя фігуры. Сам цыкл заснаваны на прыёме паралельнага сінтаксічна-кампазіцыйнага размяшчэння аднатыпных элементаў паэтычнага выказвання і працягвае традыцыі народнай паэтыкі.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Купала, Я. Вершы. Паэмы. П'есы / Янка Купала; прадм. У. Гніламёдава. – Мінск : Харвест, 2007. – 704 с.

2. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / Рагойша В. П. – Мінск: Вышэйшая школа, 1987. – 414 с.

3. Станкевіч, А. А. Рыторыка : вучэбны дапаможнік / А. А. Станкевіч. – Мінск : РІВШ, 2010. – 316 с.

УДК 821.161.3.-1* П. Трус

***Л. П. Дземідзенка***

## МОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ВЕРШАЎ П. ТРУСА

У дадзеным артыкуле разглядаюцца моўныя асаблівасці вершаў П. Труса 20–30-х гадоў. На вялікім фактычным матэрыяле разглядаюцца такія моўныя асаблівасці як ўжыванне прыдатка, ужыванне аказіянальнальных слоў, ужыванне дзеясловаў-сінонімаў, вызначаецца і роля і месца такіх адзінак ў творчай спадчыне паэта.

Творчасць П.Труса 20–30-х гадоў стала значнай з'явай у беларускай літаратуры. Пачатак паэтычнай творчасці паэта прыпадае на той час,

калі беларуская літаратурная мова дасягнула пэўнага ўзроўню граматычнай унармаванасці і стылёвай распрацаванасці. Мова яго вершаў, як правіла, адпавядае агульнанароднаму лексічнаму фонду літаратурнай мовы 20-х гадоў і тым граматычным нормам, што крышталізаваліся ў "Беларускай граматыцы" Тарашкевіча. Характар жа моўна-выяўленчых сродкаў П. Труса абумоўлены рамантычнай экспрэсіяй пачуцця, падкрэсленай метафарычнасцю выказвання, стварэннем новых нечаканых кантэкстаў.

Вядома, кожны пісьменнік або паэт мае права на свой стыль, на свой падыход да выбару моўных сродкаў. Аўтар сам выбірае манеру пісьма, якая вылучае яго сярод іншых майстроў слова, вызначае адметнасць уласнага почырку. Але для гэтага неабходны разнастайныя ў функцыянальных і стылістычных адносінах сродкі.

Індывідуальнасць вершам П. Труса надае частае выкарыстанне складаных назоўнікаў, якія характарызуюцца ў яго вершах яркай вобразнасцю і непаўторнасцю. Асабліва гэта датычыцца эпітэтаў-прыдаткаў, большасць якіх створана паэтам на базе вядомых слоў ў адпаведнасці з патэнцыяльнымі магчымасцямі беларускай мовы.

У адрозненне ад адасобленага азначэння, прыдатак выражае прымету прадмета праз адносіны да яго таго прадмета, які названы самім прыдаткам. У выніку такога супастаўлення двух розных па семантыцы назоўнікаў, той з іх, які выконвае ў адносінах да другога азначальную сінтаксічную функцыю, надае яшчэ своеасаблівую эмацыянальную лексіка-семантычную характарыстыку азначаемаму слову. Гэту стылістычную асаблівасць прыдаткаў удала выкарыстоўвае ў сваіх вершах П. Трус. У яго вершах мы знаходзім:

- прыдаткі, якія поўнасцю адпавядаюць азначаемаму слову: Ой, не яснага сокала крылле, – Праімчалі **дні-сонцавеі**… [1, с. 12]; Гартуйце ў змаганні напорнасці дух, - збіраюцца **хмары-навалы** [1, с. 135]; Як драмалі палі, а ў палях ды туман, ой, **туман-малачай** серабрысты [1, с. 40]; Іду на сельскі сход З **сястрою-камсамолкай** І апяваю ёй **Заводы-гарады** [1, с. 112]; Хочацца навеяць **казкі-таямніцы** Гукамі мелодый, радасцю без слоў [1, с. 125]; Ты захаплялася прамовай, **Лістом-адносікам** ЦК [1, с. 140];

- прыдаткі, якія супадаюць у склоне з азначаемым словам: Сягоння ў **песнях-пералівах** Ты ўспомніш, Вёска, свае дні [1, с. 65]; Мо каб **сэрца-радасць**, Сэрца ў журавінах Акрапіла раны І лісты ў нізінах [1, с. 97]; Знікае **смага-дым,** прачнуліся дубровы, І **песня-гімн** плыве ад лазняка [1, с. 7]; Не слаўце містыкай, хто ў сэрцы мае здраду, Хто ў **сне-агоніі** ўзняў рукі на крыжы [1, с. 114]; А ў палёх, палёх Жоўты ліст палёг, Зацвілі сады **Цветам-шэраннию** [1, с. 99];

- прыдаткі, якія не супадаюць з азначаемым словам у родзе і ліку: Якая ноч.. У маім пакоі **Сон-цішыня** даўно, даўно [1, с. 138]; Выйду ў поле я, У **далячынь-прастор**, Там прывольная Рунь кудравіцца [1, с. 20]; А ў даліне ў цішы **чырвань-кветкі** расцвілі [1, с. 40]; Пазбіраю я **слёзы-расу** І рассыплю ў песні крышталі… [1, с. 42].

Прыдатак, азначаючы прадмет, з'яўляецца другой яе назвай. Часцей за ўсё ў вершах П. Труса яны абазначаюць якасную характарыстыку асобы ці прадмета: Каля постаці кудравіста-аўсянай Я спаткаю **жнейку-маладзіцу [**1, с. 43]; Завіёмся, **красуні-дзяўчаткі**, Калі сэрца агнём паланее [1, с. 48]; І шумяць **аграмадзіны-крыгі,** Разганяюць удаль безупынна [1, с. 23]; Я маўклівы стаяў Пад бальнічным акном… пасцілаліся **сцені-карункі** [1, с. 108]; Там за дуброваю, **жнейкі-красуні** Звоняць сярпамі сталёвымі [1, с. 24].

У сваіх творах паэт у большай ступені выкарыстоўвае неразвітыя прыдаткі, радзей сустракаюцца складаныя: Падаюць **сняжынкі – дыяменты росы**, Падаюць бялюткі за маім акном… [1, с. 138]. Сустракаюцца ў паэта і назоўнікі-сінонімы. Яны раўназначныя па сэнсе і ў сказе выконваюць функцыю аднаго члена сказа: Майго жыцця **шляхі-дарогі** Пяском у ветрах замяло [1, с. 53]; Селі гусанькі - **Гусі-лебедзі**, Палі шэрыя на ваду [1, с. 116]; Па якой жа – тое шчасце, а ці **ліха-гора** мяне стрэне на чужыне, стрэне й пагаворыць [1, с. 126]; Край легенд, крыжоў, **магіл-курганаў**, край тугі – бальзам жывых крыніц [1, с. 132].

Такім чынам, прыдатак стаў яркай рысай моватворчасці П. Труса і, нашу думку, з'явіўся дабратворным узорам для беларускіх пісьменнікаў і паэтаў у іх далейшым пошуку ў галіне вобразна-выўленчых сродкаў.

Жыватворнай крыніцай папаўнення і ўзбагачэння мовы ў пачатку 20-х гадоў была народная мова і тыя словы, якія стараліся пісьменнікамі. Шмат лексем, што ўжываліся ў творах тых гадоў, сёння чытачу незразумелыя. Але ў свой час яны не толькі папаўнялі лексічную сістэму беларускай мовы, а і падштурхоўвалі маладых паэтаў да актыўнага пошуку лексем у народных гаворках, стварэнню новых слоў. Таму нават тыя словы, што сёння здаюцца вымушанымі, нязвыклымі, штучнымі, былі неабходныя ў той час, такая моватворчасць была карыснай для беларускай літаратурнай мовы, якая пачынала выкарыстоўвацца ў многіх сферах ужытку і патрабавала новых сродкаў. Па гэтай прычыне нельга не адзначыць такую моўную асаблівасць вершаў П. Труса, як выкарыстанне аказіянальных слоў. Аналіз такіх аўтарскіх новаўтварэнняў паказвае, што ўтварае іх аўтар самымі рознымі спосабамі:

- ад іменных асноў пры дапамозе суфіксаў -і (-ы) са значэннем дзеяння паводле значэння ўтваральнай асновы:

- **крышталіць, крышталіцца ‘ззяць, блішчаць’**: Сыплюцца каплі вады І **крышталяцца** ў возеры сінім [1, с. 39];

- ад іменнай асновы пры дапамозе прэфікса ад- + -іва- - і абазначае працяглае неабмежаванае дзеянне:

**адкаваліваць ‘адразаць’: Адкаваліваюць** скібы Коні гакамі падкоў Робіць поле на сядзібы З воспай выбітых карчоў [1, с. 53];

- ад прыметнікавых асноў суфіксальным спосабам і абазначае дзеянне паводле прыметы, названай утваральнай асновай:

**вішнёвіць** ‘**палымнець, узбуджаць**’: Калыхала песня вольнае бязмежжа, А ў грудзях сярмяжных, Ой, **вішнёвіць** жар! [1, с. 14];

- ад вытворнага прыметніка + -асць. Назоўнікі на – асць утвараюцца ад вытворных асноў суфіксальных прыметнікаў з суфіксамі: -ав (-ов):

**каляровы – каляровасць**: Нямая бель…Гаі, Дубровы…Маўчаць за возерам стагі, Згубілі вербы **каляровасць,** А там …снягі…снягі…снягі… [1, с. 56];

- шляхам аснова- і словаскладання:

**веснаплынь – вясна і плынь:** Зазвінелі зімовыя крыгі **Веснаплынь** **[**1, с. 90];

**светацень – свет і цень:** Жыццё ў адвечных летуценнях І ўсё аддам я для жыцця, Калі ў чароўных **светаценях** над краем ружы шалясцяць [1, с . 54].

Як сведчыць прааналізаваны матэрыял, новаўтварэнні з’явіліся ў мове твораў П. Труса невыпадкова, а ў сувязі з неабходнасцю перадаць новыя паняцці, якім не было адпаведнікаў у беларускай літаратурнай мове, а таксама таму, што нарматыўнымі лексічнымі сродкамі нельга было дакладна перадаць арыгінальнасць, навізну і свежасць выкладу.

Да асаблівасцей мовы П. Труса нельга не аднесці і такую асаблівасць, як выкарыстанне вялікай колькасці дзеясловаў-сінонімаў. Выкарыстанне іх аўтарам накіравана перш за ўсё на тое, каб замацаваць, падкрэсліць і выдзеліць пэўны змест, не апошняе месца займаюць дзеясловы-сінонімы і пры стварэнні мастацкай выразнасці і вобразнасці мастацкага твора. Яны нясуць даволі значную нагрузку як у сэнсавым, так і ў эмацыянальна-экспрэсіўным аспекце. Выкарыстаныя дзеясловы-сінонімы, якія размешчаны паслядоўна, адзін за адным, не дубліруюць сэнс з мэтай толькі выдзялення, падкрэслівання слова, яго гучання, сэнсу, як гэта заўважна пры лексічным паўторы, а, як правіла, служаць функцыі пашырэння інфармацыі, узмацнення яе гучання. У вершах П.Труса знаходзім:

- семантыка-стылістычныя сінонімы – словы, якія адрозніваюцца аб’ёмам семантыкі і стылістычнай прыналежнасцю: Гэта звоніць малатарня гулкім рогатам з грудзей, Дзе-нідзе ўжо сячкарня **загамоніць, загудзе** [1, с.45]; А як устанеш рана-рана, На вадзе вянкі завянуць, - Будзеш **плакаць і журыцца**, Слёзы высушыць крыніца [1, с. 33];

- кантэкстуальныя сінонімы – лексічныя адзінкі, якія не маюць сэнсавай сувязі і зближаюцца толькі ў пэўным кантэксце: Праімчалі дні-сонцавеі, І гаі **адцвілі, адзвінелі**… Ветры буйныя сум паразвеялі, Як туман залаты па вясне [1, с. 12]; Жыццё **хвалюецца і пеніцца** сягоння, З грудзей зямлі змывае смутак-жаль [1, с. 7]; Ціха журацца ў лісці асеннім Саламяныя шэрыя вёскі… **Зацвілі, завіліся** ў дэсэні Маіх песень лісты і пялёсткі [1, с. 12]; Сёння з вамі на красках-пракосах **Абніму, расцалую** вясну [1, с. 48];

- семантычныя сінонімы – словы, што абазначаюць адно і тое ж паняцце і адрозніваюцца аб'ёмам семантыкі: З усмешкай радаснай і кволай Завяла сінь на верасах, Дзе вербы **хіляцца** дадолу, Дадолу **гнуцца** ў паплавах [1, с.18].

Сінонімы, як і іншыя вобразна-выяўленчыя сродкі паэтычнага маўлення, з'яўляюцца складальнікамі вобразнасці. Дзеясловы-сінонімы ў вершах П. Труса падабраны так, што агульнасць іх семантыкі дапаўняецца аднолькавай колькасцю складоў, адным і тым жа націскным складам, паўтарэннем прэфіксаў: Ой, у полі тры таполі На яр **пахіліліся.** Нізка **нахіліліся** [1, с. 35]; Гэта звоніць малатарня гулкім рогатам з грудзей, Дзе-нідзе ўжо сячкарня **загамоніць, загудзе** [1, с. 45]; Праімчалі дні-сонцавеі, і гаі **адцвілі, адзвінелі**… Ветры буйныя сум паразвеялі, Як туман залаты па вясне [1, с. 12].

Як відаць з прааналізаваных прыкладаў, ужыванне дзеясловаў-сінонімаў ў вершах сведчыць перш за ўсё пра майстэрства П. Труса выкарыстоўваць іх, выяўляючы пры гэтым розныя формы іх ужывання і самыя разнастайныя функцыі – узмацнення, удакладнення і акцэнтацыі семантыкі асобных слоў.

Мова кожнага пісьменніка – гэта сістэма па-мастацку асэнсаваных агульнаўжывальных і індывідуальных моўных сродкаў, якая служыць для выражэння ідэй, думак, пачуццяў пісьменніка ў мастацкім творы. Асноўным элементам мовы пісьменніка з'яўляецца слова. Ад таго наколькі ўдала ён карыстаецца гэтым словам залежыць дакладнасць, індывідуальнасць і непаўторнасць адлюстравання з'яў рэчаіснасці. Багацце мовы пісьменніка характарызуецца колькасцю слоў, глыбінёй і разнастайнасцю індывідуальнага аўтарскага выкарыстання іх спалучальных магчымасцей, сэнсавых адценняў, гукапісных і выяўленчых сродкаў. Нягледзячы на тое, што П. Трус пражыў такое кароткае жыццё і падараваў нам невялікую колькасць сваіх твораў, яго з поўным правам можна лічыць мастаком слова.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Трус, П. Выбраныя творы / П. Трус. – Мн.: Беларусь, 1967. – 143 с.

УДК 811.161.2’371л

*А. В. Мартакова*

# СТИЛІСТИЧНИЙ ЕФЕКТ МОВНОЇ ІГРЕМИ В УКРАЇНСЬКІЙ ПОЕЗІЇ ПОСТМОДЕРНУ (НА МАТЕРІАЛІ ТВОРІВ ЛІТГУРТУ БУ-БА-БУ)

У статті представлено лінгвостилістичний аналіз мовних ігрем – маркерів художнього ідіостилю представників українського літературного гурту Бу-Ба-Бу (80-ті роки ХХ ст.). На матеріалі поетичних текстів літгурту Бу-Ба-Бу продемонстровано особливу роль ігреми як основного коду української поезії постмодерну 80-х років ХХ ст. Проаналізовано своєрідність використання потенціалу мовної гри як особливого стилетвірного чинника постмодерного поетичного тексту в його авторській інтерпретації. У статті прокоментовано дефініцію поняття ігреми та її різновидів, здійснено лінгвістичний аналіз поетичних творів бубабістів на предмет вживання такого стилістичного явища, як мовна ігрека в її різних проявах.

Як відомо, одними із важливих складників будь-якого поетичного твору є мовні одиниці, що є основними трансферами культурно значущої інформації в суспільні кола. Саме такі мовні одиниці акумулюють коди світоглядної парадигми нації у ХХ столітті, що визначається дослідниками як епоха постмодернізму. Характерними особливостями цієї культурної епохи є оперування специфічними мовними одиницями, серед яких домінантним вважається феномен мовної гри. Терміном «мовна гра» позначають «ті явища, коли мовець «грає» з формою мовлення, коли вільне ставлення до форми мовлення співвідноситься з естетичним завданням. <…> це може бути і невинний жарт, і вдала іронія, і каламбур, і різні види тропів (порівняння, метафора, перифраза тощо)» [3, с. 172]. В. З. Санніков називає мовною грою «всяке умисно незвичне використання мови (наприклад, для створення художнього ефекту)» [6, с. 3] і розглядає її як одну з форм лінгвістичного експерименту, дослідження якої було започатковане О. М. Пєшковським та Л. В. Щербою. В українській лінгвістиці зміст мовної гри співвідноситься зі структурою мовних одиниць та їх стилістичними функціями. Сучасні дослідження мовної гри спрямовані переважно на вияв її структурних і стилістичних особливостей у різних контекстах, зокрема й у поезії бубабістів, чому присвячена подана розвідка. І.Е. Сніховська мовну гру розуміє як «процес і результат свідомої лінгвокреативної діяльності індивіда, спрямованої на нестереотипне варіювання форми та змісту мовних одиниць на ігровому регістрі комунікації з метою впливу на емоційну та/або інтелектуальну сферу адресата»[7, с. 6].

В останні десятиліття XX – початку XXI століття в лінгвістиці з’явилося чимало різноманітних досліджень, присвячених обсервуванню особливостей використання мовної гри в різних дискурсах східнослов’янського мовознавства та літературознавства: розмовному (В. А. Агеєва, Е. А. Земська, М. В. Китайгородська, Н. Н. Розанова), художньому (Т. А. Гридіна, Б. Ю. Норман, В. З. Санніков, Т .В. Устинова), масс-медійному (С. В. Ільясова) та ін. В україністиці проблеми мовної гри як багатоаспектного феномену цікавлять Ф. С. Бацевича, Г. Г. Грабовича, Т. І. Гундорову, Н. Зборовську, С. М. Квіта, Т. А. Космеду, Н. В. Кондратенко, О. О. Маленко, Г. М. Сюту, І. Е. Сніховську, О. В. Халіман та багатьох інших. Саме багатоплановість та невизначеність поняття мовної гри є першопричиною невичерпного її вивчення, що й становить актуальність лінгвістичного дослідження із цієї проблематики.

Мета поданої статті полягає у виявленні маркерів художнього ідіостилю поетів-вісімдесятників на предмет використання мовної гри як самостійного художнього прийому та виокремлення її лінгвостилістичних прийомів в українській поезії постмодерну на матеріалі творів представників літгурту Бу-Ба-Бу.

Дискурсивним засобом мовної гри на лексико-семантичному рівні виступає ігрема. За Л. В. Лисоченко ігрема «створюється в процесі взаємодії мовних одиниць прототипа (слова, словосполучення, речення, певної пунктуації) та (псевдо) мотиватора в асоціативному умовно-реальному ігровому полі. Останнє є специфічним асоціативним контекстом формально-семантичного варіювання лінгвальних знаків, необхідних для виявлення парадоксу та його нетрадиційного використання» [8].

«Ігрема в єдності та різноманітності її формально-граматичного, когнітивно-семантичного та комунікативно-прагматичного аспектів становить базову одиницю мовної гри. Ігрема є евристично значущою одиницею в дискурсивній діяльності мовної особистості й має лінгвокогнітивні та прагматичні параметри. Механізми створення ігреми демонструють нерозривний зв’язок когнітивно-семантичного, функційно-комунікативного та вербального планів» [там само].

За І. Г. Сніховською, «основу механізму створення ігрем складають, передусім, відхилення від норм уживання мовних одиниць, наслідком чого є виникнення ефекту несподіваності та протиріччя» [9].

Як відомо, важливим показником індивідуального авторського стилю слугує художня деталь – значущий виражальний елемент художнього твору, який має потужне смислове та ідейно-емоційне навантаження [4, с.115]. Саме ігрема становить вище згадану деталь творення постмодерного поетичного тексту, є визначальним маркером художнього ідіостилю поетів-бубабістів.

Проведений стилістичний аналіз творів літгурту Бу-Ба-Бу дає підстави констатувати, що в досліджуваних текстах представлені ігреми різноманітних підтипів: лексико-семантичного, граматичного, фонетичного, фонографічного, орфографічного, графічного, пунктуаційного та ін. Увагу поданої розвідки привернули ігреми, виражені саме на графічному рівні організації постмодерного тексту. «Останнім часом через функційне послаблення ритмічного, інтонаційного, фонетичного рівнів значно зростає роль елементів графічного рівня в поетичних творах» [5, с. 70–71], тому вивчення графічної ігреми відповідає синхронним векторам аналізу поетичного тексту щодо вияву його індивідуально-авторської й художньо-естетичної специфіки.

У сучасній поезії основною тенденцією, пов'язаною з графікою, є відсутність у текстах розділових знаків та великих літер, що робить текст графічно нейтральним, надає форми внутрішнього потоку свідомості, наприклад: *шабадабада шабадабада / мужчина і жінка / шабадабада шабадабада / двадцять років по тому / напевно і неодмінно / зустрінуться знову / і говоритимуть про / шабадабада шабадабада* [1, с. 238]; *в'язко мені казко / гнітко мені квітко / мілко мені гілко / гірко мені зірко* [1, с. 103]; *ти йдеш одна між лілій / сорочки носиш білі / малюєш очі де / ревам / ти королева де / білів* [1, с. 307]; *у лондоні крульова є / варижі сиві шансоньє / у львові базьо пиво п'є / за щастя наше і своє* [1, с. 307];*…твій крик як прірва сон твій без кінця / слабий твій шепіт згадує отця / і сина і свя… череп твій між вух / стартує в ніч твій зіржавілий дух* [1, с. 335]. Смислова розірваність, відсутність семантичної зв'язності між сегментами контексту, зумовлені відповідною графічною й пунктуаційною організацією, репрезентують постмодерне розуміння буття як хаотичного, невпорядкованого простору, якому бракує логічних і причинно-наслідкових зв'язків.

Незвичне, ненормативне написання слів, вживання великої літери в позиціях, що виходять за межі правил української орфографії: *десь любов моя на Ринку заблудила, десь отам, між ренесансом і бароко…*[1, с. 78]; *Ми не просто Хтось Там, – / Ми є Бубабісти. / Вас навколо Себе / Будем гуртувати. / Прирекло Нам Небо / Груш не оббивати – / МАСИ ТУРБУВАТИ* [1, с. 227]; *– Малюйте БАБУ голу БУ / гуБАми дивиться доБа / БУ дифірамБАм БУ таБУ / вам зуби вставить БУБАБУ / росте поезія з горБа / в горбі з грошима боротьБА / та Бунтом Бу-де БУБАБУ / від азБУк голова слаБА / гуБАми виБУхає Бард / чим світ сичит – кричить театр / зіграєш вірш якого варт / потрапиш в рай (чи на монмарт) / БУ смерті і безсмертю БУ / і БУ і БА і БУБАБУ* [1, с. 304]; *в двері де / сто ти / ГЛИХ ЗЛИХ / душ дим / тчуть?* / шепче / швидше! / ще!!! / О-ЧІ-БА-ЧІ-ВУ-ХА-ДУ-ХА / ніііііііііс-с-с-с-с-с… – Хто волоссям зливен? / – ХТО ХОДОЮ ДИВЕН? / – ДЕДЕЯК! [1, с. 305]; навмисне повторення чи передача всіх артикуляційних рис мовлення персонажа відіграє важливу

стилістичну роль, допомагаючи авторові в його задумі деталізувати портрет особи чи яскраво описати ситуацію: *Тож оформи неодмінно / Переплату в Ню-Йорк / на журнал «Украина», / І ра-адной «Аганьок»!..* [1, с. 232]; *Каже: « Наравиццяя дуже мини / Американський писатель Селінжер».* [1, с. 249]; *Дівчата ридають: «Торвік! Боракне-е! / Невже він з нас жодної… не… боракне?!»* [1, с. 251]; *З поетичних бомбосховищ / Виліз рій нових страховищ: / Небурак і Антрухович, / Риммарук, Б'уряк, Мал-кович… / Ряпчукові буде користь / З дзеленчання їхніх лір? / Крук говорить, «Ні, не вір!»* [1, с. 260].

Велика літера репрезентує в такому контексті емотивно-оцінну наснаженість, урочистість, демонструє виокремлення об'єкта з ряду інших, його особливість. Мала літера, навпаки, зменшує ціннісну вартість слова, постає маркером зневаги або байдужості.

Графічна ігрема постмодерного тексту на рівні оформлення слова або фрази може доходити до порушення меж між ними чи збільшення інтервалів між самими літерами: *Ляля-Бо / хоче повну свобо / і летіти за об / рій зірок безтурбо / тно-на-дно / доно уно і вино / бо душа в Лялі-Бо – / українська* [1, с. 309]; ти королева де / білів / ти-ди-ка-ко ро лева / танцюємо в повітрі / Я МОЖУ ПО-ВТО-РИТИ [1: 307]; *А все не починається майбутнє. / А все той час т е п е р і ш н і й трива.* [1, с. 228]; *Ну, хай там хтось поїде / послом – його усе-таки послали. / Він – о ф і ц і й н о післаний. / Добув такої слави.* [1, с. 344]. Подібні ігри з графічним оформленням вірша стали сміливим викликом традиційному впорядкуванню поетичного тексту, спробою зруйнувати стереотипи поетичного мислення та його вербалізації в добу постмодерного мистецтва, що було розцінено офіційною критикою як деструкція та епатаж. Проте сучасну лінгвопоетику все більше цікавить саме такий, неординарний, індивідуально-креативний зріз художнього текстотворення, у якому слово почувається без формально-змістових обмежень і перестророг.

Підводячи підсумок, хочемо підкреслити, що ігрема як маркер художнього ідіостилю, може бути виявлена на рівні різних підтипів та парадигм. Формат поданої розвідки окреслює певні межі аналізу тексту, тому в подальшому класифікація форм вираження ігреми в тексті буде доповнюватися й поглиблюватися. Активізація дослідження маркерів художнього тексту зумовлена стрімким розвитком істотно нового, недостатньо вивченого феномену постмодерну в українській літературі.

**Список використаних джерел**

1. Бу-Ба-Бу: Вибрані твори: Поезія, проза, есеїстика / [Авторський проект]; упоряд., бібліограф. Відомості та прим. Василя Габора. – Львів: ЛА «Піраміда», 2008. – 392 с.

2. Валгина, Н. С. Активные процессы в современном русском языке / Н. С. Валгина. –М. Ж Логос, 2001. – 304 с.

3. Земская, Е. А. Языковая игра / Е. А. Земская, М. В. Китайгородская, И. Н. Розанова // Русская разговорная речь. Фонетика. Морфология. Лексика. Жест / [отв. ред. Е. А. Земская.]. – М. : Наука, 1983. – С. 172–214.

4. Кухаренко, В. А. Інтерпретація тексту: навч. пос./ В. А. Кухаренко. – Вінниця : НОВА КНИГА, 2004. – 272 с

5. Лотман, Ю. М. Анализ поэтического текста. Структура стиха / Ю. М. Лотман. – Л.: Просвещение, 1972. – 272 с.

6. Санников, В. З. Русский язык в зеркале языковой игры / В. З. Санников. – [2-е изд., испр. и доп]. – М. : Языки славянской культуры, 2002. – 552 с.

7. Сніховська, І. Е. Механізми, засоби та прийоми мовної гри в сучасній англійській мові: автореф. дис. канд. філол. наук: спец. 10.02.04 "Германські мови" / І. Е. Сніховська. – Запоріжжя, 2005. – 20 с.

8. Лисоченко, Л. В., Лисоченко, О. В. Языковая игра на газетной полосе в свете металингвистики и теории коммуникации. Языковая игра как феномен современной русской речи.[Електронний ресурс] – Режим доступу: // http://mydisser.com/ru/catalog/view/312/771/22386.html . – Назва з екрану. – Дата звернення:23.09.2015.

9. Сніховська, І. Е. Механізми, засоби та прийоми мовної гри в сучасній англійській мові. – Анотація до дисертації на здобуття наукового ступеня канд. філол. наук: спец. 10.02.04 "Германські мови". – Житомирський державний університет імені Івана Франка. Житомир, 2004. .[Електронний ресурс] – Режим доступу: // http://disser.com.ua/content/32153.html#download. – Назва з екрану. – Дата звернення:23.09.2015.

УДК 811.161.3’42:821.161.3 – 1* М. Скобла

***Л. В. Паплаўная***

## ПАЎТОРНАЯ НАМІНАЦЫЯ Ў ПАЭТЫЧНАЙ МОВЕ МІХАСЯ СКОБЛЫ

У артыкуле аналізуюцца фігуры паэтычнага сінтаксісу, заснаваныя на паўторах, вызначаецца іх стылістычная роля ў мове паэтычных твораў Міхася Скоблы.

Важным спосабам арганізацыі вершаванай мовы выступае такі сродак паэтычнага сінтаксісу, як паўтор. Паўтор з’яўляецца пачаткам усіх узроўняў і аспектаў паэтычнага маўлення: фанетычнага, лексічнага і сінтаксічнага.

Паўторы не з’яўляюцца паказчыкам беднасці аўтарскай мовы, абмежаванасці выкарыстання моўных сродкаў, наадварот, яны сведчаць аб умелым абыходжанні аўтара са словам. Паўторы ў паэтычным тэксце

з’яўляюцца адным з асноўных сродкаў моўнай экспрэсіі, выступаючы разам з тым у якасці “неабходнай структурнай прыметы звязнага тэксту” [1, с.182]. Яны выконваюць у паэтычнай мове дзве асноўныя функцыі:

1. Выступаюць актыўным стылістычным сродкам славесна-моўнага абазначэння ўжо названага аб’екта.

2. З’яўляюцца сродкам сувязі паміж рознымі сінтаксічнымі канструкцыямі ў тэксце.

Паўтор уяўляе сабой парушэнне пэўнай сінтагматычнай паслядоўнасці, таму пераўтвараецца ў экспрэсіўны сінтаксічны прыём. Паўтарацца могуць гукі, марфемы, словы, словазлучэнні і нават сказы. Таму выдзяляюцца розныя віды паўтораў – фанетычныя, марфемныя, лексічныя і сінтаксічныя.

Фанетычны паўтор заснаваны на паўторы гукаў і іх спалучэнняў, а гукавая арганізацыя вершаванай мовы з’яўляецца адным з важнейшых прыёмаў экспрэсівізацыі паэтычнага тэксту. Фанетычныя паўторы надзвычай разнастайныя і прадстаўлены ў паэзіі Міхася Скоблы такімі стылістычнымі фігурамі, як алітэрацыя, асананс, гукавая анафара, гукавая эпіфара, гукавое кальцо і полісіндэтон.

**Алітэрацыя** – старажытны стылістычны прыём узмацнення выразнасці паэтычных твораў, заснаваны на паўторы аднародных зычных гукаў у вершаваных радках.

_Тры**с**та летаў **с**пяліў жалуды,_
_Дзве**с**це памятаў гола**с** Адамаў._
_**С**то ў дупло не пу**с**каў халады –_
_**С**вечку **с**тавіў па ім на Дзяды._
_**С**мерць **с**у**с**трэў у абдымках кайданаў_ [3, с. 4];
_**В**ісіць **в**ясёлкі **в**осілка_
_Над гаем і над лугам._
_Пакруч**в**аецца **в**озера_
_Ганчарным кругам_ [3, с. 1].

**Асананс** – стылістычны прыём, які прадвызначае сугучнасць галосных гукаў у рыфме ці паўтарэнне аднолькавых галосных. Як і алітэрацыя, асананс дапамагае паэту падкрэсліць асобныя словы, узмацніць інтанацыйна-гукавую выразнасць верша, надаць яму асаблівую мілагучнасць:

М**_о_**р**_а_** _в**о**стр**а**в**а**м_
_Мр**о**іл**а** с**о**нечным,_
_М**о**кры в**о**сеньскі_
_Бераг **а**дс**о**ўв**а**ючы_ [3, с. 10];
_Кахан**ы** тр**ы**ццаць тр**ы** раз**ы**_
_І тр**ы**ццаць тр**ы** раз**ы** праклят**ы**,_

*Я ўкленчу там пад абраз**ы**…*
*Мне страшна будзе йсці дахат**ы*** [2, с. 1].

Для вершаў М.Скоблы характэрна частае выкарыстанне такога віду паўтору, як **гукавая анафара**.

Да гукавой анафары адносіцца ўжыванне ў пачатку вершаваных радкоў адных і тых жа гукаў або іх спалучэнняў:

***І*** *кожнай былцы вечнае наўме,*
***І*** *мурашу прымроіцца бяссмерце.*
***І*** *будзе ў борце одумна пчале,*
*Забудзецца ручай пра шлях няблізкі…*[3, с. 11];
*Схіляюцца ў светлай пакоры,*
***Да****зволіў якую Ўсявышні,*
***Да*** *гэтай святой, непадсуднай,*
***Да*** *гэтай звычайнай старой* [3, с. 8];

У паэтычнай мове М. Скоблы ўжываецца і супрацьлеглая анафары фігура – **гукавая эпіфара**, якая заснавана на паўтарэнні аднолькавых гукаў у канцы вершаваных радкоў ці строф:

*Верш безабаронны – што ж вы, што **ж**?!*
*Пад но**ж**.*
*Край, дзе ліўні ходзяць басано**ж** –*
*пад но**ж**.*
*Бесядзь і зеленавокі Со**ж** –*
*пад но**ж**.*
*Маладзік, бяссоння не трыво**ж**…*
*Пад но**ж*** [4, с. 7].

Эпіфара надае паэтычным радкам Міхася Скоблы мастацкую выразнасць, глыбіню і змястоўнасць. Паэт вельмі часта выкарыстоўвае гэтую фігуру для ўзмацнення пачуццёвага напалу выказвання, падкрэслівання пэўнай думкі, стварэння кампазіцыйнага і рытмічнага малюнка.

Даволі часта ў паэтычных радках М.Скоблы сустракаецца такая фігура паэтычнага сінтаксісу, як гукавое кальцо.

**Гукавое кальцо** – паўтарэнне аднолькавых гукаў ці гукаспалучэнняў на пачатку і ў канцы асобных радкоў:

***К****рыж, ды півоні, ды месячы**к**…*
*Выйсці на волю*
*Хацеў да людзей –*
*Дротам звязаны веснічкі* [2, с. 1];
***І*** *алені ўстаюць на кален**і**.*
***Н****а парэпаных лапах ялі**н***
*Выпаўз ельнік на мокрае ўзлессе,*
*І глядзела вада з каляін…* [2, с. 2-3].

Кальцо адыгрывае значную структурна-кампазіцыйную ролю і заключае ў сабе сэнсава-эмацыйную нагрузку: гукі, словы ці радкі, якія “бяруць тэкст” у кальцо, – апорна моцны момант тэксту, у іх – тая асноўная думка, у якой, магчыма, ідэйны змест верша.

Да стылістычных фігур, заснаваных на паўторы, адносіцца і полісіндэтон.

**Полісіндэтон (або шматзлучнікавасць)** – фігура паэтычнага сінтаксісу, сутнасць якой заключаецца ў выкарыстанні адных і тых жа злучнікаў паміж сказамі і аднароднымі членамі сказа. Полісіндэтон выкарыстоўваецца з мэтай перадачы маўлення эмацыянальнага, напружанага:

***І*** *месяц,* ***і*** *ясныя зоры,*
***І*** *сонца,* ***і*** *ў квецені вішні,*
***І*** *сонны асвер па-над студняй,*
***І*** *белых капусніцаў рой –*
*Схіляюцца ў светлай пакоры…* [3, с. 8];
*Ды няма аб што бразнуцца,*
***каб*** *пасыпаўся тынк са сцяны,*
***каб*** *пахіснуліся вушакі,*
***каб*** *спыніўся спалоханы запознены*
*цягнік* [4, с. 17].

Полісіндэтон выдзяляе кожны аднародны член, падкрэсліваючы яго ролю, і адначасова стварае адзінства пералічэння, узмацняючы выразнасць выказвання. У паэтычнай мове М. Скоблы полісіндэтон запавольвае тэмп паэтычнага выказвання і надае яму ўзнёсласць.

Найбольш цікавымі і частымі ў паэтычнай мове Міхася Скоблы з’яўляюцца марфемныя паўторы, калі могуць паўтарацца каранёвыя ці афіксальныя марфемы. Паводле пазіцыі і размяшчэння ў паэтычным радку яны бываюць кантактныя і дыстантныя. У паэзіі М.Скоблы пераважаюць дыстантныя каранёвыя паўторы. Яны выконваюць ролю звязнасці, узмацнення сэнсу і ідэйнай значнасці паўтораных слоў, а таксама аб’ядноўваюць размешчаныя на пэўнай адлегласці адзінкі тэксту і спалучаюць іх паміж сабой:

***Салавей*** *мой месяцавокі*
***Салавеў*** *і суцішваў спеў.*
*Знерваваны і адзінокі,*
*Па-над студняй асвер рыпеў* [4, с. 5];
*Ты з крымскіх гор у снах маіх бяжыш*
*У слуцкае вясёлкавае лета.*
***Кахай*** *мяне,* ***каханая****, любі ж –*
*Адзінае, чаго як ласкі звыш,*

*Спакон вякоў вымольвае паэта* [4, с. 3];
*У касцёле – **маліся** й кленчы.*
*З цёмнай крыпты*
*Сырой зімою*
*У **малітву** прасіўся…* [4, с. 4];
*Здымкі класіка. Профіль. Анфас.*
***Лёс**, выходзіць, вас песціў і **лёсціў**.*
*Выдавалі штомесячна вас –*
*Нават гіпсавы Пушкін зайздросціў* [4, с. 6].

Адным з відаў частковага паўтору ў паэзіі Міхася Скоблы з'яўляецца афіксальны, як правіла, прэфіксальны паўтор. Гэты від паўтору актуалізуе значэнне афіксальных марфем і садзейнічае рытмізацыі маўлення:

*І лес **за**плача**, за**рагоча,*
***За**скача**, за**дрыжыць**, за**кленчыць,*
*Прадацца д'яблу не **за**хоча*
*І ў немым сполаху **за**кленчыць* [4, с. 12];
***Аква**чаўны. **Аква**лісты.*
***Аква**сцяжына. **Аква**клумбы.*
***Аква**паветра. **Аква**ты* [4, с. 2].

Марфемныя паўторы дазваляюць паэту структурна выдзеліць найбольш значныя ў сэнсавых адносінах словы, умела абыграць сугучнасць іх знешняй формы і адметнасці значэння.

Лексічныя паўторы звязаны з паўтарэннем асобнай лексемы ў паэтычных радках. У паэзіі Міхася Скоблы найбольш пашыраны лексічная анафара, паліптатон і эпанодас.

**Лексічная анафара** – паўтарэнне аднолькавых слоў у пачатку вершаваных радкоў. Паўтараемая лексічная адзінка можа адносіцца да розных часцін мовы. Найчасцей у паэтычнай мове аўтара паўтараецца займеннік і назоўнік:

***Ён** прахалоду нёс засмяглым вуснам,*
***Ён** целы атуляў салодкім хмелем,*
***Ён** затуляў нас воблакам спакусным,*
***Ён** налятаў дажджом свавольна-смелым* [4, с. 2];
***Верш** няўзнак становіцца маленнем.*
***Верш**, нібы ружанец, не парвеш.*
***Верш** – тастамант прышлым пакаленням.*
***Верш** – як галаснік у проймах веж* [4, с. 12-13].

**Паліптатон** – фігура маўлення, заснаваная на паўторы аднаго і таго ж слова ў розных формах. Граматычная змена лексемы стварае дадатковы стылістычны эфект і павышае экспрэсіўнасць выказвання:

*Пакуль язмін ляціць на падваконнік,*

*І хіліцца да шыбаў белы май,*
***Мая** кіфара, **мой** губны гармонік,*
***Мая** ты акарына, не змаўкай* [3, с. 5];
*Абручамі задушаны **дуб**,*
*Бы ў каморы кадушка з расолам!*
*Не загадана лекаваць.*
***Дуба** даў – пацвяляюцца здані.*
*Дзе ж мы будзем волю каваць,*
*Як **дубоў** на радзіме не стане?* [3, с. 4];
*Касавурыцца моўчкі шкаляр*
*На **Купалу**-ордэнаносца.*
*Вось **Купалу** машына вязе,*
*Вось **Купала** заняты гаворкаю.*
*Вось **Купала** стаіць у чарзе –*
*Не па хлеб, па аўтограф да Горкага* [4, с. 6].

**Эпанодас** – фігура маўлення, якая ствараецца паўторам слоў у сказе ў адваротным парадку. Такі незвычайны паўтор слоў з асаблівай сілай падкрэслівае значэнне паўтораных слоў, вядзяляе іх з кантэксту, акцэнтуе на іх ўвагу:

*І ў тым гатэліку заспаным,*
*Стамлёным частаю гульбой,*
*Я быў на небе. **Сёмым самым**.*
*На **самым сёмым** быў з табой* [3, с. 3];
*І зноў тысячы рук,*
*Не знайшоўшы прывычнае клямкі,*
***хапаюць і тузаюць,***
***тузаюць і хапаюць*** [5, с. 17].

Эпанодас называюць люстраным паўторам. У ліку іншых прыёмаў ён вызначаецца сваёй арыгінальнасцю і вялікім экспрэсіўным патэнцыялам.

Трэба адзначыць выпадкі выкарыстання ў вершах М. Скоблы даволі рэдкай і цікавай з’явы – **сімплакі** – фігуры, у якой спалучаецца анафара і эпіфара – адначасовы паўтор слоў у пачатку і ў канцы сумежных радкоў:

*Каханая, пад каляснiцай Феба*
*Сінее пазалочанае неба,*
***А мне, як** хлеб штодзённы **ты патрэбна**,*
***А мне, як** сон штоночны, **ты патрэбна*** [4, с. 2];
***Самыя** пяшчотныя рукі –*
***матчыны**.*
***Самыя** лепшыя песні –*
***матчыны**.*
***Самыя** мудрыя словы –*
***матчыны**.*

*Самае страшнае на свеце –*
*праклён Маці.* [2, с. 8].

Сінтаксічныя паўторы звязаны з паўтарэннем у паэтычнай мове аднолькавых сінтаксічных канструкцый. Да іх адносяцца сінтаксічная анафара і сінтаксічная эпіфара.

**Сінтаксічная анафара** – паўтарэнне ў пачатку радкоў аднолькавых ці аднатыпных сінтаксічных канструкцый:

***Пакіньце мне*** *іх боскі спеў.*
***Пакіньце мне****, – я не манах,*
*Што зачыніўся ў змрочнай келлі…* [2, с. 1];
***Толькі ў лазні*** *мы ўсе – адно.*
***Толькі ў лазні*** *усё відно.*
*Лазня – свята ў будзённы дзень.*
*Лазня ў дружбе – асноў аснова.*
***Толькі ў лазні*** *сквірчыць камень.*
***Толькі ў лазні*** *– свабода слова* [3, с. 11].

Сінтаксічная анафара павышае эмацыянальнасць паэтычнага выказвання, узвышае яго тон, кампазіцыйна арганізуе, аб’ядноўвае асобныя радкі. Анафара ў паэтычнай мове М. Скоблы выконвае структурна-семантычную і экспрэсіўную функцыі: гарманічна ўпарадкоўвае славесна-вобразныя пабудовы або лагічна паслядоўна разгортвае думкі і спрыяе ўзмацненню інтанацыйнага і эмацыянальнага напружання.

Таксама сустракаюцца ў вершах паэта адзінкавыя выпадкі ўжывання **сінтаксічнай эпіфары,** калі паўтараюцца аднолькавыя сінтаксічныя канструкцыі ў канцы паэтычных радкоў:

*Усходзіла сонца –* ***ён біў****,*
*Заходзіла сонца –* ***ён біў****,*
*Пра клопат астатні забыў –*
*Ён волі хацеў для пагоні* [5, с. 1].

Выяўленчыя функцыі эпіфары звязаны з “канцэнтрацыяй увагі на вынік, на яго непазбежнасць, прадвызначанасць” [6, с.289]. З дапамогай эпіфары падкрэсліваецца стабільнасць, бясспрэчнасць канчатковага вываду.

Такім чынам, аналіз функцыянальна-прагматычнай прыроды стылістычных фігур паэтычнага сінтаксісу, заснаваных на паўторах, дазваляе зрабіць вывад аб іх значным эмацыянальным, вобразным, эстэтычным напаўненні ў паэтычнай мове Міхася Скоблы. Разгледжаныя сродкі паэтычнага сінтаксісу дапамагаюць паэту перадаць свой душэўны стан, адлюстраваць дынамізм і напружанасць дзеяння, надаюць паэтычнаму выказванню велічнасць і ўзнёсласць.

дачку, прыгалубіла.) Любая мая! Сардэчная! (З гонарам.) Парода такая! [2, т. 2, с. 71]; Кудасаў (да Стэлы, у прысутнасці Хведара Паўлавіча). *Ну, малайчына. Яна ў нас вельмі акуратная, аператыўная.* Дзякую, Стэла. Значыць, усё ў парадку, Хведар Паўлавіч [2, т. 2, с. 166]; Арына Радзівонаўна (да Верачкі). *Ах ты, шчодрая мая! Ах ты, душэўная мая!* Аж восем штук! Ну, дай бог!.. [2, т. 2, с. 192]; Тамара Паўлаўна (да Арыны Радзівонаўны). *Вы добрая.* (І чамусьці ўздыхнула). *Спагадлівая* [2, т. 2, с. 205]; Прокусаў (да Тамары Паўлаўны). Мілая Тамара Паўлаўна! *Вы – чулая, спагадлівая, адзыўчывая жанчына*, і я вельмі рад, што гэтая скарга звязала нас тут, пазнаёміла нас тут. *У вас столькі шчырасці, душэўнай цеплыні, сердаболля, што вы і мяне заражаеце бацылай даверлівасці да ўсіх людзей, і мне хочацца распахнуць душу зусім насцеж. Вы знаеце, я зайздрошчу вашаму мужу. Шчаслівы ён чалавек!* [2, т. 2, с. 210–211]; Юля (да Юры). *Юра, у вас вельмі чулая душа і вы добры друг*, але… Паглядзіце, – яна паказала на нізкарослы ячмень. – Вось яго работа. А што Каця заробіць? Зразумей, Юрка, не мне гэта трэба, а людзям. Абавязкова перадам акт. Іначай не магу, Юра [2, т. 2, с. 250];

б) кампліменты, якія характарызуюць разумовыя, інтэлектуальныя здольнасці (розум, адукацыю, мудрасць, досціп, праніклівасць): Каравай (да Настаўніцы). ... І не шкадуйце таго хутара. А-а, няма чаго там… А я спалохаўся ўжо. *Ах, якая вы мудрая!* Значыць, і Васіль цяпер з вамі, дома [2, т. 2, с. 29]; Дзед Цыбылька (да Юркі). *Як чотка! Як ясна! Малайчына! Светлая галава!* І дамарошчаны! Ён у мяне завочнік! Тры курсы агораў. А вот чацвёрты і пяты… паедзе туды. На вочны! Кропка! Я сказаў! [2, т. 2, с. 58]; Старая (да Старога, лісліва). *Няма мудрэй за цябе.* Няма дабрэй. Мне цябе бог паслаў як узнагароду за нешта [2, т. 2, с. 73]; Курбатаў (да Наташы). Ты добрая, *ты разумная*, ты цудоўная, ты самая харошая, ты… [2, т. 1, с. 125]; Кавальчук (да Юлі). …*Ты ж разумная дзяўчына, камсамолка, адукаваная,* і для цябе тут, у калгасе, ёсць куды больш важная справа, дзяржаўная… [2, т. 1, с. 195]; Дачка (да брата, заапладзіравала). Бра-а-ва! Малыш! *Ты геній! Ты – Цэзар!!!* [2, т. 1, с. 319];

в) кампліменты, якія характарызуюць знешні выгляд чалавека: Маня (да Арыны Радзівонаўны). О-о, Арына Радзівонаўна на нагах. Добрай раніцы вам! *Вы такая светленькая, свежанькая*, толькі крышку невясёленькая [2, т. 2, с. 188]; Верачка (да Арыны Радзівонаўны). Ымгу… (І раптам радасна) Бабуся! Ты ў нас ма-ла-дзец! Ты ў нас арол сцяпной, казак ліхой! У цябе ціск сто трыццаць пяць на дзевяноста. У тваім узросце гэта… Тэмпература? Нармальная. *Тварык бадзёранькі, у вочках чорцікі гуляюць.* Ты – Сценька Разін [2, т. 2, с. 190]; Маня (да Арыны Радзівонаўны). Ой, Арына Радзівонаўна! Добры дзень. (Лісліва.) *Вы так добра выглядаеце. Ну проста*

– *бабка-ягадка свежанькая…* [2, т. 2, с. 201]; Васіль (разгледзеўшы Маланку, утарапіўся на Юлю, уражаны яе прыгажосцю). *Ух ты!.. Якая прыгожая!* [2, т. 1, с. 178];

г) кампліменты, якія ацэньваюць здольнасці і прафесіяналізм суразмоўцы: Гаспадар (да Старога). *Гляджу я на вас і не нарадуюся. Прэзідэнт-міратворац! А? Гучыць? Грандыёзна! Помнік заслужыў! Пры жыцці* [2, т. 2, с. 107]; Кудасаў (да Ухватава). Што вы, што вы?! *Вы – гістарычная, можна сказаць, фігура*. Калі на тое пайшло – хочаце – я вас правязу. А? Сядайце вярхом. Хочаце? [2, т. 2, с. 135]; Ухватаў (да Бусько). Ну, брат, насмяшыў! *Мастак! У пісьменнікі табе трэба падавацца.* Цяпер ізноў, кажуць, на камедыі дэфіцыт. А тут жывая камедыя. *Ты ж талент, артыст, сатырыст!* [2, т. 2, с. 144]; Антаніна Цімафееўна (да Каліберава). *Ты мне вельмі нагадваеш яго [Суворава].* Ён таксама быў у няміласці, зайздросныя людзі саслалі яго ў глуш. Але праўда сваё ўзяла. Вярнуўся з пашанай. Вось і цябе – прагналі з Мінска… і куды? Нават не ў горад [2, т. 1, с. 130];

д) кампліменты, у якіх адзначаюцца фізічныя асаблівасці чалавека: Верачка (да Арыны Радзівонаўны). … Бабуся! *Ты ў нас ма-ла-дзец! Ты ў нас арол сцяпной, казак ліхой! У цябе ціск сто трыццаць пяць на дзевяноста. У тваім узросце гэта…* Тэмпература? Нармальная. Тварык бадзёранькі, у вочках чорцікі гуляюць. Ты – Сценька Разін [2, т. 2, с. 190];

е) кампліменты, якія раскрываюць умовы жыцця чалавека: Каравай (да Дзеда Цыбулькі). Во, брат! *Колькі год поруч з табой, не адзін пуд солі разам з’елі, а не знаў, што ты жывеш з гэткім размахам!* [2, т. 2, с. 61];

Кампліменты выказваюцца, як правіла, непасрэдна суразмоўцу: Верачка (да Арыны Радзівонаўны). Канечне, сорамна так… прызнавацца, ды… Ну я так перапоўнена, што мне трэба выплеснуць, а то лопну... а каму? Толькі табе. *Ты – мая лепшая падруга. Ты – мая спавядальніца. Ты – мая скарбонка, шкатулка для самых дарагіх рэчаў* [2, т. 2, с. 198]; Маня (да Арыны Радзівонаўны). …Вось ён. Бабуся! *Мілая! Вы ж у нас выручалка. Вы ж у нас добрая. Без вас мы – як без рук…* [2, т. 2, с. 204]; Альфрэд (да Дзюрвіля). Ну, дзякуй, буду спадзявацца. Ну, бывай, Эжэн, бывай! *Ты – мая надзея!..* [2, т. 1, с. 38]; Курбатаў (да Наташы). *Ты добрая, ты разумная, ты цудоўная, ты самая харошая, ты…* [2, т. 1, с. 125].

У адзінкавых выпадках камплімент гаворыцца пра блізкіх суразмоўцы або ў прысутнасці адрасата, які не ўдзельнічае ў размове: Рая (да Наталлі Мікалаеўны). Ну што вы! Я ж ведаю, што вы добрая і *ваш Віктар Васільевіч таксама быў добрым чалавекам.* Нават ён не мог перашкодзіць гэтаму землетрасенню, гэтаму катаклізму [2, т. 2, с. 124]; Хамякоў (да Шугаёва, у

прысутнасці Міці і Юркі). Цесля сам вінаваты. Абазліў людзей… Добра, я сёння ж пашлю яму трактарныя касілкі і стогамятацель… *Ды хлопцы там* (глянуў на Міцю і Юрку) – *арлы* [2, т. 2, с. 236].

У большасці выпадкаў рэакцыя суразмоўцы на камплімент адсутнічае.

Паводле танальнасці камплiменты бываюць сур'ёзныя і жартоўныя.

Сур'ёзныя кампліменты вызначаюцца істотнасцю і важнасцю зместу: Каравай (да Васіля). О-о! *Да ты – сукаваты!* Значыцца, счэпімся. Значыцца – не размінёмся! *Ух ты які!* Ды табе такі прастор тут будзе, такі разгон, што!.. (Па сакрэту.) І на маё жыццё хопіць і на тваё. Друг мой рабінавы! [2, т. 2, с. 9]; Кавальчук (да Юлі). …*Ты ж разумная дзяўчына*, *камсамолка, адукаваная*, і для цябе тут, у калгасе, ёсць куды больш важная справа, дзяржаўная… [2, т. 1, с. 195].

Жартоўныя кампліменты маюць на мэце развесяліць, забавіць чалавека: Верачка (да Арыны Радзівонаўны). … Бабуся! Ты ў нас ма-ладзец! *Ты ў нас арол сцяпной, казак ліхой!* У цябе ціск сто трыццаць пяць на дзевяноста. У тваім узросце гэта… Тэмпература? Нармальная. Тварык бадзёранькі, *у вочках чорцікі гуляюць. Ты – Сценька Разін* [2, т. 2, с. 190]; Каравай(да Юркі). *Ах ты, тэарэтык дамарошчаны, філосаф самадзейны*. Што! (Падумаўшы.) А можа, і праўда… варта падумаць? А? А думаць трэба! [2, т. 2, с. 38]; Дачка (да брата, заапладзіравала). Бра-а-ва! Малыш! *Ты геній! Ты – Цэзар!!!* [2, т. 1, с. 319].

Паводле часавай накіраванасці кампліменты ў мове твораў А. Макаёнка, як правіла, звернуты ў цяперашняе: Маня (да Арыны Радзівонаўны). Ой, Арына Радзівонаўна! Добры дзень. (Лісліва.) *Вы так добра выглядаеце. Ну проста – бабка-ягадка свежанькая…* [2, т. 2, с. 201]; Васіль (разгледзеўшы Маланку, утарапіўся на Юлю, уражаны яе прыгажосцю). *Ух ты!.. Якая прыгожая!* [2, т. 1, с. 178]. Толькі зрэдку яны скіраваны ў мінулае: Рая (да Наталлі Мікалаеўны). Ну што вы! Я ж ведаю, што вы добрая *і ваш Віктар Васільевіч таксама быў добрым чалавекам.* Нават ён не мог перашкодзіць гэтаму землетрасенню, гэтаму катаклізму [2, т. 2, с. 124]; Каравай (да Дзеда Цыбулькі). Ну, дзед! Ну, проста герой! Хадзі сюды! Дай я цябе абніму! Сапраўдны герой! *Не дарма цябе ў грамадзянскую шабляй узнагародзілі!* Была б у мяне, падарыў бы табе яшчэ адну [2, т. 2, с. 43];

Паводле ступені разгорнутасці кампліменты падзяляюцца на сціслыя і разгорнутыя.

Сціслыя кампліменты выражаюцца простымі сказамі – аднасастаўнымі (намінатыўнымі) і двухсастаўнымі, у якіх дзейнік выражаецца займеннікам 2-й асобы, а выказнік – назоўнікам або прыметнікам: Каравай (да Тамары). Та-ак… Без папа не разбярэшся. І што мы павінны рашыць? Што?

*Прынцэса!* [2, т. 2, с. 27]; Прокусаў (да Тамары Паўлаўны). *Багіня!* І ўсё ж мы не падзелім роўна. Нам хоць бы ўціхамірыць, супакоіць, абнадзеіць, і ўсё. І мы пайшлі. А яны хай сядзяць і чакаюць. Рашэння. Выканкома [2, т. 2, с. 219]; Каравай (да Дзеда Цыбулькі). *Ды ты – філосаф!* Гэта што? Школа завочніка? Юркава навука? [2, т. 2, с. 55]; Каравай (да Настаўніцы). ... І не шкадуйце таго хутара. А-а, няма чаго там… А я спалохаўся ўжо. *Ах, якая вы мудрая!* Значыць, і Васіль цяпер з вамі, дома [2, т. 2, с. 29].

Разгорнуты камплімент уяўляе сабой складаны сказ або складанае сінтаксічнае цэлае: Курбатаў (да Наташы). *Ты добрая, ты разумная, ты цудоўная, ты самая харошая, ты…* [2, т. 1, с. 125]; Старая (да Старога). *І ўсё ты ведаеш. Учора старшыня наш пры людзях сказаў, што цябе можна міністрам замежных спраў ставіць ці прэзідэнтам у якую краіну пасадзіць. З павагай сказаў. Кажа: «Што яму рэвізійная камісія? Ён можа ў вялікай дзяржаве парадак навесці». Усё ты знаеш. І праўда, як міністр* [2, т. 2, с. 73].

Паводле прагматычнай устаноўкі кампліменты характарызуюцца шчырасцю і няшчырасцю.

У шчырых кампліментах выражаюцца сапраўдныя, пазбаўленыя падтэксту і прытворства пачуцці: Старая (да Дачкі). *Якая ж ты ў мяне яшчэ дзівачка. Проста з казкі.* (Старому.) Ну, во, а ты гаварыў. А ты выў, скуголіў. Бачыш, якія дзеці ў цябе? (Абняла дачку, прыгалубіла.) *Любая мая! Сардэчная!* (З гонарам.) Парода такая! [2, т. 2, с. 71]; Кудасаў (да Стэлы, у прысутнасці Хведара Паўлавіча). *Ну, малайчына. Яна ў нас вельмі акуратная, аператыўная.* Дзякую, Стэла. Значыць, усё ў парадку, Хведар Паўлавіч [2, т. 2, с. 166].

Няшчырыя кампліменты ў мове твораў А. Макаёнка змяшчаюць іронію, прыкрытую або непрыкрытую: Гаспадар (да Старога). *Гляджу я на вас і не нарадуюся. Прэзідэнт-міратворац! А? Гучыць? Грандыёзна! Помнік заслужыў! Пры жыцці* [2, т. 2, с. 107]; Ухватаў (да Бусько). Ну, брат, насмяшыў! *Мастак! У пісьменнікі табе трэба падавацца.* Цяпер ізноў, кажуць, на камедыі дэфіцыт. А тут жывая камедыя. *Ты ж талент, артыст, сатырыст!* [2, т. 2, с. 144].

Паводле асаблівасцей моўнага афармлення кампліменты, адзначаныя ў мове твораў А. Макаёнка, можна вылучыць у наступныя групы:

а) кампліменты-рытарычныя воклічы (як з ужываннем выклічнікаў і часціц, так і без іх): Каравай (да Васіля). *О-о! Да ты – сукаваты!* Значыцца, счэпімся. Значыцца – не размінёмся! *Ух ты які!* Ды табе такі прастор тут будзе, такі разгон, што!.. (Па сакрэту.) І на маё жыццё хопіць і на тваё. *Друг мой рабінавы!* [2, т. 2, с. 9]; Каравай (да Тамары). Та-ак… Без папа не разбярэшся. І што мы павінны рашыць? Што? *Прынцэса!* [2, т. 2, с. 27]; Каравай (да Настаўніцы). Канечне, перспектыўнае. І не шкадуйце таго

хутара. А-а, няма чаго там… А я спалохаўся ўжо. *Ах, якая вы мудрая!* Значыць, і Васіль цяпер з вамі, дома [2, т. 2, с. 29]; Каравай (да Юркі). *Ах ты, тэарэтык дамарошчаны, філосаф самадзейны.* Што! (Падумаўшы.) А можа, і праўда…варта падумаць? А? А думаць трэба! Як гэта ён казаў, Іван той, Швед? Майстрам адной справы? Гэта што? Вузкая спецыялізацыя, ці што? Не ўсё, значыць, мы ўлічылі. Не ўсё дадумалі [2, т. 2, с. 38]; Каравай (да Дзеда Цыбулькі). *Ну, дзед! Ну, проста герой!* Хадзі сюды! Дай я цябе абніму! *Сапраўдны герой! Не дарма цябе ў грамадзянскую шабляй узнагародзілі! Была б у мяне, падарыў бы табе яшчэ адну* [2, т. 2, с. 43]; Дзед Цыбулька (да Юркі). *Як чотка! Як ясна! Малайчына! Светлая галава! І дамарошчаны!* Ён у мяне завочнік! Тры курсы агораў. А вот чацвёрты і пяты… паедзе туды. На вочны! Кропка! Я сказаў! [2, т. 2, с. 58]; Дачка (да Сына). *Які ж ты малайчына!* Вось гэта рамантыка! Ты, Ваня, Пячорын! Ты – Яўгеній Анегін! Ты ведаеш, хто ты? *Ты – мілы друг!* (Упершыню ўсвядоміла ўсю прыгажосць душы брата.) Ваня! Я думала, што толькі ў дзевятнаццатым стагоддзі людзі маглі… [2, т. 2, с. 77]; Ухватаў (да Бусько). Ну, брат, насмяшыў! *Мастак!* У пісьменнікі табе трэба падавацца. Цяпер ізноў, кажуць, на камедыі дэфіцыт. А тут жывая камедыя. *Ты ж талент, артыст, сатырыст!* [2, т. 2, с. 144]; Жанна (да Катрын). *Якая вы!.. Добрая… мілая!..* [2, т. 1, с. 35]; Антаніна Цімафееўна (да Каліберава). Сцёпа! Сцяпунчык мой! *Які ты сёння мілы! Ты проста герой!* Вось такога я цябе люблю. *Сапраўдны мужчына* [2, т. 1, с. 131]; Васіль (разглядзеўшы Маланку, утарапіўся на Юлю, уражаны яе прыгажосцю). *Ух ты!.. Якая прыгожая!* [2, т. 1, с. 178];

б) кампліменты-параўнанні: Дачка (да Сына). Які ж ты малайчына! Вось гэта рамантыка! *Ты, Ваня, Пячорын! Ты – Яўгеній Анегін!* Ты ведаеш, хто ты? Ты – мілы друг! (Упершыню ўсвядоміла ўсю прыгажосць душы брата.) Ваня! Я думала, што толькі ў дзевятнаццатым стагоддзі людзі маглі… [2, т. 2, с. 77]; Каця вучыцца вадзіць трактар. – Стоп! – крычыць Міця. – Хопіць. Трактар спыняецца. Шчаслівая Каця павярнулася да Міці: – Ну, што? Умею трошкі? – *Як бог!* – жартуе Міця. – А цяпер, Кацюша, ідзі на плугі. Ды глыбока не пускай. Перарасход гаручага [2, т. 2, с. 246]; Антаніна Цімафееўна (да Каліберава). *Ты мне вельмі нагадваеш яго [Суворава].* Ён таксама быў у няміласці, зайздросныя людзі саслалі яго ў глуш. Але праўда сваё ўзяла. Вярнуўся з пашанай. Вось і цябе – прагналі з Мінска… і куды? Нават не ў горад [2, т. 1, с. 130]; Дачка (да брата, заапладзіравала). Бра-а-ва! Малыш! Ты геній! *Ты – Цэзар!!!* [2, т. 1, с. 319];

в) кампліменты з памяншальна-ласкальнымі словамі, выражанымі назоўнікамі і прыметнікамі: Маня (да Арыны Радзівонаўны). О-о, Арына Радзівонаўна на нагах. Добрай раніцы вам! *Вы такая светленькая, свежанькая*, толькі крышку невясёленькая [2, т. 2, с. 188]; Верачка (да

Арыны Радзівонаўны). … Бабуся! Ты ў нас ма-ла-дзец! Ты ў нас арол сцяпной, казак ліхой! У цябе ціск сто трыццаць пяць на дзевяноста. У тваім узросце гэта… Тэмпература? Нармальная. *Тварык бадзёранькі, у вочках чорцікі гуляюць.* Ты – Сценька Разін [2, т. 2, с. 190]; Маня (да Арыны Радзівонаўны). Ой, Арына Радзівонаўна! Добры дзень. (Лісліва.) *Вы так добра выглядаеце. Ну проста – бабка-ягадка свежанькая…* [2, т. 2, с. 201];

г) кампліменты з прыметнікамі ў формах простай вышэйшай ступені параўнання: Старая (да Старога, лісліва). *Няма мудрэй за цябе. Няма дабрэй.* Мне цябе бог паслаў як узнагароду за нешта [2, т. 2, с. 73].

Такім чынам, у мове твораў А. Макаёнка сустракаюцца розныя групы кампліментаў у залежнасці ад тых або іншых прыкмет: кампліментарнасці, адрасаванасці, ступені танальнасці, часавай накіраванасці, разгорнутасці, прагматычнай устаноўкі, асаблівасцей моўнага афармлення. Паводле кампліментарнай прыметы найбольш ужывальнымі з’яўляюцца кампліменты, якія характарызуюць унутраныя, маральныя якасці чалавека і яго разумовыя, інтэлектуальныя здольнасці (розум, адукацыю, мудрасць, досціп, праніклівасць). Яны выказваюцца, як правіла, непасрэдна суразмоўцу, звернуты ў цяперашняе, бываюць сур'ёзныя і жартоўныя, шчырыя і няшчырыя. Паводле ступені разгорнутасці вылучаюцца сціслыя (выражаюцца аднасастаўнымі (намінатыўнымі) сказамі, а таксама двухсастаўнымі, у якіх дзейнік выражаецца займеннікам 2-й асобы, а выказнік – назоўнікам або прыметнікам) і разгорнутыя (выражаюцца складаным сказам або складаным сінтаксічным цэлым) кампліменты. Іх моўнае афармленне таксама462 рознае: найбольш часта ўжываюцца кампліменты-рытарычныя воклічы, радзей – кампліменты-параўнанні, кампліменты з памяншальна-ласкальнымі словамі і формамі вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


1. Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. – Мінск: БелЭн, 1998. – Т. 7: Застаўка – Кантата / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.] – 608 с.: іл.
2. Макаёнак, А. Выбраныя творы: у 2-х т. / Андрэй Макаёнак; прадм. С. Лаўшука. – Мінск: Маст. літ., 1980. – Т. 1–2.
3. Михальчук, Т. Г. Русский речевой этикет. Практикум: учеб. пособие для студентов вузов по филологическим специальностям / Т. Г. Михальчук.– Минск: Асар, 2009.– 258 с.
4. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: больш за 65 000 слоў / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 1999. – 784 с.
5. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа. – Мінск: Гал. рэд. Беларус. Сав. Энцыклапедыі, 1978. – Т. 2: Г – К / [рэд. тома А. Я. Баханькоў]. – 768 с.

УДК 811.161.3’373:821.161.3

*А. В. Солахаў, І. І. Шаўчук*

# АПІСАЛЬНЫЯ НАЗВЫ ЖАНЧЫНЫ-КАХАНАЙ (ПАВОДЛЕ МОВЫ ЛІРЫЧНЫХ ТВОРАЎ М. ШАБОВІЧА)

У артыкуле на прыкладзе мовы лірычных твораў Міколы Шабовіча праводзіцца аналіз перыфрастычных выразаў, своеасаблівасць якіх заключаецца ў тым, што яны абазначаюць каханую дзяўчыну або жанчыну. Аснову такіх перыфраз складаюць агульныя найменні дзяўчыны з памяншальна-ласкальным значэннем, назвы асобы паводле сваяцтва, тытулавання, найменні міфічных істот, пораў года і з’яў прыроды, абстрактных паняццяў, музычных твораў, раслін і іх частак, насякомых. Разглядаецца таксама структура перыфраз і іх роля ў творы.

Паэтычны стыль Міколы Шабовіча вылучаецца яркай індывідуальнасцю, якая праяўляецца не толькі ў асобым паэтычным бачанні рэчаіснасці, але і ў маўленчых асаблівасцях яго твораў. Побач са змястоўнымі метафарамі, сакавітымі эпітэтамі, дакладнымі параўнаннямі і індывідуальна-аўтарскімі неалагізмамі паэт ужывае і іншыя вобразна-выяўленчыя сродкі мовы, якія вызначаюць яго стыль. Да такіх сродкаў, безумоўна, адносіцца перыфраза – апісальны выраз намінатыўнага характару (звычайна сінтаксічна або семантычна несвабоднае словазлучэнне). Перыфраза шырока выкарыстоўваецца аўтарам у мове лірычных вершаў, дзе галоўнай гераіняй з’яўляецца жанчына-каханая, і дапамагае звярнуць увагу на розныя адметныя якасці знешнасці і духоўнага свету лірычнай гераіні. Перыфраза, як адзначае Г. М. Малажай, прыўносіць у маўленне свежасць і ўрачыстасць і, не змяшчаючы паведамлення, адкрывае (высвечвае) яшчэ невядомыя сэнсавыя грані рэферэнта, выстаўляе яго ў незвычайным святле, у чым бачыцца галоўны момант выразнасці і дасціпнасці перыфразы [2, с. 99].

Даследчыкі рускай мовы Л. Гукава і Л. Фаміна лічаць перыфразу дзейсным мастацкім сродкам, які выкарыстоўваецца для выразнасці і аўтарскага разумення тэксту, дапамагае пазбегнуць паўтораў адных і тых жа слоў. На іх думку, перыфраза як функцыянальна-тэкставая адзінка мовы ствараецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі арганізацыі семантыкі, структуры, суб'ектыўнай мадальнасці, абумоўленых стылем, жанрам, эпохай, асобай аўтара. Перыфраза, як правіла, змяшчае канатацыйныя семы эмацыйна-экспрэсіўнага, ацэначнага, пазнавальна-канкрэтызуючага характару, але ступень вобразнасці перыфразы, мера скрытнага, тайнага сэнсу ў ёй кожны раз розныя [1, с. 73–74]. “Вобразныя перыфразы, –

сцвярджае Г. М. Малажай, – тым і каштоўныя, што прымушаюць чытача нешта ўяўляць, дадумваць, як бы падключаюць яго да творчага працэсу пісьменніка” [3, с. 118].

Своеасаблівасць перыфраз М. Шабовіча заключаецца ў тым, што яны абазначаюць жанчыну-каханую. Неабходнасць іх выкарыстання дыктуецца самім характарам любоўнай лірыкі, выражэннем самых разнастайных пачуццяў да каханай, законамі рытму і рыфмы. У аснову перыфраз паэтам пакладзены наступныя назвы:

1) агульныя найменні дзяўчыны з памяншальна-ласкальным значэннем: *Ты – / **Папулярная дзяўчынка**. / О Божа мой! / О Божа мой! / Плывеш, / бы ў небе аблачынка, / Ды не са мной, / Ды не са мной* [5, с. 19]; *Яшчэ нічога не было, / А ты дрыжыш, / Нібы лісцінка, / Нібы спайманая ў сіло, / **Мая чарнявая дзяўчынка*** [5, с. 24];

2) асобы паводле сваяцтва: *Мы з табою – Твая электрычка. / Ну, / Бывай, / **дарагая сястрычка**, / Хутка прыйдзе сустрэчы пара* [5, с. 25]; *Твой сум дажджынкаю сцякае / З дзівосна-русых валасоў. / Што, / Калі німфа ты лясная, / **Дачка расхрыстаных лясоў*** [5, с. 42];

3) асобы паводле тытулавання: *Тварык мне твой знаёмы, / **Джынсавая князёўна.** / Льецца вачэй размова / Мякка і невымоўна* [5, с. 18]; *У шаліку з барвовага сутоння / Ты больш ужо не прыйдзеш да мяне, / Мая **пяшчотнавокая князёўна**, / Спатканая аднойчы па вясне* [5, с. 29]; *Сляды хаваюцца ў тумане – / Такі загадкавы сюжэт. / Скажы, / **Задумлівая пані**, / Дзе хараства твайго сакрэт* [5, с. 43]; *Ты – / **Каралева квартала.** / Рыжае сонца сталіцы. / Як мне цябе не хапала! / Ты ж не магла не прысніцца* [5, с. 50]; *Надзела ты рамонкавы вянок, / **Царыца дня** і каралева ночы. / Цябе такою бачыў я аднойчы, / Той час, / Як зорка, / Свеціцца здалёк* [5, с. 87]; *Надзела ты рамонкавы вянок, / Царыца дня і **каралева ночы**. / Цябе такою бачыў я аднойчы, / Той час, / Як зорка, / Свеціцца здалёк* [5, с. 87]; *За пагляд, / Што ўскружыў галаву, Стану зграбнасць, / Я сягоння цябе назаву, / **Міс Прывабнасць*** [5, с. 101]; *Назаву цябе **міс Дабрыня** / Я за вочы. / Без цябе мне самотна штодня, / І штоночы* [5, с. 101]; *Ты – / Праснёная мара мая, / **Міс Пяшчота.** / Дзе з табою сустрэнуся я / Заўтра? / Потым* [5, с. 101]; *Тонкага стану зграбнасць / Новыя рыфмы спеліць. / **Сумная Панна Вабнасць,** / Як мне цябе звяселіць* [5, с. 116]; *Знік, / Як апошні злодзей. / Хай яго чэрці носяць! / Як мне твой сум злагодзіць, / **Мілая панна Восень*** [5, с. 116];

4) міфічных істот: *О **рыжавокая багіня!** / Зялёнага шчасця рэдкі госць! / Пакуль ты ёсць – / Свет не згіне / І не згіне маладосць* [5, с. 48]; *Профіль тваёй усмешкі / Дорыць адно пяшчоту, / **Мілая Беласнежка**, / Лекарка ад самоты* [5, с. 18]; *Казыча ветрык валасы. / Я знаю: / **Лясная Німфа** ты. / Царыцай быць зямной красы / Табе нішто не замінае*

[5, с. 37]; *Больш не сустрэць такой чароўнай / Ў жыццяспеўнай вабнай плыні, / Чым ты, /* ***Бялявая Лясоўна****, / Зямлі і неба берагіня* [5, с. 43]; *Уратуеш ад даўкай журбы, / Ад начэй, / Што не дорацьадхлання, /* ***Чарадзейная фея*** *нібы, /* ***Дзіўнавокая фея кахання*** [5, с. 68];

5) пораў года і з'яў прыроды: *Твой тварык лёгка ружавее – / І ты ўжо тулішся сама, /* ***Мая пяшчотная завея****, /* ***Мая спакусная зіма*** [5, с. 20]; *Мо залаты пярсцёнак, / Што абдымае пальчык? / Джынсавая князёўна, /* ***Сонечны светлы зайчык*** [5, с. 18]; *Непадкупнай усмешкі агмень / Дорыць свята пяшчоты. / Ты нібы* ***санцагрэйны прамень*** */ Для маёй адзіноты* [5, с. 113]; *Мне лёсам ты пасланая , / магчыма, / Мая царэўна, /* ***дзён маіх вясна****. / Што робіш ты за гэтымі дзвярыма? / Салодка спіш? / Сумуеш мо адна* [5, с. 26]; *А ты – /* ***Снягоўна – завіруха,*** */ Ты – / Ачышчэнне ад маны. / Чаму ж тады ў паглядзе скруха, / Нібы ад нейкае віны* [5, с. 38]; *Ты – / Каралева квартала. /* ***Рыжае сонца сталіцы****. / Як мне цябе не хапала! / Ты ж не магла не прысніцца* [5, с. 50];

6) паводле ўласцівасцей асобы: *Больш не сустрэць такой чароўнай / Ў жыццяспеўнай вабнай плыні, / Чым ты, / Бялявая Лясоўна, /* ***Зямлі і неба берагіня*** [5, с. 43]; *Профіль тваёй усмешкі / Дорыць адно пяшчоту, / мілая Беласнежка, /* ***Лекарка ад самоты*** [5, с. 18]; *Ты чаруеш, / Хоць ты не ведзьмарка, / Ты – / Высокага неба абранніца. / Бы ў сухмень на залётную хмарку, / На цябе мне маліцца да раніцы* [5, с. 36]; *Так язычком кранацца да паперы. / – / Табе адной падораны сакрэт. / О* ***вучаніца дзіўная гетэры****, / Як спакушальна ты глядзіш мне ўслед* [5, с. 22];

7) абстрактных паняццяў: *Ты са мною, /* ***Ружовая мара мая****. / Прад табой – / Карагод летуценняў. / І булькоча-грукоча жаданняў бруя / Да тваіх дакрануцца каленяў* [5, с. 110]; *Самая лепшая казка, / Песня, / Што льецца так звонка, /* ***Неўтаймаваная ласка*** */ З іменем светлым – / Алёнка* [5, с. 51]; *Мой сонцакрылы матылёк, / Шчэ* ***не спазнаная пяшчота,*** */ Ты ў сны з'яўляешся здалёк, / Маю расквечваеш самоту* [5, с. 123];

8) музычных твораў: ***Ціхая песня спакусы? / Гімн маладосці, / Кахання****? / Спеў валасоў светла-русых / Чуецца мне аж да рання* [5, с. 119];

9) раслін і іх частак: *Вусны – / Туга нямая – / Радасць забылі, / Можа. /* ***Кветачка палявая,*** */ Хто цябе так стрывожыў* [5, с. 116];

10) насякомых: *Прыйдзі ў мой сон, / Прыйдзі здалёк, / Расквець сабой маю самоту, / Мой* ***санцакрылы матылёк,*** */ Мной не спазнаная пяшчота* [5, с. 123].

Неаднародныя перыфразы і паводле сваёй структуры. Як сцвярджае Г. М. Малажай, у беларускай літаратурнай мове самымі прадуктыўнымі з'яўляюцца апісальныя звароты прадметнага значэння – субстантыўныя перыфразы тыпу *крылы папяровыя* 'старонкі' і апісальныя звароты са значэннем дзеяння – дзеяслоўныя перыфразы тыпу *ператварыць у попел* 'спаліць' [4, с. 5].

У мове лірычных твораў М. Шабовіча пры абазначэнні жанчыны-каханай ужываюцца субстантыўныя перыфразы, якія складаюць некалькі груп:

1) перыфразы, у склад якіх уваходзіць **прыметнік + назоўнік**: *Тварык мне твой знаёмы, /* ***Джынсавая князёўна.*** */ Льецца вачэй размова / Мякка і невымоўна* [5, с. 18]; *Профіль тваёй усмешкі / Дорыць адно пяшчоту, /* ***Мілая Беласнежка****, / Лекарка ад самоты* [5, с. 18]; *Ты – /* ***Папулярная дзяўчынка****. / О Божа мой! / О Божа мой! / Плывеш, / бы ў небе аблачынка, / Ды не са мной, / Ды не са мной* [5, с. 19]; *Мы з табою – Твая электрычка. / Ну, / Бывай, /* ***дарагая сястрычка****, / Хутка прыйдзе сустрэчы пара* [5, с. 25]; *У шаліку з барвовага сутоння / Ты больш ужо не прыйдзеш да мяне, / Мая* ***пяшчотнавокая князёўна****, / Спатканая аднойчы па вясне* [5, с. 29]; *Казыча ветрык валасы. / Я знаю: /* ***Лясная Німфа*** *ты. / Царыцай быць зямной красы / Табе нішто не замінае* [5, с. 37]; *Больш не сустрэць такой чароўнай / Ў жыццяспеўнай вабнай плыні, / Чым ты, /* ***Бялявая Лясоўна****, / Зямлі і неба берагіня* [5, с. 43]; *Сляды хаваюцца ў тумане – / Такі загадкавы сюжэт. / Скажы, /* ***Задумлівая пані****, / Дзе хараства твайго сакрэт* [5, с. 43]*; О* ***рыжавокая багіня!*** */ Зялёнага шчасця рэдкі госць! / Пакуль ты ёсць – / Свет не згіне / І не згіне маладосць* [5, с. 48]; *Дзве Лясоўны, / Збеглыя з лясоў, / – / Ты й твая* ***Чарнявая Лаліта…*** */ Два гады мінула з тых часоў, / Толькі ўсё вяртаецца нібыта* [5, с. 53]; *Уратуеш ад даўкай журбы, / Ад начэй, / Што не дораць адхлання, /* ***Чарадзейная фея*** *нібы, / Дзіўнавокая фея кахання* [5, с. 68]; *Вусны – / Туга нямая – / Радасць забылі, / Можа. /* ***Кветачка палявая,*** */ Хто цябе так стрывожыў* [5, с. 116]; *Непадкупнай усмешкі агмень / Дорыць свята пяшчоты. / Ты нібы* ***санцагрэйны прамень*** */ Для маёй адзіноты* [5, с. 113]. Многія з іх ускладняюцца займеннікавым структурным элементам *мая*, які часцей за ўсё пачынае перыфразу: *Твой тварык лёгка ружавее – / І ты ўжо тулішся сама, /* ***Мая пяшчотная завея****, /* ***Мая спакусная зіма*** [5, с. 20]; *Засні ў яго абдымках, / А потым збяжы на золку, / Нібы ад туману дымка, / Заспаная знічка – зорка* [1, с. 23]; *Яшчэ нічога не было, / А ты дрыжыш, / Нібы лісцінка, / Нібы спайманая ў сіло, /* ***Мая чарнявая дзяўчынка*** [5, с. 24]; *Прыйдзі ў мой сон, / Прыйдзі здалёк, / Расквець сабой маю самоту, /* ***Мой санцакрылы матылёк, /*** *Мной не спазнаная пяшчота* [5, с. 123].

У адзінкавых выпадках займеннік займае постпазіцыю: *Ты са мною, /* ***Ружовая мара мая****. / Прад табой – / Карагод летуценняў. / І булькоча-грукоча жаданняў бруя / Да тваіх дакрануцца каленяў* [5, с. 110].

Зафіксавана таксама перыфраза, у склад якой разам з назоўнікам уваходзяць два прыметнікі: *Мо залаты пярсцёнак, / Што абдымае пальчык? / Джынсавая князёўна, /* ***Сонечны светлы зайчык*** [5, с. 18];

2) перыфразы са структурнай мадэллю **назоўнік + назоўнік**, дзе:

а) два назоўнікі маюць форму назоўнага склону адзіночнага ліку: *А ты – /* ***Снягоўна-завіруха, /*** *Ты – / Ачышчэнне ад маны. / Чаму ж тады ў паглядзе скруха, / Нібы ад нейкае віны* [5, с. 38]; *Не грэюць сэрца зорныя агні, / Калі надзеі адбірае скруха. / Сягоння ты не фея дабрыні, / Сягоння ты – /* ***Вядзьмарка-завіруха*** [5, с. 44]; *За пагляд, / Што ўскружыў галаву, Стану зграбнасць, / Я сягоння цябе назаву, /* ***Міс Прывабнасць*** [5, с. 101]; *Назаву цябе* ***міс Дабрыня /*** *Я за вочы. / Без цябе мне самотна штодня, / І штоночы* [5, с. 101]; *Ты – / Прыснёная мара мая, /* ***Міс Пяшчота. /*** *Дзе з табою сустрэнуся я / Заўтра? / Потым* [5, с. 101];

б) адзін з назоўнікаў мае форму назоўнага склону адзіночнага ліку, а другі ўжываецца ў родным склоне, утвараючы беспрыназоўнікавыя канструкцыі: *Ты – /* ***Каралева квартала. /*** *Рыжае сонца сталіцы. / Як мне цябе не хапала! / Ты ж не магла не прысніцца* [5, с. 50]; *Надзела ты рамонкавы вянок, /* ***Царыца дня*** *і* ***каралева ночы****. / Цябе такою бачыў я аднойчы, / Той час, / Як зорка, / Свеціцца здалёк* [5, с. 87]. Такія канструкцыі могуць ускладняцца займеннікам-азначэннем да залежнага кампанента або мець аднародны залежны кампанент: *Мне лёсам ты пасланая, / магчыма, / Мая царэўна, /* ***дзён маіх вясна****. / Што робіш ты за гэтымі дзвярыма? / Салодка спіш? / Сумуеш мо адна* [5, с. 26]; *Больш не сустрэць такой чароўнай / Ў жыццяспеўнай вабнай плыні, / Чым ты, / Бялявая Лясоўна, /* ***Зямлі і неба берагіня*** [5, с. 43];

в) адзін з назоўнікаў мае форму назоўнага склону адзіночнага ліку і разам з прыназоўнікам кіруе родным склонам другога назоўніка: *Профіль тваёй усмешкі / Дорыць адно пяшчоту, / мілая Беласнежка, /* ***Лекарка ад самоты*** [5, с. 18].

3) перыфразы, у склад якіх уваходзяць **дзеепрыметнік + назоўнік:** *Самая лепшая казка, / Песня, / Што льецца так звонка, /* ***Неўтаймаваная ласка*** */ З іменем светлым – / Алёнка* [5, с. 51]; *Мой сонцакрылы матылёк, / Шчэ* ***не спазнаная пяшчота, /*** *Ты ў сны з'яўляешся здалёк, / Маю расквечваеш самоту* [5, с. 123].

4) перыфразы, у склад якіх уваходзяць **прыметнік + назоўнік + назоўнік**, аснову якіх могуць утвараць:

а) назоўнікі ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку: *Тонкага стану зграбнасць / Новыя рыфмы спеліць. /* ***Сумная Панна Вабнасць, /*** *Як мне цябе звяселіць* [5, с. 116]; *Знік, / Як апошні злодзей. / Хай яго чэрці носяць! / Як мне твой сум злагодзіць, /* ***Мілая панна Восень*** [5, с. 116];

б) назоўнікі з залежным кампанентам у форме роднага склону, дзе прыметнік дапасуецца да галоўнага кампанента і займае пераважна пазіцыю перад ім, радзей – пасля: *Ты – / Каралева квартала. /* ***Рыжае сонца сталіцы****. / Як мне цябе не хапала! / Ты ж не магла не прысніцца* [5, с. 50]; ***Ціхая песня спакусы? /*** *Гімн маладосці, / Каханне? / Спеў валасоў*

*светла-русых / Чуецца мне аж да рання* [5, с. 119]; *Уратуеш ад даўкай журбы, / Ад начэй, / Што не дораць адхлання, / Чарадзейная фея нібы, /* ***Дзіўнавокая фея кахання*** [5, с. 68]; *Так язычком кранацца да паперы. / – / Табе адной падораны сакрэт. / О* ***вучаніца дзіўная гетэры****, / Як спакушальна ты глядзіш мне ўслед* [5, с. 22];

в) назоўнікі з залежным кампанентам у форме роднага склону, да якога дапасуецца прыметнік: *Ты чаруеш, / Хоць ты не ведзьмарка, / Ты – /* ***Высокага неба абранніца****. / Бы ў сухмень на залётную хмарку, / На цябе мне маліцца да раніцы* [5, с. 36]; *Твой сум дажджынкаю сцякае / З дзівосна-русых валасоў. / Што, / Калі німфа ты лясная, /* ***Дачка расхрыстаных лясоў*** [5, с. 42].

Перыфраза акцэнтуе ўвагу на адносінах аўтара да лірычнай гераіні твораў, дапамагаючы яму выказаць:

1) захапленне ўнутранымі і знешнімі якасцямі каханай, узнёсласць: *Мо залаты пярсцёнак, / Што абдымае пальчык? / Джынсавая князёўна, /* ***Сонечны светлы зайчык*** [5, с. 18]; *Мы з табою – / Твая электрычка. / Ну, / Бывай, / дарагая сястрычка, / Хутка прыйдзе сустрэчы пара* [5, с. 25]; *Казыча ветрык валасы. / Я знаю: /* ***Німфа ты лясная****. / Царыцай быць зямной красы / Табе нішто не замінае* [5, с. 37]; *Больш не сустрэць такой чароўнай / Ў жыццяспеўнай вабнай плыні, / Чым ты, /* ***Белявая Лясоўна****, / Зямлі і неба берагіня* [5, с. 43]; *Сляды хаваюцца ў тумане – / Такі загадкавы сюжэт. / Скажы, /* ***Задумлівая пані****, / Дзе хараства твайго сакрэт* [5, с. 43]; *О* ***рыжавокая багіня!*** */ Зялёнага шчасця рэдкі госць! / Пакуль ты ёсць – / Свет не згіне / І не згіне маладосць* [5, с. 48]; *Ты – / Каралева квартала.* ***/ Рыжае сонца сталіцы****. / Як мне цябе не хапала! / Ты ж не магла не прысніцца* [5, с. 50]; *Купалінка мая, / Купалінка, / Ночка цёмная, / зор не відно.* ***/ Купалінка мая,*** */ Купалінка – / Песня дзіўная льецца ў акно* [5, с. 56]; *Уратуеш ад даўкай журбы, / Ад начэй, / Што не дораць адхлання, / Чарадзейная фея нібы, /* ***Дзіўнавокая фея кахання*** [5, с. 68]; *Уратуеш ад даўкай журбы, / Ад начэй, / Што не дораць адхлання, /* ***Чарадзейная фея*** *нібы, / Дзіўнавокая фея кахання* [5, с. 68]; *Называў Наталі цябе Пушкін, / Хтось Насцюшай цябе назаве, /* ***Весялушка мая,*** */ Шчабятушка, / Промнік сонца ў нябёс сіняве* [5, с. 106]; *Тварык мне твой знаёмы, /* ***Джынсавая князёўна.*** */ Льецца вачэй размова / Мякка і невымоўна* [5, с. 18]; *Ты са мною, /* ***Ружовая мара*** *мая.* ***/*** *Прад табой – / Карагод летуценняў. / І булькоча-грукоча жаданняў бруя / Да тваіх дакрануцца каленяў* [5, с. 110]; *А ты –* ***/ Снягоўна – завіруха, /*** *Ты – / Ачышчэнне ад маны. / Чаму ж тады ў паглядзе скруха, / Нібы ад нейкае віны* [5, с. 38]; *Не грэюць сэрца зорныя агні, / Калі надзеі адбірае скруха. / Сягоння ты не фея дабрыні, / Сягоння ты – /* ***Вядзьмарка – завіруха*** [5, с. 44]; *За пагляд, / Што ўскружыў галаву, Стану зграбнасць, / Я сягоння*

*цябе назаву, /* ***Міс Прывабнасць*** [5, с. 101]; *Назаву цябе* ***міс Дабрыня /*** *Я за вочы. / Без цябе мне самотна штодня, / І штоночы* [5, с. 101]; *Ты – / Прыснёная мара мая, /* ***Міс Пяшчота.*** */ Дзе з табою сустрэнуся я / Заўтра? / Потым* [5, с. 101]; *Самая лепшая казка, / Песня, / Што л'ецца так звонка, /* ***Неўтаймаваная ласка*** */ З іменем светлым – / Алёнка* [5, с. 51]; *Мой сонцакрылы матылёк, / Шчэ* ***не спазнаная пяшчота,*** */ Ты ў сны з'яўляешся здалёк, / Маю расквечваеш самоту* [5, с. 123]; *Знік, / Як апошні злодзей. / Хай яго чэрці носяць! / Як мне твой сум злагодзіць, /* ***Мілая панна Восень*** [5, с. 116]; ***Ціхая песня спакусы? /*** *Гімн маладосці, / Кахання? / Спеў валасоў светла-русых / Чуецца мне аж да рання* [5, с. 119]; *Непадкупнай усмешкі агмень / Дорыць свята пяшчоты. / Ты нібы* ***санцагрэйны прамень /*** *Для маёй адзіноты* [5, с. 113]; 2) пачуцці ў каханні: *Профіль тваёй усмешкі / Дорыць адно пяшчоту, /* ***Мілая Беласнежка****, / Лекарка ад самоты* [5, с. 18]; *Твой тварык лёгка ружавее – / І ты ўжо тулішся сама, /* ***Мая пяшчотная завея***, / ***Мая спакусная зіма*** [5, с. 20]; *Яшчэ нічога не было, / А ты дрыжыш, / Нібы лісцінка, / Нібы спайманая ў сіло, /* ***Мая чарнявая дзяўчынка*** [5, с. 24]; *Ты чаруеш, / Хоць ты не ведзьмарка, / Ты – /* ***Высокага неба абранніца****. / Бы ў сухмень на залётную хмарку, / На цябе мне маліцца да раніцы* [5, с. 36]; *О* ***рыжавокая багіня!*** */ Зялёнага шчасця рэдкі госць! / Пакуль ты ёсць – / Свет не згіне / І не згіне маладосць* [5, с. 48]; *"Толькі ты – / Мая мара і лёс", – / Як малітву, / Штоноч прамаўляю / І надзею на стрэчу люляю… / Толькі ты – /* ***Мая мара і лёс*** [5, с. 64]; *Мне лёсам ты пасланая, / магчыма, / Мая царэўна, / дзён маіх вясна. / Што робіш ты за гэтымі дзвярыма? / Салодка спіш? / Сумуеш мо адна* [5, с. 26]; *Больш не сустрэць такой чароўнай / Ў жыццяспеўнай вабнай плыні, / Чым ты, / Бялявая Лясоўна, /* ***Зямлі і неба берагіня*** [5, с. 43]; *Ты –* / ***Каралева квартала. /*** *Рыжае сонца сталіцы. / Як мне цябе не хапала! / Ты ж не магла не прысніцца* [5, с. 50]; *Надзела ты рамонкавы вянок, /* ***Царыца дня*** *і каралева ночы. / Цябе такою бачыў я аднойчы, / Той час, / Як зорка, / Свеціцца здалёк* [5, с. 87]; *Надзела ты рамонкавы вянок, / Царыца дня і* ***каралева ночы****. / Цябе такою бачыў я аднойчы, / Той час, / Як зорка, / Свеціцца здалёк* [5, с. 87]; *За пагляд, / Што ўскружыў галаву, Стану зграбнасць, / Я сягоння цябе назаву, /* ***Міс Прывабнасць*** [5, с. 101]; *Назаву цябе* ***міс Дабрыня /*** *Я за вочы. / Без цябе мне самотна штодня, / І штоночы* [5, с. 101]; *Ты – / Прыснёная мара мая, /* ***Міс Пяшчота.*** */ Дзе з табою сустрэнуся я / Заўтра? / Потым* [5, с. 101]; *Прыйдзі ў мой сон, / Прыйдзі здалёк, / Расквець сабой маю самоту, /* ***Мой санцакрылы матылёк, /*** *Мной не спазнаная пяшчота* [5, с. 123]; *Непадкупнай усмешкі агмень / Дорыць свята пяшчоты. / Ты нібы* ***санцагрэйны прамень /*** *Для маёй адзіноты* [5, с. 113].

3) успаміны пра мінулае: *Вусны – / Туга нямая – / Радасць забылі, / Можа. /* ***Кветачка палявая,*** */ Хто цябе так стрывожыў* [5, с. 116]; *Засніў*

*яго абдымках, / А потым збяжы на золку, / Нібы ад туману дымка, / Заспаная знічка – зорка* [1, с. 23]; *Дзве Лясоўны, / Збеглыя з лясоў, – / Ты й твая* ***Чарнявая Лаліта…*** */ Два гады мінула з тых часоў, / Толькі ўсё вяртаецца нібыта* [5, с. 53]; *У шаліку з барвовага сутоння / Ты больш ужо не прыйдзеш да мяне, /* ***Мая пяшчотнавокая князёўна****, / Спатканая аднойчы па вясне* [5, с. 29];

4) шкадаванне: *Ты – /* ***Папулярная дзяўчынка****. / О Божа мой! / О Божа мой! / Плывеш, / бы ў небе аблачынка, / Ды не са мной, / Ды не са мной* [5, с. 19]; *Тонкага стану зграбнасць / Новыя рыфмы спеліць. /* ***Сумная Панна Вабнасць, /*** *Як мне цябе звяселіць* [5, с. 116].

Такім чынам, сярод розных вобразна-выяўленчых сродкаў, якія выкарыстоўвае М. Шабовіч пры апісанні жанчыны-каханай у мове сваіх лірычных твораў, вялікая роля належыць перыфразе – апісальнаму выразу намінатыўнага характару. Перыфраза дазваляе аўтару звярнуць увагу на розныя адметныя якасці знешнасці і духоўнага свету лірычнай гераіні. У аснову перыфраз М. Шабовічам пакладзены агульныя найменні дзяўчыны з памяншальна-ласкальным значэннем, назвы асобы паводле сваяцтва, тытулавання і ўласцівасцей асобы, міфічных істот, пораў года і з’яў прыроды, абстрактных паняццяў, музычных твораў, раслін і іх частак, насякомых. Структура перыфраз неаднародная. Іх аснову складаюць спалучэнні прыметніка з назоўнікам і назоўніка з назоўнікам. Перыфразы дапамагаць паэту выказаць захапленне ўнутранымі і знешнімі якасцямі каханай, узнёсласць, пачуцці ў каханні, успаміны пра мінулае, шкадаванне.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


1. Гукова, Л. Н. Топонимическая перифраза: введение в проблему / Л. Н. Гукова, Л. Ф. Фомина // Логос ономастики. – 2006. – № 1(1). – С. 72–74.
2. Малажай, Г. М. Сучасная беларуская мова: Перыфраза / Г. М. Малажай; пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. – Мінск : Вышэйшая школа, 1980. – 96 с.
3. Малажай, Г. М. Сучасная беларуская мова: Слова. Перыфраза. Фразеалагізм: вучэб. дапам. / Г. М. Малажай. –Мінск : Выш. школа, 1992. – 238 с.
4. Моложай, Г. Н. Перифразы в белорусском литературном языке (структурно-семантическая и стилистическая характеристика): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10661 – языки народов СССР (Белорусский язык) / Г. Н. Моложай; АН БССР, Ин-т языкознания им. Якуба Коласа. – Минск, 1971. – 20 с.
5. Шабовіч, М. В. Мая надзея: вершы / Мікола Шабовіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2006. 174 с.

УДК 811.161.3’367’42

*А. А. Станкевіч*

# СІНТАКСІЧНЫЯ СРОДКІ ВЫЯЎЛЕНЧАЙ ВЫРАЗНАСЦІ: ПАРЦЭЛЯЦЫЯ І ПАРЭНТЭЗА Ў ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫМ ДЫСКУРСЕ

У артыкуле на матэрыяле сучаснай публіцыстыкі аналізуюцца парцэляцыя і парэнтэза як прыёмы экспрэсіўнага сінтаксісу, вызначаецца іх структура, граматычная характарыстыка, сінтаксічная роля і стылістычныя функцыя.

Публіцыстычны дыскурс, які характарызуецца спалучэннем інфармацыйнай і прагматычнай функцый, займае адметнае месца ў сістэме функцыянальных стыляў і актыўна выкарыстоўваецца ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Ён вызначаецца папулярнасцю, вобразнасцю, палемічнасцю выкладу, яркасцю выразных сродкаў станоўчай або адмоўнай экспрэсіі [1, с. 243]. Адметнасцю публіцыстычнага стылю з’яўляецца выкарыстанне лагічна-абстрактнай, або навуковай, і эмацыянальна-вобразнай, або мастацкай, формы адлюстравання аб’ектыўнай рэчаіснасці [2, с. 443]. У сувязі з гэтым сістэму разгорнутых доказаў публіцыстычнага дыскурсу арганічна дапаўняе сукупнасць разнастайных сродкаў выяўленчай выразнасці, якія выкарыстоўваюцца на розных моўных узроўнях – лексічным, лексіка-семантычным, словаўтваральным і сінтаксічным. У сістэме сінтаксічных сродкаў выяўленчай выразнасці сучаснай публіцыстыкі актыўна ўжываюцца т. зв. фігуры размяшчэння і перастаноўкі, якія, на першы погляд, парушаюць сінтаксічную структуру выкладу, але садзейнічаюць лагічнаму выдзяленню асобных сегментаў выказвання, актуалізуюць і ўдакладняюць яго змест, павышаюць экспрэсіўны патэнцыял маўлення. Да такіх фігур адносяцца таксама парцэляцыя і парэнтэза.

*Парцэляцыя* (франц. parcelle “частка”) – фігура маўлення, пры якой асобныя члены сказа разглядаюцца як самастойныя і адасабляюцца ад цэлага знакамі прыпынку або інтанацыйна. Галоўная функцыя парцэляцыі – выдзяленне пэўнага элемента выказвання з мэтай узмацнення яго сэнсу: *Па дарозе едуць машыны, павозкі, ідуць салдаты. <u>Групкамі і па аднаму.</u> <u>Раненыя і здаровыя, усе ад Дняпра.</u> <u>Усе хмурныя, стомленыя</u>* [І. Мележ]. Як адзначаецца ў навуковай літаратуры, парцэляцыя – спосаб маўленчага прадстаўлення адзінай сінтаксічнай структуры – сказа – некалькімі камунікатыўна самастойнымі адзінкамі – фразамі [3, с. 369]. Парцэляцыя сінтаксічнай структуры сказа ў вусным маўленні перадаецца пры дапамозе інтанацыі, у пісьмовым тэксце выражаецца графічнымі паказчыкамі – знакамі прыпынку.

Парцэляцыя, якая перадае асаблівасці размоўнага маўлення, – спантаннасць, непадрыхтаванасць і непасрэднасць выказвання, з’яўляецца своеасаблівым прыёмам экспрэсіўнага сінтаксісу. Яна ўзнаўляе працэс абдумвання зместу: *Прыйшла позняя восень. Сухая, з марозам, з чыстым небам* [І. Пташнікаў], паказвае паслядоўнасць думак, якія выражаюць сэнс выказвання: *У свеце многа паэтаў. Самых розных. Сярод іх нямала славутых, выдатных, вялікіх. Нават геніяльных. Але не было і няма паэта, які б так кроўна быў звязаны са сваім народам, жыў яго думамі, клопатамі і марамі, як Янка Купала* [Б. Сачанка], удакладняе характарыстыку прадмета размовы: *Першы быў Пятро Клімук. Хлопец з Брэстчыны. Сінявокі і ўсмешлівы. Прыгожы і абаяльны. Просты і сардэчны* [М. Гіль].

Паколькі парцэляцыя дадаецца да асноўнага сказа як асобны структурны элемент, яна стварае ўражанне паступовага, нарастаючага развіцця думкі, непасрэднасці маўлення. Гэта ў цэлым надае выказванню экспрэсію размоўнасці, узмацняе ўздзеянне на адрасата: *І вось летась часопіс “Нёман” змясціў у сакавіцкім нумары “Аповесць пра сябе” Б. Мікуліча. Усяго, што ёсць у гэтым творы, не перакажаш. Трэба чытаць. Чытаць ад першага слова да апошняга, чытаць уважліва. І думаць, думаць* [Б. Сачанка].

Знешне самастойная частка выказвання, парцэляваная канструкцыя як сінтаксічная адзінка не можа існаваць асобна, яна цесна звязана з кантэкстам і можа быць зразумелай толькі ў сувязі з усім выказваннем. Па гэтай прычыне парцэляты найчасцей знаходзяцца ў кантактнай пазіцыі адносна базавай часткі сказа: *Нават творчасць яго* [А. Макаёнка – А.С.] – *камедыі, фельетоны, артыкулы – гэта таксама не што іншае, як яго спрэчкі. З людзьмі, з часам, з жыццём, з заведзенымі і ўстаялымі парадкамі, з самім сабою* [Б. Сачанка]. У некаторых выпадках можа быць і дыстантная пазіцыя ў дачыненні да сэнсава звязаных з імі членаў сказа: *Спыніліся ў нейкім сяле, каля школы. Рушылі ў школу, у пустыя, вялікія класы. Без сілы валімся на падлогу. Спаць, спаць*… [І. Мележ]. Парцэляваныя сегменты нярэдка падвяргаюцца інверсіі, якая ўзмацняе іх экспрэсіўнасць.

Парцэлявацца могуць розныя члены сказа. Пры гэтым падкрэсліваюцца пэўныя якасці, уласцівасці прадмета размовы: *Цяпер працуе шматгаліновае выдавецтва Беларускай Савецкай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі. Створанае ім, згуртаванае і загартаванае, узнятае на высокую навуковую ступень* [С. Грахоўскі]; дзеянне: *Хутка закоціцца сонца. Яно ўжо не грэе. Так толькі вісіць над самым Наддацкім борам, спачывае, як касец напрацаваўшыся* [І. Пташнікаў]; аб’ект дзеяння: *Усе яны* [расліны – А.С.], *калі ўважліва ўдумацца, пахнуць толькі зямлёю. Ды яшчэ, можа, сонцам, небам, ветрам і ўсімі чатырма порамі года* ... [Я. Сіпакоў]; спосаб дзеяння: *Пакуль пісаў гэта, зашчабяталі ластаўкі. Густа, дружна і міла* [Я. Брыль]. Як паказваюць прыклады, даволі часта ў парцэляцыі

ўдзельнічаюць аднародныя члены сказа. Парцэляваная група аднародных членаў сказа дазваляе градуіраваць ступень праяўлення дзеяння, якасць або акалічнасць прадмета размовы, прадставіць іх па “частках”, перадаць перарывістасць, паэтапнасць працэсу выражэння думкі [4, с. 254].

Паводле развітасці сінтаксічнай структуры вылучаюцца простая і складаная парцэляцыя. У склад простай парцэляцыі ўваходзіць асобная моўная адзінка або словазлучэнне: *Нарэшце прыйшла вясна. Цёплая, сонечная, доўгачаканая* [І. Пташнікаў]. Складаная парцэляцыя ўяўляе сабой просты сказ, развіты або неразвіты: *Гэта быў страшны малюнак. Голы, роўны стэп і абозы, людзі, што кружаць у паніцы. Сярод выбухаў, якія ўсё злей шматуюць стэп. Якія ўсё ўразаюцца ў людскую мітусню* [І. Мележ ].

Парцэляцыя, як правіла, займае постпазіцыйнае становішча ў адносінах да базавай часткі сказа: *І ўсё ж верыла* [Янішчыц – А.С.]. *У сябе. У сваю паэзію*. [Р. Барадулін]; *Леў Сапега… Што мы пра яго ведаем? Беларуская Савецкая Энцыклапедыя адвяла яму некалькі радкоў петыту. Ні партрэта, ні біяграфіі* [Б. Сачанка];, але ў некаторых выпадках можа стаяць у прэпазіцыі: *Быў. Ёсць. Буду. Таму, што заўжды, як пракляты, Жыву бяздоннай трывогай,Таму, што сэрца маё распята За ўсе мільярды двуногіх* [Ул. Караткевіч].

Парцэляцыю называюць таксама своеасаблівым прыёмам тэкстаўтварэння, які аблягчае ўспрыняцце развітых і ўскладненых сказаў [3, с . 369]. Парцэляцыя, якая ўносіць дадатковыя звесткі пра прадмет размовы, мае рэматызаваны характар і садзейнічае актуалізацыі выказанага зместу, што павышае яе экспрэсіўны патэнцыял. Парцэляваныя канструкцыі дадаткова ўдакладняюць і пашыраюць семантыку як асобных слоў у складзе сказа, так і змест усяго сказа. Яны дазваляюць сканцэнтраваць думку на пэўным прадмеце, яго ўласцівасці або дзеянні, прыцягнуць увагу чытача, надаць выдзеленым словам новае гучанне.

*Парэнтэза* (грэч. parenthesis “устаўка”) – самастойнае, інтанацыйна і графічна выдзеленае выказванне, устаўленае ў асноўны тэкст як дадатковае паведамленне, тлумачэнне або аўтарская ацэнка: *Апошні раз матчыны песні – у дакладным сэнсе слова – Мележ слухаў 20 красавіка 1976 года на сваім аўтарскім вечары ў тэатры імя Янкі Купалы* [Н. Гілевіч].

Перадаючы розныя дадатковыя звесткі, парэнтэза павялічвае змястоўнае напаўненне выказвання і ўзбагачае яго змест: *У кожнага чалавека, які меў шчасце некалі нарадзіцца на нашай зялёнай – такой маленькай і такой неабдымнай – зямлі, абавязкова ёсць свой гожы, ласкавы і шчымліва-непаўторны край, які ў вялікім і шырокім паняцці Радзімы звычайна займае невялікае звыклае месца* [Я. Сіпакоў].

Устаўленае ў асноўны тэкст асобнае выказванне парушае сінтаксічнае адзінства сказа, выдзяляючы такім чынам дадатковае паведамленне, акцэнтуючы на ім увагу адрасата і павышаючы яго маўленчую экспрэсію.

Парэнтэза займае, як правіла, постпазіцыйную пазіцыю, яна размяшчаецца пасля тых членаў сказа, якія патрабуюць тлумачэння або ўдакладнення і суадносіцца з імі як па форме: *Яшчэ адзін штрых, без якога партрэт Мележа – чалавека і пісьменніка – быў бы, на маю думку, вельмі няпоўны – гэта яго незвычайная любоў да народнай песні, да фальклору ў цэлым* [Н. Гілевіч], так і па змесце: *Узбагачэнне – па крупіцы, па каліўцу – нацынальнай гісторыі – вялікая справа, бо ў дачыненні да гісторыі нават і крупінка праўды – не дробязь* [Н. Гілевіч].

Парэнтэза выконвае ў сказе разнастайныя функцыі:

падае каментарый незразумелых слоў: *У паланачках (маленькія начовачкі правейваць, палаць зерне) чарніцы ў малацэ. Сумна і смачна* [Р. Барадулін];

удакладняе называемыя факты: *Калісьці, а дакладней – без малога сто гадоў назад – першы вялікі, сапраўды народны беларускі паэт Францішак Багушэвіч, раздумваючы аб праклятай долі-нядолі свайго краю і народа, горка і гнеўна пытаўся: “а пакажы ж,ваша, хоць адну ксёнжачку ці аб гаспадарцы, ці так аб жыцці нашым, каб па-нашаму?”Гэта значыць, каб на роднай мове, па-беларуску* [Н. Гілевіч]; *Ёсць розная сімволіка – і ў жыцці і, адпаведна, у літаратуры* (Н. Гілевіч):

канкрэтызуе змест: *Народ сваёй дзяржаве – у асобе яе кіраўнічых органаў – даверыў усё: зямлю, прыроду, лясы і рэкі, сваё здароўе, свае духоўныя скарбы-багацці, і лёс сваёй роднай мовы таксама* [Н. Гілевіч];

робіць дадатковую заўвагу да выказанай:думкі: *Гэта пытаецца ў сябе – трывожна і пакутна – чалавек, які ўвесь – да апошняга радка – далучаны да людскіх спраў, да барацьбы за чалавечнасць* [Н. Гілевіч];

акцэнтуе ўвагу на пэўных абставінах: *Адзін паэт-гастралёр збірае на свае літаратурныя вечары (платныя, прычым) агромністую аўдыторыю, чытае ёй сентыментальна-маралізатарскія “стишки”.. і мае вялікі поспех* (Н. Гілевіч);

выражае аўтарскую ацэнку: *Адно з галоўных месцаў – і гэта натуральна! – занялі пытанні захавання міру, захавання і зберажэння асяроддзя, у якім мы жывём і якое павінны пакінуць прыгодным да жыцця іншым пакаленням людзей* [Б. Сачанка];

перадае адносіны да паведамлення: *Маладосці спадарожнічае мудрасць. Але, можа, ніхто і нішто, – калі толькі раздумацца, – так не шкадуе сябе, як тая ж маладосць* [Ул. Карпаў].

У якасці парэнтэзы могуць выкарыстоўвацца асобныя словы: *Спрадвечная адмета восені – ціншыня – жыла тут* [І. Пташнікаў], словазлучэнні: *Хаця добрыя людзі (неабавязкова знакамітыя) не раз падтрымалі добрым словам завочна – пісьмом ці ў друку* [Н. Гілевіч] і нават сказы: *Нават у мільянераў – а і такія ёсць сярод беларусаў – вільгатнеюць*

працэсах маніпуляцыі заключаецца ў стварэнні пэўнай інфармацыйнай мадэлі, якая ў рознай ступені можа адпавядаць або не рэчаіснасці.

У апошнія гады ўзрасла ўвага соцыуму да спосабаў уздзеяння на грамадскую свядомасць. У якасці асноўнай прыметы маніпуляцыі даследчыкі называюць прыхаваны характар уздзеяння, бо сам яго факт не павінен быць заўважаным рэцыпіентам. Менавіта таму са шматлікіх моўных сродкаў маніпулятыўнага ўздзеяння вылучаюцца эўфемізмы як словы або выразы, прызначаныя вуаліраваць факты і падзеі. Эўфемізмы часта выкарыстоўваюцца ў тэкстах СМІ, іх задача – прыхаваць непрыемныя бакі рэчаіснасці за кошт скажэнняў сэнсу апісваемага.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Торопцева, Е.Н. Эвфемистические наименования в аспектах языка, истории и культуры: дис... канд. филол. наук: 10.02.19 /Торопцева Е.Н. – Москва, 2003. – 193 с.

УДК 378.661-057.875(476.2)

***Я. Г. Казлоўская-Дода***

## КАНЦЭПТУАЛІЗАЦЫЯ ПАНЯЦЦЯ ДОМ У БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ ПУБЛІЦЫСТЫЦЫ

У дакладзе аналізуецца паняцце дом у сучасным беларускамоўным публіцыстычным дыскурсе. У публіцыстычных тэкстах вырысоўваецца некалькі семантычных варыянтаў: дом як будынак, як жыллё, як уласнасць, дома чалавеку (жыхару) добра, дом як сям’я, як радзіма, як турма. Здараецца, што два або некалькі варыянтаў выступаюць у адным тэксце адначасова. Іншыя значэнні, напр. дом як спадчына, дом як сусвет і г.д., выступаюць аказіянальна. Разважанні з’яўляюцца працягам іншых публікацый аўтаркі, прысвечаных канцэпту дом у сучаснай беларускай мове.

Публікацыя падрыхтавана ў межах праграмы Міністра навукі і вышэйшай адукацыі Рэспублікі Польшча пад назвай „Нацыянальная праграма развіцця гуманістыкі” ў 2012–2015 гг., № дамовы 0132/NPRH2/M12/81/2012.

Люблінскія этналінгвісты, вядомыя ў еўрапейскай славістыцы як польская этналінгвістычная школа, на працягу больш чым пяцідзесяці гадоў падрыхтавалі грунтоўную метадалагічную базу, якая знайшла і далей знаходзіць прымяненне падчас працы над “Слоўнікам народных

стэрэатыпаў і сімвалаў” [17, 18], а таксама – апошнім часам – над “Аксіялагічным лексіконам Славян і іх суседзяў” [14], пяць тамоў якога падрыхтаваны да друку.

Аксіялагічнымі даследаваннямі займаюцца розныя лінгвісты, напр. Ядвіга Пузыніна, Анна Вежбіцка, Надзея Аруцюнова, Ежы Бартміньскі, Валеры Пісарэк [параўн.: 19: 21-34], аднак, трэба дадаць, што лінгвістычныя зацікаўленні каштоўнасцямі ў розны час мелі розную матывацыю. У васьмідзясятыя гады XX стагоддзя, як піша Ежы Бартміньскі, – гэта быў клопат даследчыкаў пра “фундаментальныя правілы і якасць публічнага маўлення ў грамадстве, дзе панавала аднабаковая ідэалагічная перавага сілы і кантролю” [7: 329]. На мяжы двух тысячагоддзяў адбылося шмат палітычных, грамадскіх і эканамічных змен. І сённяшнія аксіялагічныя даследаванні маюць на мэце паказаць уплыў гэтых змен на фармаванне менталітэту асобных еўрапейскіх супольнасцей, на іх сістэму каштоўнасцей і на іх мову [15 ].

Шматлікія публікацыі люблінскага этналінгвістычнага асяродка на тэму каштоўнасцей [напр. 6, 5, 4] былі імпульсам да параўнаўчых даследаванняў на матэрыяле нацыянальных моў у краінах цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, вынікі публікаваліся, м. ін. у: [1, 8, 10, 14]. Ідэя ўзнікла ў Даследчым цэнтры над антычнай традыцыяй Варшаўскага ўніверсітэта ў 2001 г., тады ж былі распрацаваны асноўныя прынцыпы даследавання пад агульнай тэмай “Моўная карціна свету ў часе трансфармацыі ў Еўропе”. Сваё далейшае развіццё задума атрымала ў Ахрыдзе на XIV Міжнародным з’ездзе славістаў. Пасля яго завяршэння, яшчэ ў тым жа 2008 годзе, па ініцыятыве Ежы Бартміньскага над міжнародным семінарам “Моўна-культурная карціна свету славян у параўнаўчым аспекце” (скарочана EUROJOS) патранат узяў Інстытут славістыкі ПАН [параўн. 15:7-8].

Сёння моўная карціна свету разглядаецца як важны элемент канкрэтнай моўнай супольнасці і па прычыне свайго значэння прыцягвае ўсё большую ўвагу навукоўцаў. Калектыў польскіх этналінгвістаў пад кіраўніцтвам Ежы Бартміньскага сканцэнтраваў вакол сябе даследчыкаў з розных славянскіх і неславянскіх краін: акрамя Польшчы, з Аўстрыі, Бельгіі, Беларусі, Германіі, Расіі, Сербіі, Славакіі, Украіны, Чэхіі, Японіі і інш. Навукоўцы працавалі над выбранымі аксіялагічнымі паняццямі: дом, Еўропа, праца, гонар і вольнасць. Трэба было, каб усе ўдзельнікі семінара кіраваліся такімі самымі метадамі даследавання, выкарысталі тую самую схему аналізу, што дало б магчымасць параўнаць у будучыні вынікі. Вырашана, што для рэканструкцыі паасобных паняццяў трэба праанalізаваць тры тыпы дадзеных: сістэмныя (лексіку, граматычныя формы, словаўтваральныя сродкі, сінтаксічныя канструкцыі і г.д., як у Юрыя Апрэсяна [20:34]), анкетаванне і мінітэксты, атрыманыя шляхам

апытання, а таксама тэксты розных жанраў як “культурныя канцэпты”. Усе тыпы дадзеных збіраліся паводле дакладна акрэсленай метадалагічнай інструкцыі. Больш таго, люблінскія этналінгвісты звяртаюцца таксама да вераванняў, звычак і людскіх паводзін у адносінах да прадмета даследавання, паколькі неаднойчы менавіта пазамоўныя захаванні і паводзіны чалавека дапамагаюць інтэрпрэтаваць неадназначную семантыку слоў, асабліва, каб адрозніць метафары ад рэштак міфалагічнага мыслення [параўн. 3]. Для польскіх этналінгвістаў, увогуле, і для Ежы Бартміньскага, у прыватнасці, у цэнтры даследавання моўнай карціны свету знаходзіцца чалавек (суб’ект) і каштоўнасці, таму накірунак сваёй навуковай дзейнасці акрэсліваюць як антрапалагічна-культурную лінгвістыку (этналінгвістыку) [15:8].

У аснове параўнаўчых даследаванняў, як пішуць вучні і супрацоўнікі прафесара Бартміньскага, знаходзяцца наступныя прынцыпы: “1) мова – гэта не толькі інструмент камунікацыі, гэта таксама эфект досведу, канцэптуалізацыі і інтэрпрэтацыі свету; 2) у мове – граматыцы, лексіцы і тэкстах як элементах моўнай сістэмы – замацавана карціна свету; 3) моўная карціна свету з’яўляецца кансалідацыйным фактарам паасобных супольнасцей: сямейных, лакальных, рэгіянальных, нацыянальных і транснацыянальных; гэта вырашальны фактар іх ідэнтычнасці; 4) у аснове моўнай карціны свету ляжаць каштоўнасці, іерархія і разуменне якіх у кожнай мове і культуры свае; 5) даследаванне моўных карцін свету розных камунікацыйных супольнасцей дазваляе знайсці падобнае і рознае ў канцэптуалізацыі свету” [15: 8].

Цягам апошніх шасці гадоў праведзена адзінаццаць міжнародных канферэнцый і рабочых сустрэч. Вынікі будуць падводзіцца і прэзентавацца на заключнай канферэнцыі, якая запланавана на 13 кастрычніка 2015 года ў Інстытуце славістыкі ПАН. Рэзультат сумеснай працы – гэта пяць асобных тамоў, кожны прысвечаны семантыцы аднаго з выбраных паняццяў (канцэптаў): “Еўропа вачыма славян і іх суседзяў”, “Дом у мовах і культурах”, “Праца ў славянскіх мовах”, “Вольнасць у славянскіх і еўрапейскіх мовах”, а таксама “Гонар у мовах славян і іх суседзяў”.

Тэкставыя дадзеныя – гэта фрагменты з рознажанравых тэкстаў (таксама паэтычных), з перавагай публіцыстычных, дзе адлюстраваны максімальна ўсе канатацыі паняцця. Прычына, паводле якой пераважная большасць кантэкстаў паходзіць з публіцыстыкі, наступная: з аднаго боку – публіцыстыка трактуецца як мешаніна розных функцыянальных стыляў мовы [16: 154], з другога – сучасная прэса характарызуецца рознымі ідэалагічнымі напрамкамі і скіравана да рознароднага чытача. Трэба ўдакладніць, што кантэксты, занатаваныя ў сучаснай публіцыстыцы, – гэта толькі частка, няхай і большая, тэкставых крыніц, агульная лічба якіх

перавышае 300 кантэкстаў. У дадзеным дакладзе я не разглядаю фрагменты з мастацкіх тэкстаў, з дыдактычных матэрыялаў (рознага тыпу падручнікаў і дапаможнікаў беларускай мовы) ці з электроннага рэсурсу (выказванняў на сайтах, блогах у сеціве).

Каб вобраз паняцця быў поўны, разглядалася прэса розных ідэалагічных напрамкаў: дзяржаўныя і незалежныя выданні. Прааналізавана каля 170 кантэкстаў з назвай *дом* / *хата*. Пераважае семасіялагічны падыход пры інтэрпрэтацыі і падачы сабранага матэрыялу – ад назвы да семантыкі і самога прадмета, нягледзячы на тое не выключаецца з метадалогіі і падыход анамасіялагічны, г. зн. ад прадмета і яго значэння да назвы і ўяўлення [параўн. 3].

Уяўленні пра дом у сучаснай беларускамоўнай публіцыстыцы маюць даволі шырокі семантычны спектр, яго можна падзяліць на наступныя групы:

1. будынак (пабудова) як матэрыяльны аб’ект;
2. жыллё як месца, дзе жывуць людзі (*святло ў вокнах, дым з коміна, машына на падворку* і г.д.), тут нараджаюцца і паміраюць, тут ядуць, мыюцца, захоўваюць свае рэчы, збіраюць сямейныя рэліквіі і г.д.;
3. супольнасць (*гаспадар / гаспадыня, бацькі, дзеці, сябры, родныя / род*, і г.д.) знаходзіцца ў апазіцыі да індывідуальнай асобы (*я*);
4. там, дзе добра: *асабістая прастора* (*вольнасць паводзін*), *прыемна*, *утульна* і г.д.;
5. радзіма, Айчына;
6. уласнасць, маёмасць: *камфорт*, *матэрыяльная спадчына* (дом каму-н. належыць);
7. дом як турма.

Трэба заўважыць, што некаторыя значэнні перапляліся між сабой, часам цяжка адназначна назваць семантычны варыянт. У далейшым я затрымаюся пры кожным пункце больш падрабязна.

1. Для матэрыяльнага (фізічнага) аб’екта – дома – істотны не толькі сам будынак, але і прастора, у якой ён знаходзіцца (ці будуецца). Супрацьпастаўляецца дом у вёсцы гарадскому дому і не толькі паводле месца размяшчэння ці памераў, структуры памяшкання, у першую чаргу звяртае на сябе ўвагу атмасфера (*адкрытасць*, *блізкія адносіны з суседзямі*, *узаемная дапамога*, *сувязь з прыродай* супраць *замкнутасці* і г.д.).

Дом будуецца, сам працэс пабудовы мае станоўчую канатацыю (*Будаваць – не бедаваць*). Дом – гэта розныя пабудовы: *шматпавярховікі, хмарачосы, хрушчоўкі, камуналкі, інтэрнаты, дом, хата, катэдж, сядзіба* і г.д. Яго характарыстыкі вельмі разнастайныя: *новы, закінуты, жылы, цагляны, драўляны, з блокаў, маналіт, панэльны,, ашаляваны* і г.д. Тое ж можна сказаць і пра асобныя элементы дому: *дах з шыфера, бляхі, чарапіцы* і

г.д., *вокны драўляныя, шкло-пакеты* і г.д. Звяртаецца ўвага на будаўнічы матэрыял, памеры (*будыніна, гаргара, хатка, халупка* і г.д.). Будуе дом звычайна мужчына (гаспадар), асаблівую вартасць уяўляе дом пабудаваны, хоць у пэўным сэнсе, уласнымі рукамі. Дом як будынак можа *згарэць*, можа быць *разбураны*, *знесены* і г.д. Гэта не абавязкова месца для жылля чалавека, тут могуць размяшчацца розныя ўстановы, прадпрыемствы і г.д. Няшмат аксіялагічнай інфармацыі звязана з гэтам аспектам.

2. Вельмі інфармацыйна насычаным у публіцыстыцы з'яўляецца *дом / хата* як жыллё.

> *(...) пакуль цепліцца чалавечае жыццё, трымаецца і дом. Фіранкі адхіляюцца раніцай, каб хоць крышачку святла пранікла ў паўзмрок, даючы радасці яго насельнікам. З коміна ўецца густы дым, сцелючы гаркаваты пах і навяваючы зайздросныя думкі пра цёплы прыпечак. Жаданая лавачка пад прызбай чакае гаспадароў, каб яны змораныя, апусціліся на яе задумаліся аб сваім мінулым...* (Як памірае дом, "Лунінецкія навіны", 02.09.2014)

Тут варта разглядаць не толькі функцыянальнасць дому як месца, дзе спяць, ядуць, адпачываюць, сустракаюцца з сябрамі і сваякамі і г.д. Дом павінен быць адпаведным для жылля, мець канкрэтныя характарыстыкі і знешне, і ўнутры.

> *(...) будынак толькі звонку выглядае новабудоўляй і цацкай. Унутры – дзіркі ў столі, тонкія драўляныя дзверы, цвіль на сценах і холад с сырасцю.*
>
> *"Тут няма ні ацяплення, ні вады гарачай. Ніякіх умоваў для жыцця. У XXI стагоддзі гэта проста непрымальна. Жыць тут немагчыма".* (Алесь Пілецкі, Наша Ніва, 08.10.2012)

Шмат інфармацыі ў газетных публікацыях знойдзем пра абжыванне прасторы, асваенне яе, напаўненне сваім "духам". Не кожнае жыллё ацэньваем аднолькава, не кожнае жыллё чалавек называе "сваім домам". Пра дом клапоцяцца, прыбіраюць, звычайна гэта робіць гаспадара.

3. У доме жывуць людзі, звычайна гэта сям'я. Дом без жыхароў мае сумны выгляд. Гэта і пакінутыя ў вёсках хаты, гэта і пакінутыя цэлыя вёскі і гарады ў Чарнобыльскай зоне.

> *Пад старым дахам жыве нячуваная самота і горкі адчай. Нібы хочучы суцешыць гэтую адзіноту, чапляецца доўгімі пальцамі-галінкамі за яе сцены дзікі вінаград. (...)*
>
> *Вокны даўно ніхто не адчыняў (...) Густое пустазелле маркоўніку, іншай здзічэлай травы абступілі хату шчыльнай*

*сцяной, запаланілі ўвесь прасторны падворак. (...) ніхто не выходзіць з пакінутага жытла... (...)*

*Ніхто больш не абнаўляе сцежкі ля хаты, не наводзіць тут звыклы парадак, не адчыняе скрыпучыя, аселыя пад цяжарам гадоў дзверы гаспадарчых пабудоў. (...) Над колішняй студняй струхнелі і абваліліся драўляныя праёмы і застрэшак, тырчыць на паверхні зямлі вышчарблены па краях бетонны круг.* (Ірына Пашкевіч, “Працоўная слава”, Валожын, 28.06.2014)

Дом беларуса – гэта ў першую чаргу для сябе і сваіх блізкіх: не *для гасцей*, не *на паказ*, а тым больш не для чужых.

4. Дом – гэта месца, куды хочацца вяртацца, дзе нас чакаюць, шануюць, дзе адчуваем сябе добра.

*Дом – гэта зусім не памяшканне, гэта тое, што напаўняе яго.* (Анастасія Цыпрук, “Народная газета”, 17.12.2011)

5. Радзіма. З аднаго боку Радзіма разглядаецца як агульны вялікі Дом, з іншага – Радзіма для беларуса замыкаецца ў найбліжэйшай прасторы – малой радзіме або нават уласным доме. Варта зазначыць, што першасным з’яўляецца другое значэнне. Ідэалагічнае разуменне дому, нягледзячы на шматлікія прыклады ў перыядычных выданнях, не стала агульным для ўсіх беларусаў. У Беларусі, гэта добра відаць на матэрыялах перыядычнага друку, адсутнічае моцная нацыянальная свядомасць, адсутнічае патрэба захоўваць сваю нацыянальную мову, культуру, нацыянальныя сімвалы – галоўныя каштоўнасці народа. Адсутнічае патрэба захоўваць чысціню на лесвічнай пляцоўцы, у пад’ездзе, не на сваім падворку. У незалежных і афіцыйных выданнях амаль аднолькава папулярны лозунг “*Беларусь – наш дом*”, але семантычнае напаўненне гэтага месца залежыць ад пункту гледжання канкрэтнага палітычнага (грамадскага) угрупавання.

6. Дом з’яўляецца чыёй-небудзь уласнасцю, якая можа быць прыватная або дзяржаўная (напр., службовае жыллё). “Уласнасць” на службовае жыллё, а нават прыватызаванае, калі гэта кватэра, не дае беларусу поўнага задавальнення і ён шукае дачу, не як дом для адпачынку, а як месца, дзе можна папрацаваць (*Дача – гэта савецкі сурагат свайго дому*, Віталь Цыганкоў, Слоўнік Свабоды, Arche 2000, №7). Як маёмасны стан насельніцтва, так і дамы (жыллёвыя ўмовы) у Беларусі вельмі розныя: ад сямейных інтэрнатаў да асабнякоў і катэджаў. Пераважная большасць насельніцтва, аднак, жыве ў сваім доме або кватэры, апошняя ні за што не “дараўнае” дому. Маёмасць і дабрабыт, відавочна, па прычыне эканамічнага (але і духоўнага крызісу) сталі важнымі, калі не найважнейшымі, каштоўнасцямі сярэднестатыстычнага беларуса. Аднак сучасныя беларусы незаможныя: *дом няма каму*

*прадаць... Бо – няма каму купіць...*, напісаў у сваім “Вясковым дзёньніку 2002-га году” Сяргей Шаўцоў (“Дзеяслоў” 24.12.2013).

7. Дом можа быць турмой для яго жыхароў (інваліды; жанчыны, якія адчулі ў адносінах да сябе насілле; падчас *дамашняга арышту* для палітычных зняволеных, а таксама ў самой турме: камера званая *хатай*). Апошняе значэнне – даволі новае значэнне і новая рэальнасць – можна натаваць у незазалежных перыядычных выданнях.

Як паказвае кароткі прагляд, у публіцыстычных матэрыялах семантыка паняцця дом даволі разнастайная. Базавае значэнне паняцця, якое паўтараецца ў розных тыпах дадзеных, – гэта жыллё, будынак, сям’я, радзіма, месца, у якім пануе любоў і г.д., у перыядычным друку залежна ад пункту гледжання аўтара матэрыялаў, накірунку самога выдання можа характарызавацца станоўчай, нейтральнай або негатыўнай канатацыяй. З аднаго боку падкрэсліваецца факт, што ў доме ўтрымліваецца парадак, на падворку пасаджана шмат кветак ці зроблены прывабны газон, побач знаходзіцца сад, але таксама і агарод з абавязковымі агуркамі, цыбуляй ды бульбай; у доме прыгатуюць смачную, любімую страву, там адпачынем з дарогі і пасля працы; там пануе любоў, туды спяшаемся з дарогі і г.д. З другога – інфармуецца пра насілле, пра абмежаванні волі і інш. – але такі дом – гэта ўжо не стэрэатыпны дом. Кожнае ўяўленне залежыць, часцей за ўсё, ад пункту гледжання асобы, якая піша, яе мэты і ідэалагічнага пераканання.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


1. Abramowicz, M., Bartmiński J., Iwona Bielińska-Gardziel I. (red.). Wartości w językowo-kulturowym obrazie świata i Słowian ich sąsiadów. T. 1. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2012. – 314 s.

2. Bartmiński J. Ankiety jako pomocnicze narzędzie rekonstrukcji językowego obrazu świata // Wartości w językowo-kulturowym obrazie świata Słowian i ich sąsiadów, Bielińska-Gardziel I., Niebrzegowska-Bartmińska S., Szadura J. (red.). T. 3 Problemy eksplikowania i profilowania pojęć. – Lublin: Wyd. UMCS, 2014, s. 279-308.

3. Bartmiński J. Perspektywa semazjologiczna i onomazjologiczna w badaniach językowego obrazu świata „Poradnik Językowy” 2015. Nr 1 (720). S. 14-29.

4. Bartmiński, J. (red.). Język – wartości – polityka. Zmiany rozumienia nazw wartości w okresie transformacji ustrojowej w Polsce. Raport z badań empirycznych. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2006.

5. Bartmiński, J. (red.). Język w kręgu wartości. Studia semantyczne. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2003.

6. Bartmiński, J. (red.). Pojęcie ojczyzny we współczesnych językach europejskich. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 1993.

7. Bartmiński, J. Jakè hodnoty spoluutvařejí jazykový obraz sveta Slovanu? // „Slovo a Slovestnost”. T. 71. 2010. – S. 329-339.

8. Bartmiński, J., Bielińska-Gardziel, I., Niebrzegowska-Bartmińska, S. (red.). Wartości w językowo-kulturowym obrazie świata Słowian i ich sąsiadów. T. 2. Wokół europejskiej aksjosfery. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2014. – 272 s.
9. Bartmiński, J., Mazurkiewicz-Brzozowska, M. (red.). Nazwy wartości. Studia leksykalno-semantyczne. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 1993. – 276 s.
10. Bielińska-Gardziel, I., Niebrzegowska-Bartmińska, S., Szadura, J. (red.). Wartości w językowo-kulturowym obrazie świata i Słowian ich sąsiadów. T. 3. Problemy eksplikowania i profilowania pojęć. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2014. – 368 s.
11. Kozłowska-Doda, J. Definicja kognitywna domu białoruskiego. // Abramowicz M., Bartmiński J., Chlebda W. (red.). Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów [LASiS] (у друку).
12. Kozłowska-Doda, J. Obraz domu białoruskiego. Uwagi wstępne // Wartości w językowo-kulturowym obrazie świata Słowian i ich sąsiadów 1, red. Abramowicz M., Bartmiński J., Bielińska-Gardziel I. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2012. – S. 89-105.
13. Kozłowska-Doda, J. Obraz domu białoruskiego w świetle danych ankietowych. // Żywicka, B., Mazurkiewicz-Brzozowska, M. (red.). Obraz świata w badaniach ankietowych (у друку).
14. LASiS – Abramowicz, M., Bartmiński, J., Chlebda, W., (red.). Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów, у друку.
15. Niebrzegowska-Bartmińska, S., Nowosad-Bakalarczyk, M., Wasiuta, S. Od redaktorów // Bartmiński, J. Polskie wartości w europejskiej aksjosferze, wybór i red. Niebrzegowska-Bartmińska S., Nowosad-Bakalarczyk M., Wasiuta S. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2014. – S. 7-9.
16. Nowosad-Bakalarczyk, M., Płeć polszczyźnie rodzaj gramatyczny we współczesnej polszczyźnie. – Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2009. – 191 s.
17. SLSJ, – Słownik ludowych stereotypów językowych. Zeszyt próbny, Wrocław: Wyd. CPBP, 1980.
18. SsiSL, – Bartmiński, J. (koncepcja i red.). Słownik stereotypów i symboli ludowych. T. 1. Kosmos. Cz. 1 Niebo, światła niebieskie, ogień, kamienie. – Lublin: Wyd. UMCS, 1996; Cz. 2 Ziemia, woda, podziemie. – Lublin: Wyd. UMCS, 1999; Cz. 3 Meteorologia. – Lublin: Wyd. UMCS, 2012; Cz. 4 Świat, światło, metale. – Lublin: Wyd. UMCS, 2012.
19. Żywicka, B. Miejsca i wartości. Zmiany w językowym obrazie przestrzeni we współczesnej polszczyźnie. – Lublin: Polihymnia, 2007. – 245 s.
20. Апресян, Ю. Языковая картина мира и системная лексикография. – Москва: Языки славянских культур, 2006.
21. Казлоўская-Дода, Я. Беларускі дом вачыма студэнцкай моладзі // Кириенко, В. В. (ред.). Менталитет славян и интеграционные процессы: история, современность, перспективы. Материалы IX Международной научной конференции, 21-21 мая 2015 года. – Гомель: Государственный технический университет им. П. Сухого, 2015. – С. 162-168.
22. Казлоўская-Дода, Я. Паняцце дом у сучаснай беларускай мове. – Lublin: Wydawnictwo UMCS (у друку).

УДК 371.261

*А. Ю. Мельникова*

# ТРЕБОВАНИЯ К ВЫПОЛНЕНИЮ ПРОЕКТА ПО СОЗДАНИЮ ОБРАЗОВАТЕЛЬНОГО ВЕБ-КВЕСТА

В статье рассматривается вопрос о роли проектной деятельности в обучении иностранных студентов филологического факультета. Так, проектное задание (разработка веб-квеста) может использоваться в качестве оценочного средства при обучении информационным технологиям студентов-магистрантов. Описываются особенности и этапы создания веб-квеста, а также основные требования к организации проектной работы по созданию веб-квеста, который впоследствии может использоваться при обучении иностранных учащихся неродному для них языку (русскому).

Современный этап развития высшего образования во многих странах характеризуется активным включением в процесс обучения информационных технологий. В результате глобальной компьютеризации возрастают требования к подготовке высококвалифицированных специалистов, в том числе иностранных, которым предстоит вернуться на родину и реализовать себя в качестве преподавателей русского языка. Выпускникам необходимо быть конкурентоспособными, свободными, критически мыслящими, уверенными и творческими людьми, они должны владеть высоким уровнем языковой подготовки. Иначе говоря, они должны быть компетентными в своей области специалистами.

Немаловажным при подготовке магистрантов филологического факультета становится формирование у них ряда профессиональных компетенций, изложенных в федеральном государственном стандарте (ФГОС) Российской Федерации, одной из которых является информационная компетенция. Именно поэтому курс «Информационные технологии в филологии» является обязательным для обучения и призван оказать студентам теоретическую и практическую помощь в освоении информационных технологий, которые могут применяться в профессиональной деятельности филолога-исследователя, филолога-педагога и филолога-переводчика.

Среди оценочных средств, которые могут быть использованы преподавателем курса, могут быть форматирование текста, создание презентации, работа с Национальным корпусом русского языка и с материалами, размещёнными на сайтах и образовательных порталах, составление библиографии по теме магистерской диссертации и др. Однако одним из наиболее интересных и продуктивных заданий является

создание образовательного веб-квеста, предназначенного для изучения иностранными студентами русского языка или литературы. Он позволяет сформировать общекультурные и профессиональные компетенции учащихся, среди которых важную роль играют информационная и коммуникативная компетенции.

Следует отметить, что в настоящее время о веб-квесте как технологии написано уже достаточно много работ. Принято считать, что веб-квест является интерактивной формой проектной деятельности, включающей в себя проблемное задание, сценарий (с элементами ролевой игры или путешествия) и информационные ресурсы Интернета, необходимые для исследования центрального, открытого вопроса и приобретения собственных знаний [1]. Образовательный веб-квест представляет собой сайт в Интернете, созданный для работы учащихся при изучении ими конкретной темы, учебного предмета и выполнении определённой учебной задачи, проблемы. Отличительными особенностями технологии является не только использование информационных ресурсов, но и глубокое переосмысление недавно приобретённой информации [3]. Таким образом, веб-квест предполагает не только владение учащимися суммой знаний, но и умение практически применять полученные знания, то есть развитие рефлекторного мышления.

В основе веб-квеста лежит развитие познавательных навыков учащихся, умений самостоятельно конструировать свои знания, ориентироваться в информационном пространстве, критически и творчески мыслить.

Безусловно, веб-квест как проект обладает дидактической ценностью и призван повысить эффективность образовательного процесса, так как во многом позволяет сэкономить время учащихся на изучении конкретного учебного материала. Однако во многих статьях и методических работах он рассматривается, как правило, в качестве готового продукта, созданного преподавателем с целью проверки знаний учащихся. Для нас же важен сам процесс создания веб-квеста, позволяющий иностранным магистрантам как будущим специалистам в области русской филологии реализовать свои творческие способности, проявить педагогические навыки, умение работать в коллективе. С этой точки зрения учащиеся филологического факультета создают не просто проект, а «проект в проекте»: студенты выполняют проектную работу по созданию веб-квеста, который в свою очередь тоже является проектом, предназначенным для других иностранных студентов, желающих познакомиться с русской культурой и повысить уровень владения русским языком. Также данный проект – это хорошая стартовая площадка для будущей проектной и педагогической деятельности студентов в отдельных группах, он предоставляет иностранным магистрантам

возможность подготовиться к прохождению проектной и педагогической практик. Так, в ходе проектной работы студентам необходимо тщательно продумать систему заданий и упражнений, которые предстоит выполнить будущим участникам созданного веб-квеста.

В этой связи в качестве инструкции студентам может быть предложено внимательно ознакомиться с проектным заданием. Например: создайте веб-квест на определённую тему, посвящённую изучению русского языка и литературы. Веб-квест должен быть направлен на совершенствование навыков владения неродным языком (русским как иностранным). Внимательно ознакомьтесь с требованиями к выполнению проекта.

Условно можно выделить требования к созданию самого веб-квеста (они уже достаточно хорошо описаны во многих работах) и требования к организации проектной работы в целом. Иначе говоря, оцениваться должен не только конечный результат, но и то, как каждый из участников проекта работал в ходе его выполнения.

Е.С. Полат в качестве основных требований к использованию метода проектов называет следующие:

1. Наличие значимой в исследовательском, творческом плане проблемы/задачи, требующей интегрированного знания, исследовательского поиска для её решения.
2. Практическая, теоретическая, познавательная значимость предполагаемых результатов.
3. Самостоятельная (индивидуальная, парная, групповая) деятельность учащихся.
4. Структурирование содержательной части проекта (с указанием поэтапных результатов).
5. Использование исследовательских методов, предусматривающих определённую последовательность действий [3].

Данные требования, безусловно, должны учитываться при составлении инструкции по выполнению проектного задания. Важно учитывать и то, что выполнение веб-квеста включает в себя три основных этапа:

1. Начальный (ознакомительный): выбор темы, формулирование проблемы, главного задания и конечных результатов, определение ролей для участников веб-квеста.
2. Основной (исследовательский): индивидуальная и групповая работа над конкретными заданиями и подтемами с использованием информационных ресурсов, обсуждение промежуточных результатов.
3. Заключительный (презентативный): защита проекта, представление конечных результатов, выступления подведение итогов, дискуссия, участие в форуме. Выделенные этапы веб-квеста соответствуют основным этапам

разработки и выполнения любого проекта и поэтому могут быть применены к организации проектной работы над веб-квестом.

При описании требований необходимо учитывать и продолжительность выполнения проекта. В курсе «Информационные технологии в филологии» эффективнее использовать именно кратковременные проекты, предполагающие интенсивную работу учащихся. Оптимальное время выполнения – две недели. При выполнении задания студентам можно пользоваться различными словарями, справочной и методической литературой, интернет-ссылками и иными электронными ресурсами.

В соответствии с указанными этапами и продолжительностью выполнения веб-квеста можно выделить следующие основные требования к выполнению проектной работы по созданию веб-квеста:

I. Начальный этап (подготовительная и коллективная работа над проектом). Требуется:

1. Изучить учебно-методическую и справочную литературу, которая должна помочь составить представление о веб-квесте.
2. Познакомиться с образцами веб-квестов в Интернете.
3. Совместно выбрать филологическую тему, изучению которой будет посвящён веб-квест, определить тип веб-квеста, потенциальное количество его участников и их уровень владения языком.
4. Продумать проблему, которая должна мотивировать учащихся к выполнению ключевого задания.
5. Чётко и ясно сформулировать главное задание, которое должно соответствовать спроектированной проектной ситуации, написать инструкцию по выполнению веб-квеста.
6. Указать конкретные роли, которые участники веб-квеста могут самостоятельно выбрать.
7. Определить этапы прохождения веб-квеста и ряд задач, которые должны выполнить учащиеся, выбравшие ту или иную роль.
8. Определить тип заданий, уровень их сложности, а также методы и приёмы обучения, которые предполагается использовать при разработке веб-квеста. Тщательно продумать систему заданий и упражнений.
9. Описать критерии и шкалу оценки (баллы за выполнение того или иного этапа веб-квеста). Ожидаемые результаты должны быть сформулированы чётко, соответствовать цели выполнения веб-квеста.
10. Распределить между собой роли участников проекта: кто будет руководителем проекта, кто дизайнером, кто будет отвечать за составление интернет-ссылок, кто будет заниматься разработкой содержательной стороны конкретных страниц и т.д., т.е. прописать конкретные задачи для каждого участника проекта. Все задачи участников проекта должны быть равны по уровню сложности.

11. Составить план работы и сроки, в которые каждый участник проекта должен выполнить ту или иную часть работы.

II. Основной этап. Самостоятельная работа участников проекта по выполнению своих индивидуальных исследовательских и творческих задач. На данном этапе отдельным участникам требуется:

1. Учитывать содержательную сторону веб-квеста:

а) отобранный материал должен соответствовать общей цели веб-квеста и конкретной задаче его участника. Он должен способствовать развитию навыков владения речью на неродном языке (русском как иностранном);

б) материалы должны быть представлены целостно и системно;

в) задания должны быть рассчитаны на определённый уровень владения языком, быть разнообразными и направленными на развитие определённого вида речевой деятельности. В этой связи обязательна разработка комплекса упражнений, направленных на формирование лексических и грамматических навыков речи, аудирования, письма, чтения и др. Все задания и упражнения должны быть грамотно сформулированы и расположены в определённой методической последовательности;

г) текстовая часть в целом должна быть содержательной, оформленной без грамматических ошибок, тщательно проверенной;

д) список интернет-источников должен быть достоверным и способствовать выполнению учащимися веб-квеста. Он не должен быть слишком большим, необходимо выбрать только самые нужные и ценные источники.

2. Учитывать особенности оформления веб-квеста (цвет, шрифт и т.д.):

а) шрифт должен чётко выделяться на фоне страницы;

б) выбранные для визуализации средства (изображения, видеоматериалы) должны быть уместными (соответствовать содержанию страницы и логике изложения), красочными, интересными, дополнять текст и т.д.

3. Во время работы над проектом руководитель должен систематически проверять выполненную работу, связываться с участниками лично или по электронной почте.

4. Необходима подготовка к отчётам о ходе выполнения проектной работы. Преподаватель на занятии проводит с группой промежуточные обсуждения полученных результатов, выслушивая отчёт руководителя проекта, отвечает на вопросы студентов, помогает решить возникшие трудности.

5. В веб-квесте допустимо использование паролей на определённых этапах выполнения его участниками, однако он должен находиться в общем доступе в Интернете.

III. Заключительный этап (коллективная работа):

1. Защита проекта.

2. Обсуждение полученных результатов и трудностей, возникших в ходе выполнения проекта, выводы, пожелания и рекомендации учащихся для студентов, которым в будущем предстоит выполнить проектное задание.

Проект по созданию веб-квеста с указанными требованиями был апробирован на кафедре практического русского языка Ивановского государственного университета при обучении иностранных студентов-магистрантов курсу «Информационные технологии в филологии» и, как показал опыт, в дальнейшем помог успешно пройти проектную практику. Выполнение подобных проектных заданий стимулирует формирование методических умений и творческого мышления, а также повышает эффективность подготовки магистров к их будущей профессиональной педагогической деятельности.

**Список использованных источников**

1. Информационные технологии в обучении языку [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://itlt.edu.nstu.ru/webquest.php#3

2. Полат, Е.С. Метод проектов [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://wiki.iteach.ru/images/4/4e/Полат_Е.С. __ Метод_проектов.pdf

3. Персональный сайт Тома Марча [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://tommarch.com/writings/what-webquests-are/.

УДК 811.161.3

***П. А. Міхайлаў***

## БЕЛАРУСЫ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ГЕРМАНІІ І ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

У артыкуле паведамляецца пра беларускую дыяспару, навучанне роднай мове, беларусазнаўчыя даследаванні і прапаганду айчыннай культуры ў Германіі і Вялікабрытаніі ў XX – пачатку XXI стст.

Па некаторых звестках апошняга часу, за межамі Рэспублікі Беларусь больш чым у 72 краінах свету пражывае прыкладна 3–3,5 млн беларусаў. У 25 краінах афіцыйна зарэгістравана і дзейнічае больш за 220 грамадскіх арганізацый і структур беларускай дыяспары. Дзейнасць гэтых арганізацый "накіравана на захаванне нацыянальна-культурных традыцый, на развіццё культурных, навуковых, эканамічных кантактаў са сваёй гістарычнай радзімай" [2, с. 563].

Беларуская мова ў замежных краінах мае два асноўныя аспекты выкарыстання: ***прыкладны*** – як на ёй, так і на дзяржаўных мовах ствараюцца шматлікія падручнікі па беларускай мове для вучняў і для студэнтаў ВНУ, выдаюцца навучальныя граматыкі і слоўнікі; ***навукова-даследчы*** – беларуская мова выступае як аб’ект навуковага вывучэння, друкуюцца шматлікія манаграфіі, слоўнікі і інш. Прадстаўнікі беларускай дыяспары і мясцовыя навукоўцы ажыццяўляюць шырокую асветніцкую працу па захаванні нацыянальна-культурнай адметнасці беларусаў, даследаванні беларускай мовы, культуры, этнаграфічных асаблівасцей, ствараюць шматлікія мастацкія творы, друкуюць на беларускай мове часопісы, газеты, разнастайныя навуковыя працы (частка з іх выходзіць на англійскай, нямецкай і іншых мовах).

Усяго ў гісторыі ***Германіі*** навукоўцы вылучаюць тры хвалі эміграцыі, пачынаючы з канца XIX ст. У выніку дзвюх сусветных войнаў на тэрыторыю Германіі трапілі не толькі па ўласнай ініцыятыве, але і прымусова сотні тысяч жыхароў Беларусі ў якасці ваеннапалонных, людзей, прымусова вывезеных на працу, вязняў канцлагераў і г.д. (па розных ацэнках даследчыкаў ад 400 да 700 тысяч чалавек толькі ў 1941–1944 гг.). Па заканчэнні ваенных дзеянняў саюзніцкія акупацыйныя ўлады стварылі для іх на тэрыторыі Заходняй Германіі *Беларускія лагеры для перамешчаных асоб*. Тут у 1945–1950 гг. існавалі паўнацэнныя беларускія гімназіі імя Янкі Купалы (Рэгенсбург), імя М.Багдановіча (Ватэнштэт), імя У.Ігнатоўскага (Майнлёз) і інш., шэраг пачатковых школ і дзіцячых садкоў для эмігрантаў з Беларусі [3]. Гімназіі сталі цэнтрамі беларускага школьніцтва ў Германіі, тут ствараліся для вучняў падручнікі, буквары, чытанкі. Пазней гэтыя навучальныя ўстановы былі зачыненыя з прычыны масавага пераезду беларусаў на сталае жыхарства ў іншыя краіны. На беларускай мове ў Германіі друкаваліся газеты і часопісы не толькі грамадска-палітычнага кірунку *“Раніца”*, *“Шляхам жыцця”*, *“Рух”*, *“Голас беларусаў”*, *“Беларускае слова”*, *“Бацькаўшчына”* і інш., але і літаратурна-грамадскія *“Шыпшына”*, *“Сакавік”*, *“Баявая ўскалось”*, рэлігійныя *“Звіняць званы святой Сафіі”*, *“Беларускі царкоўны голас”*, *“Праваслаўны беларус”*, маладзёжныя *“Скаўт”*, *“Скаўцкая інфармацыйная служба”*, *“Юнак”*, гумарыстычныя *“Шарсцень”*, *“Смехам па галаве”*, дзіцячы *“Каласкі”* і іншыя выданні. Друкавалі іх беларускамоўныя выдавецтвы *“Бацькаўшчына”*, *“Шыпшына”*, *“Раніца”*, выдавецкія суполкі *“Крыніца”*, *“Заранка”*, *“Рунь”* і інш. На пачатку 1950-х гг. пераезд беларусаў з Германіі ў іншыя краіны ў асноўным завяршыўся, а шэраг выданняў, выдавецтваў і ўстаноў паступова перамясціліся ў ЗША. З гэтага часу адным з важных цэнтраў беларускай эміграцыі ў Германіі стаў г. Ляймен, дзе ў 1982 г. створаны т.зв. “*Беларускі музей*”, у якім са збораў беларускай эміграцыі ў Англіі, Аўстраліі, ЗША прадстаўлена адзенне, старыя пячаткі, манеты,

маркі, кнігі, іншыя экспанаты, а таксама “Інстытут беларусаведы” – навукова-даследчая і выдавецкая ўстанова беларускай эміграцыі ў Германіі, што да 1993 г. выдаваў часопіс “Весткі”. У ім друкаваліся творы эмігранцкіх беларускіх пісьменнікаў, літаратараў з Польшчы і Беларусі, а таксама кнігі па гісторыі, этнаграфіі і культуры Беларусі.

Усё пералічанае вышэй – плён намаганняў саміх беларусаў-эмігрантаў, зацікаўленых у захаванні імі роднай мовы і культуры на чужыне. Аднымі з першых нямецкіх вучоных, што зацікавіліся беларускай мовай у Германіі, былі Рудольф Абіхт і Макс Фасмер. Так, Р.Абіхт пачаў даследаваць старажытнабеларускія пісьмовыя помнікі яшчэ ў 90-я гг. XIX ст., друкаваў у газетах разнастайныя беларускія матэрыялы, а ў 1918 г. у Вроцлаве сумесна з Я.Станкевічам выдаў беларускі буквар “Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным”. Нямецкі мовазнавец-славіст М.Фасмер прымаў удзел у акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926, Мінск), шырока выкарыстоўваў беларускі матэрыял у трохтомным “Этымалагічным слоўніку рускай мовы” (1953–1958), што садзейнічала “знаёмству еўрапейскай славістычнай грамадскасці з лексічнай спецыфікай беларускай мовы” [4, с. 13], змяшчаў беларускі анамастычны матэрыял у шматтомных выданнях “Слоўнік рускіх гідронімаў” (з 1961 г.) і “Слоўнік рускіх геаграфічных назваў” (з 1962 г.). У Берлінскім універсітэце з 1967 г. выкладаюць беларускую філалогію нямецкія мовазнаўцы Карл Гутшміт і Соня Хайль. У нямецкім друку К.Гутшміт апублікаваў шэраг рэцэнзій і аглядаў навуковых прац беларускіх лінгвістаў па фразеалогіі, стылістыцы, дыялекталогіі, анамастыцы, лексікаграфіі, гісторыі беларускай літаратурнай мовы і беларускага мовазнаўства, пераклаў на нямецкую мову творы шэрагу беларускіх пісьменнікаў.

З 2006 г. ва ўніверсітэце імя Карла фон Асецкага ў Альдэнбургу пад кіраўніцтвам прафесара Герда Генчэля група маладых нямецкіх супрацоўнікаў сумесна з выкладчыкамі БДУ (Мінск) распачалі сумесны навуковы праект па даследаванні т.зв. “трасянкі” ў беларускім штодзённым маўленні. За гэты час мовазнаўцамі абедзвюх краін па дадзенай праблеме апублікаваны шэраг зборнікаў і артыкулаў, прачытаны даклады на буйных Міжнародных канферэнцыях, з’ездах і інш. У Альдэнбургу выдадзены зборнікі публікацый па праблеме “трасянкі” такіх беларускіх даследчыкаў, як Г.А. Цыхун (2013) і С.М. Запрудскі (2008, 2014).

Беларуска-брытанскія сувязі налічваюць ужо некалькі стагоддзяў. У Лондане працаваў друкар Ян Літвін, выдаваў свае кнігі Аляксандр Рыпінскі, лячыўся Тадэвуш Касцюшка, прыязджаў Юльян Нямцэвіч… Аднак гэта былі адзінкавыя наведванні Вялікабрытаніі. Больш шырокія кантакты пачаліся ў XIX ст. з развіццём у Еўропе транспартных сродкаў і пашырэннем міграцыйных працэсаў, а асабліва – у сярэдзіне XX ст.

Па заканчэнні Другой Сусветнай вайны каля 15 тысяч беларусаў апынуліся ў ***Вялікабрытаніі***, дзе ў 1947 г. заснавалі *Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі* з аддзеламі ў Лондане, Брадфардзе, Манчэстары і Бірмінгеме. Пазней былі створаны іншыя грамадскія і канфесійныя арганізацыі, заснаваны рэдакцыі шэрагу беларускіх часопісаў і газет, суботнія і нядзельныя школы і інш. Галоўнымі цэнтрамі навукова-культурнага жыцця беларусаў у Вялікабрытаніі сталі *Беларуская бібліятэка і музей імя Ф.Скарыны* і *Англа-беларускае таварыства*, якія супрацоўнічаюць у арганізацыі і правядзенні разнастайных семінараў, навуковых канферэнцый, выстаў, літаратурных вечарын і г.д. Значная роля ў духоўным і культурным жыцці беларусаў Вялікабрытаніі належыць канфесійным аб'яднанням. На беларускай мове выдаецца шэраг навуковых, грамадска-палітычных і канфесійных часопісаў (*"Часопіс беларускіх даследаванняў"* – на англійскай мове, *"Чарнобыль у Беларусі"*, *"Патрыёт"*, *"Божым шляхам"*, сатырычны *"Крапіва"* і інш.).

Шэраг навукоўцаў Вялікабрытаніі актыўна даследуюць у апошнія дзесяцігоддзі беларускую літаратуру і мову. Найбольш плённа на беларускай філалагічнай ніве працуюць Арнольд Макмілін, Джэймс Дынглі, Вера Рыч, Гай Пікарда, Рэджыналд дэ Брэй, Генры Лімінг, Шырын Акінэр, Пітэр Маё і інш. Так, А.Макмілін апублікаваў "Слоўнік беларускай літаратурнай мовы XIX ст." (на англійскай мове, Лондан, 1973), шэраг манаграфічных даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры ("Беларуская літаратура ў 50–60-ыя гг. XX стагоддзя", 1999, перакладзена на беларускую мову ў 2001; "Беларуская літаратура дыяспары", 2002, перакл. 2004; "Пісьменства ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён", 2010, перакл. 2011 і інш.). Журналістка, супрацоўніца вядомага ў Вялікабрытаніі навукова-папулярнага часопіса *"Natur"* Вера Рыч займалася перакладамі твораў беларускіх пісьменнікаў на англійскую мову, у асноўным паэзіі, апублікавала шэраг зборнікаў сваіх перакладаў (1971, 1982, 2004). Многія англійскія навукоўцы займаюцца пераважна мовазнаўчай праблематыкай. Яны даследуюць пытанні гісторыі беларускай мовы: Г. Лімінг прааналізаваў мову "Новага Запавету", надрукаванага ў Куцеінскім манастыры, а Ш. Акінэр абараніла ў 1980 г. дысертацыю пра беларускія кітабы; сучасны стан беларускай мовы: П.Маё напісаў граматыку беларускай мовы (1976), займаўся падрыхтоўкай англа-беларускага слоўніка, трохмоўны варыянт якога апублікаваны ў Мінску пад назвай "Кішэнны англа-беларуска-рускі слоўнік" (1995), надрукаваў шэраг беларусазнаўчых артыкулаў [1, с. 425–489].

Адметнае месца сярод беларусістаў Вялікабрытаніі належыць Гаю Пікарда, які быў актыўным сябрам і шматгадовым сакратаром

*Англа-беларускага таварыства*. Ён збіраў старажытныя беларускія царкоўныя спевы, апублікаваў па-беларуску і па-англійску “Беларускі царкоўны сьпеўнік Сьв. Літургіі” (кн. 1–2, 1979–1991), “Беларускі духоўны сьпеўнік” (1989), навукова-папулярнае выданне “Царкоўная музыка на Беларусі 989–1995” (1995). Акрамя гісторыі музыкі, Г. Пікарда даследаваў жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны, гісторыю перакладаў Бібліі на беларускую мову, духоўную культуру і права ў Вялікім Княстве Літоўскім, з’яўленне беларусаў у Вялікабрытаніі. За даследаванне і прапаганду беларускай культуры за мяжой узнагароджаны ордэнам Ф. Скарыны (2000) і згодна з апошнім пажаданнем, пахаваны ў крыпце Чырвонага касцёла ў Мінску (2007) [1, с. 474–475].

Прафесар Рэдынгскага ўніверсітэта Д.Дынглі – аўтар шэрагу беларусазнаўчых і славістычных публікацый, шматгадовы старшыня *Англа-беларускага таварыства* (змяніў на гэтай пасадзе Г.Пікарда), член рэдкалегіі ангамоўнага *“Часопіса беларускіх даследаванняў”* [1, с. 47 –477].

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Гардзіенка, Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі / Н.Гардзіенка. – Мінск: Медысонт, 2010. – 620 с.

2. Культура Беларусі: энцыклапедыя. Т. 3. / рэдкал.: Т.У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2012. – 688 с.

3. Максімюк, Я. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне: 1945 – 1950 / Я. Максімюк. – Нью-Ёрк-Беласток: Бел-кі Інст. навукі і мастацтва, 1994. – 199 с.

4. Прыгодзіч, М.Р. Беларуская мова ў працах замежных лінгвістаў / М.Р. Прыгодзіч, А.А. Прыгодзіч. – Мінск: БДУ, 2010.

УДК : 811.161.2'37:159.932-055.2:070

***В. О. Романенко***

## ЯЗЫКОВАЯ ЛИЧНОСТЬ СОВЕТСКОЙ ЖЕНЩИНЫ ( НА МАТЕРИАЛЕ СТАТЕЙ ЖУРНАЛА «РАДЯНСЬКА ЖІНКА»)

В статье анализируется понятие «языковая личность» на примере украинской женской периодики, которая воплотила не только официальную идеологию, но и язык ушедшей эпохи. Была предпринята попытка доказать, что украинская женщина советского периода как языковая личность выступает типичным представителем лингвокультурного сообщества советской Украины, образцом определенной ментальности, но при всем этом является региональным

вариантом «советской женщины» с определенным набором характеристик «идеальной женщины», которые выделены в данной статье по материалам украиноязычного журнала «Радянська жінка».

Одно из центральных мест в современной гуманитарной науке и, в частности, в лингвистике занимает теория языковой личности, в которой особенности индивидуума описываются в неразрывной связи с языковыми характеристиками данной личности. Внимание исследователей акцентируется на том, что человек выступает не только носителем языка, но и его творцом. Все вышесказанное позволяет подчеркнуть антропоцентричность и междисциплинарность понятия «языковая личность».

В настоящее время теория языковой личности находится под пристальным вниманием, в первую очередь, лингвистов, а также историков, этнологов, литературоведов, социологов, политологов, философов. Гуманитарии заинтересованы в комплексном изучении проблемы, так как понятие *языковая личность* занимает центральное место в человеческом обществе. Подтверждением вышесказанного могут быть слова Ю. Караулова: «…языковая личность – вот та сквозная идея, которая, как показывает опыт ее анализа и описания, пронизывает и все аспекты языка, и одновременно разрушает границы между дисциплинами, изучающими человека, поскольку нельзя изучать человека вне его языка» [9, с. 23].

Данное направление в современной лингвистике получило назван ие *лингвоперсонология.* Впервые термин «лингвистическая персонология» ввел в научный обиход В. Нерознак. Лингвоперсонология – это самостоятельное направление в языкознании, изучающее теорию языковой личности, объектом исследования которого становится субъект и его языковые проявления [10, с. 112].

Значительный вклад в изучение понятия «языковая личность» сделали такие ученые, как В. Виноградов [1, 2], Ю. Караулов [9], В. Карасик [7], С. Воркачев [3] и многие другие.

*Объектом* внимания в данной статье является понятие «языковая личность»; предметом – языковая личность украинской женщины по материалам журнала «Радянська жінка» за 1982 год (№ 1, 2, 3).

*Цель исследовании:* описать особенности украинской женщины как языковой личности, используя понятийный аппарат теории языковой личности.

И. Зыкова в своем монографическом исследовании определяет личность как «продукт общественного развития и результат включения индивидов в систему социальных отношений посредством активной деятельности и (непременно) общения», которое дает возможность каждому

# Літаратуразнаўства

УДК 821.161.3-14*Л.Сом:141.32

*А. А. Анцімонік*

## АСНОЎНЫЯ ЭКЗІСТЭНЦЫЙНЫЯ МАТЫВЫ Ў ЛІРЫЦЫ ЛЕРЫ СОМ

У артыкуле разглядаецца спецыфіка мастацкага ўвасаблення асноўных экзістэнцыйных матываў у паэтычнай творчасці Леры Сом. Адзначаецца, што праблемы смерці, свабоды і кахання ў філасофска-эстэтычнай сістэме аўтаркі выступаюць узаемазвязанымі катэгорыямі. Зроблена выснова пра абсалютную аксіялагічную значанасць феномена свабоды, што ў многім вытлумачвае падкрэсленую ўвагу Л. Сом да танатычных матываў.

Адной з прыкметных рыс беларускай лірыкі мяжы тысячагоддзяў з'яўляецца драматычнае светаадчуванне, якое ў пэўным сэнсе вытлумачвае канцэпцыю "памежнага чалавека". Антыноміі "каханне і смерць", "свабода і залежнасць" заканамерна становяцца дамінантнымі ў творчасці пісьменнікаў розных пакаленняў і эстэтычных прыхільнасцей. Комплекс згаданых праблем выразна праяўляецца і ў лірыцы Леры Сом, усю паэтычную творчасць якой можна ахарактарызаваць як рэфлексію над уласным існаваннем і досведам праз зварот да адвечных пытанняў быцця і свядомасці. Аўтарку найбольш турбуюць такія экзістэнцыйныя праблемы, як смерць, свабода і каханне.

Феномен смерці непакоіць розумы чалавецтва на працягу ўсяго існавання. Спробы асэнсавання канечнасці чалавечага жыцця характэрны як філасофіі, так і прыродазнаўчым навукам. Больш за тое, з цягам часу ўзнікла медыцынская навука аб смерці – танаталогія, а ў рускай філасофіі меў месца і тоесны па назве рух, прысвечаны аналізу экзістэнцыйнай мяжы існавання. У пачатку ХХ стагоддзя вядомы ў галіне псіхалогіі З. Фрэйд у сваёй працы "Імкненні і іх лёс" сфармуляваў так званую тэорыю імкненняў, згодна з якой існуюць два кардынальна розныя віды неўсвядомленай цягі – сексуальныя імкненні (Эрас) і агрэсіўныя, мэта якіх – разбурэнне (Танатас) [Гл.: 1, с. 107–108].

Трэба адзначыць, што абодва імкненні ў паэзіі Л. Сом карэлююць даволі дзіўным чынам. Лірычны суб'ект-мужчына, герой ролевых вершаў, "змушаны жыццё цярпець", а смерць успрымаецца ім як адзінае збавенне ад пакут:

Часовым суцяшэннем смерць
Уночы мне прыходзіць пець
Спакою калыханку [2, с. 58].

("Я змушаны жыццё цярпець…")

Такое разуменне смерці блізкае да філасофіі А. Шапэнгаўэра, бо згодна са словамі філосафа, “<…> момант паміраня, верагодна, падобны да моманту абуджэння ад цяжкага кашмару” [3, с. 36], ды і ўвогуле смерць – “<…> імгненне вызвалення ад аднабаковасці індывідуальнай формы, якая не складае патаемнае ядро нашай існасці, а хутчэй з’яўляецца свайго роду вычварэнствам яе” [3, с. 93]. Лірычная гераіня зборнікаў Л. Сом, здаецца, мэтанакіравана спрабуе наблізіцца да фіналу жыцця, вербальна акрэсліваючы сваю зацікаўленасць смерцю адпаведнай лексікай (“перарэзаныя вены”, “самагубства”, “зрабіцца нябытам”, “сябраваць з памерлым”, “мара здохла”, “смерць неадступна ідзе”, “смерць пачуццяў і існ”, “мерцвякі”, “забіты”, “сканала дасканала”, “забойства надзеі”, “дамавіна”, “водгулле смерці”, “смерць паміж намі”, “атруты ў віно” і інш.). Аб’ектам лірычных рэфлексій аўтаркі становіцца як уласны скон, так і смерць як з’ява, а таксама яе гвалтоўныя формы (напрыклад, забойства).

Уласная смерць у гераіні не выклікае ні страху, ні шкадавання. Вершы Л. Сом часта рэпрэзентуюць “тэатральны” варыянт вырашэння праблемы, паміранне быццам дзеля эксперыменту. Так, у вершы “Не было пятлі і пылу…” лірычны суб’ект заяўляе:

Кіньце! Тут не самагубства
З-за няшчаснага кахання!
Проста, зведаўшы дарогу,
Трэба зведаць і канчатак [2, с. 34].

У творы “Рандэль” эфект сцэнічнасці, паказной абыякавасці ўзмацняецца: “Затое смерць усіх пераканала: / Якія могуць быць благія думкі, / Калі я так сканала дасканала?..” [2, с. 108]. І хаця перажыванні лірычнай гераіняй сваёй, няхай і ўяўна спраўджанай, але смерці, відавочныя, вобраз “удалага” скону, яго ўяўная эстэтычнасць сведчыць пра несумненную прыцягальнасць для яе экзістэнцыйнай мяжы чалавечага існавання. Больш за тое, асобныя вершы вылучаюцца пэўнай тужлівай настраёвасцю, але не з прычыны страху перад магчымасцю страты жыцця. Лірычная гераіня як быццам апраўдваецца перад сабой і чытачом за тое, што ўсё яшчэ працягвае жыць (вершы “Калі мне стане ўсё адзіна…”, “Дажыла да апошняй травы…”, “Попел мой ад Сафійскай горкі…”, інш.), што яе суіцыдальныя думкі засталіся ў мінулым (верш “Я хваравліва пераношу…”). Магчыма, такую ўвагу да ўласнага скону можна патлумачыць пакутлівым перажываннем няспраўджанага, верагодна шчаслівага, кахання. Паводле Ю. Давыдава, “<…> для індывіда, у душы якога вытаптана, выдрана і выпалена ўсё, што магло б сапраўдным вобразам прывязаць яго да іншага чалавека (іншых увогуле), смерць аказваецца адзіным «іншым»” [4, с. 31].

Матыў смерці як феномена, як з’явы быцця сустракаецца ў Л. Сом часцей, чым роздум пра смерць яе лірычнай гераіні. Асэнсаванню дадзенай праблемы прысвечаны вершы з рознымі настроямі і гучаннем. Іранічны пачатак адчувальны ў радках “Мара здохла, падняла ножкі, адкінула капыты” (верш “Мара здохла, падняла ножкі…”) [2, с. 24]. А ў вершы “Нашы прыстойныя п’янкі…” іронія спалучаецца з дыдактызмам, калі алкаголь выступае “Як вобраз жыцця / (Вельмі багемны / І вельмі падобны на смерць)” [2, с. 30]. Тым не менш у большасці выпадкаў смерць успрымаецца па-філасофску натуральна, як неад’емная частка жыцця (вершы “У настаўніках – смерць…”, “Што мне ў табе асэнсоўваць, дурное стагоддзе?”, “Адзінокая зорка гарыць…” і інш.). У лірычнай гераіні ўзнікае толькі спакойна-абыякавае прыняцце заведзенага на зямлі парадку рэчаў і ўпэўненасць у тым, што штодзённае існаванне шэраговага чалавека ўяўляе сабой незайздроснае самотнае быццё, тоеснае небыццю:

З дня на дзень, з году ў год
Ты жывеш так, і побач
Адзінота і смерць [2, с. 28].
(“У настаўніках – смерць…”)

Як вынік, чалавечы лёс уяўляецца няспынным рухам да смерці (верш “Ты шыбуеш штодзённа…”), якая, аднак, не пазбаўляе існаванне індывідума абсурднасці (верш “Абсурд жыцця абсурдам смерці…”) [2, с. 95].

У сваю чаргу, пераход у незямны свет атаясамліваецца са спакоем (вершы “Я змушаны жыццё цярпець…”, “Я баяўся страціць волю…” і інш.). Адпаведна, мяняецца семантыка традыцыйных вобразаў. Так, труна набывае пазітыўныя канатацыі: “Дамавіна – сімвал дома” (верш “Я баяўся страціць волю…”) [2, с. 64], а сапраўднае сяброўства становіцца магчымым раздзяліць з памерлым чалавекам (верш “Відаць, сапраўды сябраваць…”). І толькі ў тым выпадку, калі скон тычыцца каханага, у лірычнай гераіні праяўляецца жаданне змагацца за жыццё (верш “Я не дам табе памерці…”).

Яшчэ адзін скразны танатычны матыў лірыкі Леры Сом звязаны са смерцю гвалтоўнай. Так, лірычная гераіня ўпэўнена, што забойства закаханых з’яўляецца ледзьве не адзінай магчымасцю захавання свабоды, таму што “Гэта хвіліна / Прарыву на волю” (верш “Забойства каханых – заўсёдная справа…”) [5, с. 26]. Іншымі словамі, смерць, нават гвалтоўная, для лірычнай гераіні паэткі выступае выратаваннем, свабодай, без якой немагчыма паўнавартаснае жыццё.

Увогуле, адносіны паэткі да забойства супярэчлівыя. З аднаго боку, быць забітым – гэта ганаровая доля “абраных”:

Цябе не заб’юць – ну навошта каму мерцвякі,
<…>
У нас забіваюць паэтаў, а ты – не такі [2, с. 41].
(“Цябе не заб’юць…”)

З другога – гвалтоўны скон успрымаецца з’явай не выключнай, шэраговай. “Хто з нас не быў забіты” [2, с. 47], – рытарычна ўздыхае лірычная гераіня ў вершы “Чуеш, звініць глеба…”

Па меркаванні Г. Маркузе, “<…> смерць можа стаць сімвалам свабоды, бо яе неабходнасць не знішчае магчымасці канчатковага вызвалення” [6, с. 254]. Гэтая сувязь экзістэнцыйных праблем трывалая і ў творчасці Леры Сом. Верш “О, як нясцерпна і прагна…” ўяўляецца гімнам свабодзе. Лірычная гераіня прызнаецца ў сваёй прыхільнасці да волі. Аднак пры гэтым свабода параўноўваецца і з безданню, і з багнай, у чым заўважны дэструктыўны пачатак такога захаплення.

Неабходна падкрэсліць, што пэўныя вершы Л. Сом напісаны ад імя мужчыны-лірычнага героя. У такіх тэкстах таксама з’яўляюцца ўзнёслыя інтанацыі, падобныя да “адычнага” апявання волі лірычнай гераіняй:

Магу я памыляцца, ды Свабода –
Найлепшае жаночае імя.
На ўвесь здаровы сэнс яна плявала,
І кампрамісаў з ім не прызнае.
І хай не прывязаць яе трывала –
Мне проста немагчыма без яе [2, с. 61].
(“Ах не, жанчына гэтая не з лёду…”)

Амаль тоеснае ўспрыманне месца і ролі свабоды ў жыцці чалавека лірычнымі гераіняй і героем сведчыць, што наяўнасць волі ў філасофска-эстэтычнай сістэме Л. Сом – неабходная ўмова існавання чалавека (верш “Пасля кожнага развітання…”), мяркуючы, што заўсёды хопіць “сваёй свабоды” (верш “Усё, што я магу…”) [5, с. 24]. Метафарычнае асэнсаванне свабоды знаходзіць сваё месца ў вершах “Забойства каханых – заўсёдная справа…”, “Пакіньце багоў у спакоі…”, “Зноў прыйшла туга – тугі адбітак болю…”, “Я нікому не вінна болей…” і інш.

Нярэдка ў лірыцы паэткі свабода ўступае ў супрацьстаянне з каханнем, якое не аднойчы атаясамліваецца з залежнасцю і адсутнасцю волі (вершы “Шыбуеш пешшу…”, “Навыдумлялася каханне…” і інш.). Лера Сом сцвярджае немагчымасць спалучэння свабоды і кахання. Пры гэтым першая выступае колькаснай дамінантай у лірыцы паэткі (вершы “Усе мы філосафы…”, “Прабач, я чортаў паэт…”, “Выпадковай была сустрэча…”, “Суразмоўцы далёка. Папера…”, “О, як нясцерпна і прагна…”, “Прэснага будню багна…” і інш.). Каханне ў жыцці гераіні паўстае нешчаслівым і недасяжным ідэалам. Прычым пазіцыі героя і гераіні лірыкі маюць пэўныя адрозненні. Так, лірычны герой раздзела “Man” са зборніка “Свабода Слова Зіма” ўяўляе сабой тыповага няшчаснага закаханага, які акцэнтуе ўвагу на тым, што ён кахае, а аб’ект яго пачуцця здольны толькі на эгаістычнае сябелюбства (верш “Прабач, я

чортаў паэт…”). Лірычная гераіня, у сваю чаргу, больш разважае над сутнасцю кахання (вершы “Каханне – заўсёды дадатак…”, “Усе мы філосафы…”, “Нашы прыстойныя п’янкі…”, “Шыбуеш пешшу…” і інш.). Рэфлексуючы над уласным пачуццем, яна перажывае пакутлівы стан, калі “Навыдумлялася каханне, / Якога быць не можа з намі” (верш “Навыдумлялася каханне…”) [2, с. 86].

Яшчэ ў рускай філасофскай традыцыі пачатку XX стагоддзя каханне было прынята лічыць пачуццём, якое ўзвышаецца над індывідуальным эгаізмам. Лірычная гераіня Леры Сом імкнецца кантраляваць свае пачуцці і не дазваляе праявіцца закаханасці ў той ступені, каб магчымым стала атрыманне асалоды ад узаемаадносін з суб’ектам свайго пачуцця. Баючыся страціць уласную свабоду, яна застаецца сам-насам з самотай і адзіноцтвам, суцяшаючы сябе тым, што такі стан рэчаў мае відавочныя перавагі:

Самае дзіўнае, што я табе адчыню.
Толькі затым,
Каб упэўніць сябе яшчэ раз:
Самае лепшае – быць у кватэры адной [5, с. 25].
(“Ты выключае святло…”)

І толькі ў рэдкіх выпадках лірычная гераіня, выбіраючы паміж любым і воляй, незалежнасцю, аддае перавагу каханню:

І толькі калі пры стрэчы
Я дотык адчую твой,
На міг ці на гэты вечар
Я веру табе, не ёй [Свабодзе. – А. А.] [5, с. 68].
(“О, як нясцерпна і прагна…”)

І гэтак жа рэдка закаханасць абіраецца ёй у процівагу самоце (вершы “Прэснага будню багна…”, “Пасля кожнага развітання…”, “Калі жанчына разнімае ногі…”).

Зняверанасць лірычнай гераіні ў магчымасці шчаслівага кахання прымушае яе не толькі акцэнтавацца на роздумах пра смерць, але і выклікае дэкадансныя настроі, агортвае тугой, болем і самотай: “Ты знік, а роспачы – няма, / Туга – яна была заўсёды” (верш “Ты знік, а роспачы – няма…”) [5, с. 30], “Тузе паўсюль душу мне дзерці” (верш “Абсурд жыцця абсурдам смерці…”) [2, с. 95], “Цягнецца мой боль, я іду за ім” (верш “Месяц верасень, месяц верасень…”) [2, с. 16], “Зноў прыйшла туга – тугі адбітак болю” (верш “Зноў прыйшла туга – тугі адбітак болю…”) [2, с. 49], “Мой боль балюча выцінае” (верш “Я хварабліва пераношу...”) [2, с. 85] і інш.

Такім чынам, у лірыцы Леры Сом важнае месца займаюць танатычныя матывы, цесна знітаваныя з матывамі кахання і свабоды, што надаюць творчасці паэткі адпаведны драматычны модус. Недарэмна У. Арлоў заўважыў, што “<…> крытыка дружным хорам адзначыла філасофскае

асэнсаванне Лераю кахання і паэзіі, жыцця і нябыту” [7, с. 8]. Лірычная гераіня часта згадвае смерць як з’яву не толькі агульначалавечую, але і ўласную, перажываючы ўяўны момант паміраньня і адчуваючы пры гэтым надзею на выратаванне і спакой. Свабода аказваецца найвышэйшай каштоўнасцю, нярэдка ўступаючы ў канфлікт з каханнем.


**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Фрейд, З. Влечения и их судьба / З. Фрейд. – Москва: ЗАО Изд-во ЭКСМО-Пресс, 1999. – 432 с.
2. Сом, Л. Свабода Слова Зіма: вершы / Л. Сом. – Мінск: Логвінаў, 2005. – 130 с.
3. Шопенгауэр, А. Метафизика половой любви / А. Шопенгауэр // Пер. с нем. Ю. И. Айхенвальда. – СПб.: Издательский дом «Азбука-классика», 2008. – 224 с.
4. Давыдов, Ю. Этика любви и метафизика своеволия: Проблемы нравственной философии. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Молодая гвардия, 1989. – 317 [3] с., ил.
5. Сом, Л. Каралева прыйдзе ноччу: вершы пра каханне / Л. Сом. – Мінск: І. П. Логвінаў, 2007. – 88 с.
6. Маркузе, Г. Эрос и цивилизация / Г. Маркузе // Пер. с англ. А. А. Юдина. – М.: ООО «Издательство АСТ»: ЗАО НПП «Ермак», 2003. – 312, [8] с.
7. Арлоў, У. «Чуе віры свая» / У. Арлоў // Сом Л. Свабода Слова Зіма: вершы / Л. Сом. – Мінск: Логвінаў, 2005. – С. 5 – 9.



УДК 821.161.3’06-3:159.942.5



***К. М. Бандурына***


## МАТЫЎ АДЗІНОТЫ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЕ


Экзістэнцыйныя праблемы даўно хвалююць сусветную літаратуру, але асабліва востра пытанні жыцця і смерці, выбару, адзіноты чалавека паўсталі ў XX стагоддзі, калі чалавецтва перажыла дзве сусветныя вайны, росквіт і крызіс таталітарных сістэм, масавыя рэпрэсіі і г.д. Людзі пачалі больш інтэнсіўна шукаць сэнс свайго існавання. Экзістэнцыйны крызіс патрабаваў адказаў на шматлікія пытанні. Літаратура разам з філасофіяй і псіхалогіяй паспрабавала знайсці выйсце з пасляваеннага эмацыйнага вакууму. Пытанні экзістэнцыі займаюць адно з галоўных месцаў у літаратуры мадэрнісцкіх і постмадэрнісцкіх плыняў у многіх краінах, але беларуская літаратура толькі пачынае звяртацца да асэнсавання ключавых аспектаў чалавечага быцця. У дадзеным артыкуле разглядаецца, як вырашаецца праблема адзіноты ў сучаснай беларускай прозе.

Да XX стагоддзя адзінота лічылася натуральным станам чалавека і разглядалася ў станоўчым ключы як сродак самапазнання, самаразвіцця і творчай рэалізацыі. Капіталістычны лад жыцця і змена каштоўнасных прыярытэтаў і арыенціраў унеслі разлад у цэласнасць асобы. Чалавек больш не з'яўляецца абсалютнай каштоўнасцю, у свеце пануе калектыўная свядомасць, у якой адзінота і імкненне індывіда да свабоды ва ўласнай прасторы набываюць адмоўны характар. Сярод натоўпу чалавек пачаў адчуваць сябе Чужым, Іншым, адрозным ад астатніх. Ж. Сарамага ў сваёй кнізе "Год смерці Рыкарда Рэйса", разважаючы над праблемай адзіноты, выказаўся наступным чынам: "*Адзінота заключаецца не ў тым, што чалавек жыве адзін, а ў немагчымасці знайсці спадарожніка ў кімсьці альбо чымсьці, заключаным унутры нас, адзінота – гэта не дрэва сярод голай раўніны, а неадольная адлегласць ад ліста да кораня, ад соку да кары*" [5]. Гэтае выказванне перасякаецца з ключавымі палажэннямі філосафаў і псіхолагаў, якія працавалі над гэтай праблемай у ключы экзістэнцыялізму. Так, вядомы філосаф і антраполаг Эрых Фромм лічыў, што "*чалавек вырваны з першапачатковага адзінства з прыродай, якое характэрна для жывёльнага існавання. Валодаючы адначасова розумам і ўяўленнем, ён усведамляе сваю адзіноту і адасобленасць, сваё бяссілле і няведанне, выпадковасць свайго нараджэння і смерці*" [7].

У кнізе "Уцёкі ад свабоды" Э. Фромм, асэнсоўваючы наступствы адзіноты для сучаснага чалавека, пісаў: "*Чалавек ужо не можа пражыць усё жыццё у цесным свеце, цэнтрам якога быў ён сам; свет стаў бязмежным і пагрозлівым. <…>Новая свабода непазбежна выклікае адчуванне няўпэўненасці і бяссілля, сумневаў, адзіноты і трывогі*"[7]. Менавіта трывога і адсутнасць усялякага сэнсу існавання сталі асноўнымі спадарожнікамі экзістэнцыйнай адзіноты асобы Навейшага часу. Яны з'яўляюцца прычынай шматлікіх неўрозаў і псіхічных захворванняў, якія часам даводзяць чалавека да суіцыду.

Гэтае пытанне востра паўстала яшчэ ў XX стагоддзі, і тады ў асяроддзі псіхолагаў пачаліся актыўныя даследаванні і пошукі вырашэння праблемы. Згодна з тэорыяй псіхааналізу З. Фрэйда, адзінота і адчужэнне з'яўляюцца вынікам канфлікту паміж сацыяльным і індывідуальным у чалавеку, а дакладней паміж "Звыш-Я" і "Яно". Гэты канфлікт спасцігаецца і кантралюецца "Я" і выражаецца ў рознага роду псіхапаталогіях, калі праекцыя асобы не супадае з праекцыяй цела.

Праблему адзіноты спрабавалі вырашыць і тэарэтыкі марксісцкай дактрыны. Згодна з іх канцэпцыяй, адзінота з'яўляецца негатыўным вынікам дэфіцыту сацыяльнай актыўнасці асобы. Прымат калектыўнага над індывідуальным пачаткам прывёў да такога стану, калі чалавек губляе ўласнае аблічча, страчвае мэту свайго існавання, яго сэнс і становіцца

часткай сацыяльнага несвядомага. Тэорыя марксізму-ленінізму, якая ў ХХ стагоддзі трывала ўкаранілася на тэрыторыях краін Усходняй Еўропы, пасля таго, як Савецкі Саюз перастаў існаваць, дала страшэнныя вынікі: ад распаду мноства сямей і да самагубстваў людзей, якія без сістэмы існаваць не маглі.

Адзін з вядомых псіхолагаў-экзістэнцыялістаў Ірвін Ялом падзяляў адзіноту на тры накірункі: 1) міжасобасная адзінота; 2) унутрыасобасная; 3) экзістэнцыяльная. Першая азначае адчужэнне чалавека ад соцыуму, другая – разрыў у асобасным уяўленні паміж рэальным і чакаемым, непрыняцце ўласных пачуццяў і эмоцый. Экзістэнцыяльная адзінота, на думку І. Ялома, заключаецца ў тым, што "*чалавек адлучаны не толькі ад іншых людзей, але, па меры таго, як ён стварае свой уласны свет, ён аддаляецца і ад гэтага свету*" [9]. Гэта азначае, што перад галоўнымі экзістэнцыйнымі праблемамі (жыцця і смерці, адзіноты, маральнага выбару і г.д.) чалавек самотны з самага пачатку, і адносна гэтага пытанне экзістэнцыяльнай адзіноты з'яўляецца невырашальным, паколькі асоба заўсёды знаходзіцца сам-насам са сваёй экзістэнцыяй.

У ХХІ стагоддзі праблема адзіноты паўстае асабліва востра ў сувязі з распаўсюджваннем інтэрнэт-камунікацый. Папулярнасць сацыяльных сетак тлумачыцца менавіта магчымасцю добраахвотнага адчужэння ад соцыуму і неабходнага выканання абавязкаў і роляў у ім і паралельнай магчымасцю шматвектарнай камунікацыі, якая не патрабуе адказнасці: "*Добраахвотныя адзіночкі адрозніваюцца адначасова празмерна вялікай колькасцю сацыяльных кантактаў (якія, аднак, звычайна не маюць магутнай інтэнсіўнасці і з пункту гледжання адзіночкі нават не павінны мець)*" [8, с. 24]. Сучасны чалавек не можа знаходзіцца ў пастаянным кантакце з самім сабою, ён увесь час імкнецца пазбегнуць сутыкнення з уласным "Я". Вядомы беларускі культуролаг Юрась Барысевіч, звяртаючыся да праблемы віртуалізацыі жыцця чалавека і яго ўцёкаў ад рэальнасці, заўважыў: "*Прыхільнікаў віртуальнай рэальнасці мала цікавяць палітыка, мода і спорт, яны не любяць тэлебачання, якое канвеерным спосабам дасылае нам дахаты аднолькавыя выявы. Яны жывуць нібыта ў закуліссі афіцыйнай рэчаіснасці – жывуць не сённяшнім днём, а днём без даты, як вядомы персанаж Гогаля, гішпанскі кароль Аксэнці Папрышчын*" [2]. Менавіта гэтую сітуацыю Э. Фром і абазначыў як "уцёкі ад свабоды".

У сусветнай літаратуры гэтыя пытанні ўздымаюць у сваёй творчасці такія вядомыя аўтары, як Арыстоцель, Р. Дэкарт, Ж. П. Сартр, А. Камю, Ф. Ніцшэ, М. Хайдэгер, М. Бубер, М. Бердзяеў і інш. Не абмінае экзістэнцыйныя праблемы і беларуская літаратура. Сучасныя беларускія аўтары па-свойму асэнсоўваюць быццё чалавека. Напрыклад, Сяргей

Календа ў сваім зборніку апавяданняў “Трохлітровая проза” апісвае быт сярэднестатыстычнага беларуса і заўважае, што “*Ляксей меў сям’ю, да якой кожны вечар прыходзіў цалкам іншым чалавекам, скрушным, незадаволеным, самотным, сумным… Ён зарана ажаніўся, зарана страціў каханне, зарана пасталеў, зарана стаў бацькам, зарана разгарнуў бізнес… Ён заўсёды хаваўся за паняццем “зарана”, гэта здымала пэўную адказнасць*”[4]. Пісьменнік распавядае чытачу пра тыповую сітуацыю, якую можна назіраць амаль у кожнай сучаснай сям’і, калі навязаныя за некалькі дзесяцігоддзяў стандарты савецкага жыцця накладваюцца на сучасныя нормы (ажаніцца, завесці дзяцей, зрабіць кар’еру). У выніку атрымліваецца, што чалавек пражыў жыццё па схеме, а не па ўласным выбары, і, каб далей працягваць існаванне ў сістэме, ён вымушаны шукаць шляхі паслаблення адказнасці за ўласную будучыню.

Адзінота ў С. Календы мае і іншыя прычыны. Галоўны герой апавядання “Ulica rowna” знаходзіцца ў пошуку партнёра – чалавека, які зразумеў бы яго сутнасць і захацеў бы быць побач. Але, як кажа сам герой, “*… па жыцці мне трапляюцца адны Сняжаны, я не супраць гэтага выдатнага снежнага імя, але ўсе яны татальна дурныя, прычым гэта пачынае праглядацца толькі праз пэўны час*” [4]. Падобная да гэтай і адзінота героя Альгерда Бахарэвіча з апавядання “Талент заікання”, толькі ў гэтым выпадку яна набліжаецца да фрэйдаўскай канцэпцыі “асоба – цела”: “*Я кідаўся ў вітальню, зарываўся тварам у глуханямую кампанію плашчоў ды паліто, якія пасля смерці бабулі ніхто не апранаў. Толькі гэтак можна было заглушыць прыступ пякучага жадання, каб дзед памёр. Тады… тады можна будзе патраціць рэшту грошай на віно і мяса, садавіну й шакалад, і калі не сабой – слабым прыдаткам магутнага дзеда, то хаця б гэтай аднаразовай раскошаю завабіць у пустую кватэру якую-небудзь жанчыну…*” [3]. З развіццём сюжэта адзінота галоўнага героя ўсё больш набывае характар міжасобаснай, і вырашэнне гэтай праблемы герой бачыць у пошуку жанчыны: “*Я хадзіў па ззяючых вуліцах і цёмных завулках, я ўваходзіў у тралейбусы, якія рушылі невядома куды, я вар’яцеў, спускаючыся па прыступках, падобных на клавішы, што паўтараюць адзін і той жа матыў. Я шэршэляфаміў на ўсю катушку*” [3].

Крыху іншага кшталту адзіноту можна ўбачыць у апавяданні Андрэя Федарэнкі “Імгненні жыцця”. Галоўны герой, які працуе рэдактарам у нейкім часопісе, пасля выхаду з адпачынку сутыкаецца з сітуацыяй, калі ўсе людзі, якія вакол яго, на самой справе камунікуюць з ім толькі дзеля ўласнай выгады. А. Федарэнка паказвае немагчымасць паразумення двух людзей і адзіноту чалавека ў грамадстве праз дыялогі сваіх герояў: “*У рэдакцыйным калідоры сустрэў сябра, ён кінуўся мне на шыю. «– Нарэшце! Прывітанне! А я кожны дзень званіў і заходзіў, хоць і ведаў, што ты ў*

*адпачынку». «– Чаго ж ты званіў і заходзіў?» «– Так, думаю, можа, засумаваў па сябры, раней вярнуўся… Ну, расказвай, дзе быў? У вёсцы, вядома?» «– Не, у Крыму». Сябар замоўк, тады адступіўся. «Вось як», – сказаў ён іншым голасам і агледзеў мяне іншымі вачыма. «– Ну і што там, у тваім Крыму?»*” [6].

Немагчымасць паразумення людзей, іх няздольнасць пачуць адно аднаго паказана і ў іншым апавяданні А. Федарэнкі “Госць”: “*Пілі за госця, за тое, што праведвае, не забываецца. Як толькі Азіевіч адкрываў рот, настаўнік з жонкаю адразу змаўкалі. Госць балбатаў, што хацеў і колькі хацеў. Калі ж яго язык стамляўся, ці рот быў заняты паляндвіцаю, тады і настаўнік спрабаваў выгаварыцца. Казаў нецікавыя рэчы, у асноўным скардзіўся, як надакучыла ўсё, як хацелася б з’ехаць куды вочы глядзяць – да самага мора, але нельга: дзеці, сям’я…*” [6]. Абцяжараны сацыяльнымі абавязкамі, чалавек губляе сваё аблічча, становіцца несвабодным, а значыць і няздольным убачыць і адчуць уласнае “Я”. Узнікае канфлікт паміж жаданнямі і рэальнасцю, наступствы якога могуць быць самымі рознымі: ад страты самаідэнтыфікацыі да распаду сям’і і зламаных жыццяў яе членаў.

У прозе Уладзіміра Арлова здольнасць чалавека да канфармізму, а дакладней, яго выбар паміж нязгодай і прыстасаванствам палягае ў больш глыбінных пластах чалавечай свядомасці. Гераіня апавядання “Малекула” васьмікласніца Ганна Малекула пад націскам абставін губляе здольнасць мысліць цвяроза, а разам з гэтым – і ўсіх сваіх сяброў і знаёмых. Яна “бачыць” атамы і малекулы ў паветры, за што і атрымлівае сваё прозвішча. Цалкам бяскрыўдны сімптом хваробы становіцца прычынай яе вымушанага адчужэння і адзіноты: “*Калі Аня па-ранейшаму бачыла малекулы і атамы, дык вырашыла пра гэта маўчаць*” [1].

Адзінота гераіні Уладзіміра Арлова адрозніваецца ад аналагічнага стану герояў вышэй узгаданых пісьменнікаў. За некаторымі радкамі выразна прасочваецца сам аўтар, а некаторыя экзістэнцыяльныя роздумы часта набліжаюць яго творчасць да твораў сусветна прызнаных майстроў слова: “*Але ўсё, што мяне абкружала, чамусьці здавалася выцвілым малюнкам са старой дзіцячай кніжкі. Я адчуў, што павінен зараз успомніць нешта надзвычай важнае, тое, што ўжо само стрэпанулася ў душы і прасілася на свет*” [1].

Падводзячы высновы, трэба яшчэ раз адзначыць, што на дадзены момант у беларускай прозе экзістэнцыйная праблематыка не так распаўсюджана, як у творах пісьменнікаў XX стагоддзя. Беларуская літаратура на сённяшнім этапе пытанні чалавечага існавання раскрывае ў сваёй адметнай манеры, у тых кірунках, якія найбольш хвалююць сучаснага творцу і з’яўляюцца найбольш актуальнымі для нашага часу. Праблема

адзіноты займае адно з ключавых месцаў у экзістэнцыялізме, але адзінота сучаснага беларуса адрозніваецца ад класічнага разумення гэтага паняцця, што выразна можна ўбачыць у прыведзеных намі прыкладах.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


1. Арлоў, У. Рэквіем для бензапілы [Электронны рэсурс] / У. Арлоў. – Рэжым доступу: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=6269. – Дата доступу: 23.09.2015.
2. Барысевіч, Ю. Alter nemo [Электронны рэсурс] / Ю. Барысевіч. – Рэжым доступу: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=12979. – Дата доступу: 23.09.2015.
3. Бахарэвіч, А. Натуральная афарбоўка [Электронны рэсурс] / А. Бахарэвіч – Рэжым доступу: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=32766. – Дата доступу: 23.09.2015.
4. Календа, С. Трохлітровая проза [Электронны рэсурс] / С. Календа. – Рэжым доступу: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=21879. – Дата доступу: 23.09.2015.
5. Сарамаго, Ж. Год смерти Рикардо Рейса [Электронны рэсурс] / Ж. Сарамаго. – Рэжым доступу: http://royallib.com/book/saramago_ goze/god_ smerti_rikardo_reysa.html. – Дата доступу: 23.09.2015.
6. Федарэнка, А. Ціша [Электронны рэсурс] / А. Федарэнка. – Рэжым доступу: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=32045. – Дата доступу: 23.09.2015.
7. Фромм, Э. Бегство от свободы [Электронны рэсурс] / Э. Фромм. – Рэжым доступу: http://www.bookfb2.ru/?p=270064. – Дата доступу: 23.09.2015.
8. Юрченко, М. Философско-антропологический анализ сущности одиночества: автореферат на соискание учёной степени кандидата философских наук / М. Юрченко. – Ростов-на-Дону. – 2010. – 28 с.
9. Ялом, И. Экзистенциальная психотерапия [Электронны ресурс] / И. Ялом. – Рэжым доступу: http://royallib.com/book/irvin_yalom/ ekzistentsialnaya _psihoterapiya.html. – Дата доступу: 23.09.2015.


УДК 811. 112. 2.

***В. В. Біляцька***

## ФЕНОМЕНИ КУЛЬТУРНОЇ ПАМ'ЯТІ: П'ЄР АБЕЛЯР

Статтю присвячено розгляду образу П'єра Абеляра на матеріалі роману Л. Рінзер «Любов Абеляра» як непересічної історичної особистості, філософа, письменника та людини, чия спадщина таїть багато невивчених лакун у сучасній науці.

Яскравим утіленням проблем загальнокультурного спрямування є творчість Луїзе Рінзер – німецької письменниці ХХ століття, відомої своєю християнсько-гуманістичною позицією, оприявненою майже в 30 психологічних романах, присвячених художньому дослідженні неординарних доль з історії та сучасності. Саме таким є роман «Любов Абеляра» («Abaelards Liebe», 1991), в основу якого покладено відомі факти з життя середньовічного французького філософа-схоласта, теолога, поета, музиканта, неодноразово засудженого католицькою церквою за єретичний світогляд і кохання до сімнадцятирічної дівчини – П'єра Абеляра (1079–1142).

У філософії та релігії середньовіччя французькому богослову-схоласту належало помітне місце, він не обділений увагою як історична постать та художній образ, що репрезентує певний тип культурної пам'яті. Культурна пам'ять – це особлива символічна форма передачі та актуалізації культурних знаків, яка виходить за межі досвіду окремих людей чи груп, збережена традицією і «... виявляється в меморіальних знаках різного роду – у пам'ятних місцях, датах, церемоніях, у письменниках, образотворчих і монументальних пам'ятниках. Передаючись з покоління в покоління, культурна пам'ять втримує в собі найбільш значиме минуле – міфічну історію, яка має орієнтаційну, нормативну і конституйовану функції» [6, с. 11]. Виражаючи колективний інтелект, культурна пам'ять є механізмом збереження і передачі існуючих та вироблення нових культурних повідомлень, тобто текстів. Вона «забезпечується, по-перше, наявністю деяких константних текстів і, по-друге, чи єдністю кодів, чи їх варіантністю, чи безперервністю і закономірним характером їх трансформації» [3, с. 200].

Міжкультурний діалог є одним із принципів вивчення й осмислення феномену культури. Теоретичну розробку цих ідей закладено в працях С. Аверинцева, М. Бахтіна, Л. Виготського, О. Лосева, Ю. Лотмана та інших, які розглядали історію світового мистецтва в контексті історії художньої культури.

Згідно історичних відомостей, обдарований від природи талантом вченого і, відчувши потяг до навчання та пізнання, П'єр Абеляр ще в юності відмовився продовжити справу батька й братів, стати військовим, і обрав філософію. Він зовсім не типова для свого часу особистість, винятковий сильний мислитель, творчість і життя якого сповнені тріумфальних злетів та раптових зламів, очевидних успіхів і драматичних подій, нещасть і удач.

Серед праць Абеляра особистісні (екзистенціальні), теологічні та логічні: «Так і ні», «Діалектика», «Введення в теологію», «Пізнай самого себе», «Історія моїх страждань» (єдина середньовічна автобіографія філософа-професіонала). Він розробляв діалектику, намагався знайти

обґрунтування положень релігійної віри, звідси принцип: «пізнаю те, у що вірю». Абеляр вважав, що універсалії існують у речах, знаходив докази абсурдності тверджень реалістів, що реальною є «людяність», а не люди, адже поняттю «людина» відповідає реальність загальнолюдського, спільного для всіх. Антропологію релігійного вчення Абеляр тлумачив таким чином, що Бог дав людині сили для досягнення мети в житті, розум для утримання уяви, щоб спрямовувати вірування. Віра ґрунтується тільки на переконанні, досягнутому шляхом вільного мислення, тому набута без сприяння розумової сили й без самостійної перевірки, негідна вільної особистості.

У романі «Любов Абеляра» Л. Рінзер зосереджує увагу на духовній атмосфері часів схоластичних переконань, намагається відтворити особливості тогочасного менталітету, концентрує проблематику твору навколо душевних конфліктів віри та почуттів, зображує невідповідність метафізичних догматів і несумірність вимог, висунутих до реального, живого почуття емоційно багатої та допитливої людини, яка відзначалася красою і розумом, непідробним інтересом до вивчення наук. Згідно з реальними подіями минулого Абеляр став учителем, а згодом коханцем юної дівчини, яка народила від П'єра сина Астролябія (1118 – біля 1157). Хоч вони таємно й повінчались, але Елоїза відмовилась від офіційного шлюбу, щоб Абеляр міг уникнути звинувачень, вільно творити, пропагувати свої філософські ідеї й отримати католицький сан.

П'єр Абеляр є феноменом культурної пам'яті як історична особа і як образ-прототип художніх творів різних жанрів: такими є біографічне видання Г. П. Федотова «Абеляр» (1924), повість про велике кохання та велику ненависть Режин Перну «Елоїза та Абеляр» (2005), роман Еріки Орлофф «Тайна древней рукописи» (2012). На думку Я. Ассман, культурна пам'ять завжди має своїх особливих носіїв. У нових текстах такі образи забезпечують процес «пригадування» і «декодування», нове їх прочитання й нове входження в потік культури, насичуються новою актуальністю, незалежно від часу творення [3, с. 56].

В основу роману німецької письменниці XX ст. Луїзи Рінзер (1911 – 2002) «Любов Абеляра» покладено відомі факти про життєпис філософа-схоласта. У творі авторка відводить достатньо уваги зображенню власне атмосфери схоластичних часів, особливостям тогочасного менталітету, концентрує проблемний зміст навколо душевних конфліктів, віри та почуття, передає невідповідність метафізичних вимог до реального, почуттів емоційно багатої та допитливої людини. У романі Л. Рінзер вловлює й передає своє історичне чуття в тому, як ця непересічна особистість відходить від загальноприйнятого віровчення, заявляючи, що у світі існує тільки Бог Отець, а Ісус Христос і Святий Дух – це лише

прояви Його всемогутності. На думку Абеляра, в інтерпретації Рінзер, серед Богів і людей існує єдиний найвищий Бог, несхожий на них.

Для сучасності П'єр Абеляр – це філософ-новатор. Однак і в середньовіччі, і в наш час, він відомий не тільки своїм ідейним надбанням, а й історією трагічного кохання. Саме як втілення безмежного кохання у своїй самовідданості увійшли Абеляр та Елоїза в культурну пам'ять європейської цивілізації, ставши поруч з Трістаном та Ізольдою, Ромео та Джульєттою. Постійний і нездоланний конфлікт, що супроводжував їх за життя – зовнішній і внутрішній – головна рушійна сила творів про них. Незвична для свого часу їх «Історія» та «Листування» – надбання світового письменства, одна з найцікавіших сторінок як історичних хронік, легенд, так і художніх домислів і вимислів. Елоїза (1100–1161) – племінниця каноніка Фулбера, який прагнув дати їй найкращу освіту. Саме в приватному навчанні зав'язалися пристрасні стосунки з її вчителем – П'єром Абеляром. Побачивши юну й надзвичайно вродливу дівчину, тридцятивосьмирічний канонік, який дотримувався досить вільних поглядів на кохання, забажав її спокусити. Вишуканим красномовством і тонкими компліментами Абеляр швидко підкорив юне довірливе серце Елоїзи, але несподівано і сам закохався, забувши про духовний сан. «Любов закрила нам очі» [1, с.67], – згадував канонік. Плід їхнього кохання – народження дитини, хлопчика Астролябія. Після чого Абеляр відвозить Елоїзу в жіночий монастир неподалік Парижу і змушує її прийняти чернецтво. У листах вона йому неодноразово докоряла, що прийняла постриг проти власної волі та Божого покликання. Коли ж родичі Елоїзи дізнались про цей вчинок Абеляр, вони, підкупивши слугу, осклепили його.

У процесі дослідження роману на особливу увагу заслуговує ореол магістрального для твору поняття Бог. У науковому обігу воно визначається як «сакральна персоніфікація абсолюту в релігіях теїстичного типу, що характеризується тотожністю сутності та існування» [4, с. 110]**,** тобто, Бог – це «творець, володар таїн земних і космічних, спаситель світу, що прийде до людей й охоронить від зла» [4, с. 110].

У романі «Любов Абеляра» кожний з трьох головних персонажів, прототипами яких є реальні історичні особи, сприймає і трактує поняття Найвищого по-своєму: Абеляр піддає сумніву тезу про триєдність, Елоїза свого бога бачить в Абелярі, тоді як ототожнення смертної людини з Богом в осмисленні середньовічної людини було неможливим як неприпустимо гріховне [8, с. 98]. Віддаленим від канонічного мислення є дитина палко закоханих – Астролябій, який перебуває в постійному бунті проти усього світу, у його бурхливій свідомості та підсвідомості нерозривно переплітаються гріховний та піднесений світи. Він розшукував батька та матір; вислухав каяття батька; розчарувався в житті після бесіди з матір'ю,

шукав сенс буття між добром і злом у тодішньому розумінні як цілком метафізичних понять: *«Abaelard: Für dich ist Gott also das Licht?*

*Astrolabius: Das ist ein Bild, ich finde kein anderes. Ich könnte auch sagen, er ist die Dunkelheit»* [9, с. 58].

З культурної рецепції Л. Рінзер можемо дійти висновку, що письменниця XX століття розробляє головну для середньовічної антропології духовну концепцію, окреслює її в наближенні до того часу в напрямку ціннісно спрямованої вертикалі: людина – Бог. Притому Рінзер розглядає більш сучасний філософсько-психологічний простір, у якому відчутне просування мисленнєвого суб'єкта до світосприйняття, значною мірою вільного від медієвістичних догматів, канонів та світоглядних обмежень тощо.

Історичний Абеляр засуджує своє кохання і не є послідовним у трактуванні поняття любов, бо вважає, що можливо добитися прихильності слабкої статі погрозами та побиттям, а вину гріхопадіння покладає на жінку. В одному з листів Абеляр аналізує «чорношкіру жінку», яка зсередини гарна чеснотами, а зовні чорна, через тілесні незгоди, єдиним порятунком для такої жінки є монастир [8].

Стосунки Елоїзи та Абеляра – це еволюція розуміння та пізнання людини середньовіччя загалом, оскільки йдеться про позбавлення васальних відносин між чоловіком та жінкою та піднесення жінки на рівень боготворіння чоловіком водночас з безстрашною його критикою. У поезії Вергілія, Овідія, дохристиянській класиці Елоїза могла знайти саме такий образ розкріпаченої жінки. У переддень нового часу ці відносини є великим поштовхом в осмисленні культури загалом. Трубадури оспівували лише любов чоловіка, тоді як жінка сприймалася, переважно, як об'єкт втіх. Елоїза ж піднесла любов жінки до дієвого суб'єкта у стосунках з чоловіком [8].

Відсутність духовного взаєморозуміння провокує у їхніх стосунках розрив на декілька років. Відновлення спілкування починається після виходу автобіографічної книги П'єра Абеляра, «Історія моїх страждань. Утішне послання другу», у якій вагоме місце відведене Елоїзі. У книзі Абеляр називає її єдиним другом, а свою любов виправдовує книгою «Пісня Пісень», складеною для коханої «невістки Христа», як він називає Елоїзу.

Взаємини Абеляра та Елоїзи внесли кардинальні зміни в осмислення ролі жінки, її служіння Богу та призначення на землі. Вперше любов жінки стала рівною любові чоловіка, а стосунки з Елоїзою Фулбер вплинули на філософські пошуки П'єра Абеляра, формування його основних доктрин на поняття тілесного гріха та гріхопадіння людини загалом. Існує навіть думка, що головні філософські концепції Абеляр запозичив у Елоїзи.

Стосовно аналізованого феномену культурної пам'яті, який привертає увагу письменників, філософів і культурологів європейської інтернаціональної думки загалом, неможливо оминути український контекст. Багатозначні для подальшого наукового прочитання твори Абеляра користуються увагою професійних перекладачів української мови: автобіографія «Історія моїх страждань. Листування Абеляра та Елоїзи» ( 2004) в перекладі Ростислава Паранька. У трактаті «Етика, або Пізнай самого себе» (переклад А. А. Гусейнова) Абеляр розрізняє поняття «пороку», «гріха», «наміру та дії». Основою цікавої статті А. Є. Шевченко, О. С. Туренко «"Покарання" та "намір" в канонічному праві: сподівання П'єра Абеляра» є етична доктрина теолога-філософа, вчення якого перетворить людину з об'єкта впливу на суб'єкт вільної волі та права, захищена дисертація В. О. Петровської «Філософія і життя П'єра Абеляра» (2012).

Доробок Луїзи Рінзер, – складова загального й цілісного культурно-філософського комплексу сучасної думки щодо вивчення шляхів становлення та формування новочасного, незалежного від догматизму мислення. У межах аналізованого матеріалу, приміром, Зоряна Лановик, сучасна українська дослідниця, вважає доктрину П'єра Абеляра суттєвим герменевтичним проривом у подоланні одноманітності церковного догматизму та орієнтації на чітко фіксовані правила мислення, запровадив дедуктивний метод вивчення текстів Письма. Не заперечуючи богонатхненності Писання, концептуалізм Абеляра був критичним поглядом на Біблійні тексти, в якому віра поєднувалась із науковістю аналізу, зосереджуючись на семантиці значення, він допускав й алегоричне тлумачення, утверджував контекстуальний принцип [5]. Це була перша вдала спроба розмежувати теологію й біблійну науку, яка відкривала нові шляхи розвитку філології загалом та герменевтики тексту зокрема.

Найбільш цікавими власне з філологічної точки зору є «Діалектика» Абеляра (повна назва «Діалектика. Предикаменти. Книга про частини мови, які ми називаємо висловлюваннями») та «Теологія Вищого блага», в якій він розкриває філософію концептуалізму, надаючи перевагу проблем слова, смислу, поняття та визначення філософської термінології. Це були провідні праці в середньовічній дискусії реалістів та номіналістів про універсалії, які безпосередньо стосувалась проблем мови.

Суттєвий висновок, до якого приходить Абеляр у процесі мовного аналізу: «Мова набуває значення тільки після висловлення усіх її частин. Тільки тоді ми складаємо з неї поняття, коли висловлювання ми тут же воскрешаємо, і значення цього мовленнєвого процесу не досконале, якщо мова не висловлена повністю; це стосується того, що висловивши мову, ми не відразу розуміємо її, якщо тільки розумом не оволодіємо і

зусиллями не осягнемо значення почутої конструкції. І завжди душа слухача піднесена, поки мова знаходиться у стані виголошення, тому що до неї (вірить душа), може додатися щось таке, що може додати до її розуміння» [2, с. 121]. Автор трактату розширює концепцію мовленнєвої рецепції, в якій порушується питання, чи однаково різні люди, які стоять поряд, сприймають почутий звук (одночасно і однаково повно), чи відбувається різне сприйняття, подібно видовищу, що відбувається перед очима багатьох глядачів, які стоять на різній відстані від події, тому зорова проекція відрізняється від цілісного сприйняття.

Отже, життєписи історичних осіб постійно були предметом професійних зацікавлень представників суспільнознавчих, культурологічних дисциплін. Інтерес до конкретних видатних осіб минувшини живиться не лише біографічним матеріалом, але й тим, що крізь призму їхнього життя можна простежити усю розмаїтість реальних історичних обставин їхнього діяння.

**Список використаних джерел**


1. Абеляр, П. Історія моїх страждань. Листування П. Абеляра й Елоїзи. [пер. злат. Р. Паранько]. – Львів, 2004. – 136 с.
2. Абеляр, П. Теологические трактаты. – М.: Прогресс, 1995. – 640 с.
3. Ассман, Я. Культурная память: Письмо, память о прошлом и политическая идентичность в височих культурах древности / Пер.с нем. М.М. Сокольской. – М.: Языки славянской культуры, 2004. – 368 с.
4. Дронь, К. І. *«Останки первісного світогляду…» (міфопоетична модель світу у творчості Івана Франка*) // Міфопоетичні образи в художньому світі Івана Франка (ейдологічні нариси). НАН України, Львів, 2007. – С. 24–129.
5. Лановик, З. Б. Герменевтична концепція П'єра Абеляра (філологічний аспект). Питання літературознавства, Чернівці: Рута, 2004. – С. 3–9.
6. Лотман, Ю. М. О содержании и структуре понятия «художественная литература» / Ю. М. Лотман // Лотман Ю. М. Избранные статьи: в 3 т. – Таллинн, 1992. – Т. 1. – С. 203–215.
7. Репина, Л.П. Культурная память и проблемы историописания (историографические заметки). – М.: ГУ ВШЭ, 2003. – 44 с.
8. Троян, Н. Стосунки П'єра Абеляра та Елоїзи Фулбер в контексті історико-філософського осмислення. Львівський медієвістичний клуб, 2014. // https://lvivmedievalclub.wordpress.com
9. Luise, Rinser. Abaelards Liebe. Veröffentlicht im Fischer Taschenbuch Verlag GmbH, Oktober, Frankfurt am Main, 1993. – S. 224.

УДК 821.161.2.–1.09

***В. П. Біляцька***

# ПЕРЕКОДУВАННЯ ЛІТЕРАТУРНИХ ЕТНООБРАЗІВ У СУЧАСНИХ УКРАЇНСЬКИХ РОМАНАХ У ВІРШАХ

У статті порушується проблема етнообразів у сучасних романах у віршах, які за походженням і суспільною функцією зв'язані з національними стереотипами, мають міфологічні, фольклорні, історичні джерела.

Українські романи у віршах кінця XX – початку XXI століття порушують гносеологічні питання, відзначаються багатогранністю тексту, багатозначністю літературного образу, репрезентують історичне буття нації, проблеми загальнолюдської значущості. «Ядром» художньої структури, центром розуміння морально-філософських суспільних проблем творів є образи-персонажі – неординарні особистості, національні метатипи, етнообрази. В. Будний етнообраз трактує як літературний образ, «що конструює не лише індивідуальні риси, а й етнічну (національну) ідентичність зображуваних персонажів, краєвидів чи історичної минувшини, подаючи певні їхні ознаки як “типові” для відповідної країни, “характерні” для цілого народу. За цією референційною віднесеністю (тобто пов'язанням індивідуальних рис зображуваного предмета з певною національною ідентичністю) розрізняють образ власного етнокультурного Я – *автообраз* (чи автоімідж, auto-image) та образ Іншого – *гетерообраз* (чи гетероімідж, hetero-image)» [1, с. 54].

У сучасному літературознавстві пропонується такі визначення образів, які «виникли на конкретно-історичному підґрунті і сконцентрували в собі архетипні характеристики» [7, с. 196]**,** активно функціонують у національних літературах різних епох: «вічні образи» (О. Веселовський, Д. Донцов, Н. Калустова, А. Метченко, Н. Осипова), «вікові образи» (І. Нусінов), «світові типи» (П. Берков, О. Овчаренко), «традиційні образи» (А. Волков, А. Нямцу), «несмертельні типи», «вічні ідеї», (Д. Донцов), «метатип» (Н. Мендіс, Т. Печерська), «зверхтипи» (Л. Лотман), «наскрізні герої» (Е. Загурська), «образи-канони» (Л.Тарнашинська), «літературні етнообрази» (В. Будний, Д. Наливайко).

Слушною є думка Н. Федорака про те, що необхідно визначити «факт існування, а відтак і право на існування – “вічних” образів у контексті окремої національної літератури. Їх, звичайно, не назвеш уже образами “світовими”, а проте для носіїв певної культури їхні філософські коди не менш важливі, ніж високі сенси символів уселюдського рівня» [10, с. 782].

В енциклопедичних виданнях такі образи визначаються, як «вічні», й наводяться приклади інтерпретації Прометея, Каїна, Гамлета та інших, при цьому не акцентується увага на національних образах. У книзі «Поэтика: словарь актуальных терминов и понятий» за редакцією Н. Тамарченка зазначено, «вічні образи» – це літературні персонажі, які отримали багаторазове втілення в словесності різних країн і стали «своєрідним знаком культури» [9, с. 121]. Традиційно до них відносять міфологічні й легендарні персонажі, біблійні й історичні особистості, в основу яких покладено «літературне відображення». Вони можуть підноситись до символічного значення культурно-історичної епохи, народженої у ній, так і пізнішої, по-новому їх переосмисленої. Також зазначено, що існують і *національні* варіанти вічних образів, узагальнюючий *національний тип* [9, с. 121].

У «Літературознавчому словнику-довіднику» (1997), «Літературознавчій енциклопедії» за редакцією Ю. Коваліва (2007) у визначенні «вічні образи» теж згадується, що українська література має і свої національні «вічні образи» [7, с. 196]. Упорядники «Лексикона загального та порівняльного літературознавства» незгодні з визначенням «вічний» образ: «Вічні сюжети та образи науково не коректний вираз для позначення деяких традиційних сюжетів та образів, які побутують впродовж століть ...Всі вони виникли на певному історичному етапі, митці звертаються до них лише *за певних історичних обставин, залежно від конкретних соціальних причин*» [6, с. 107].

У студії «Традиційні сюжети та образи (деякі питання теорії)» А. Волков більш детально зупиняється на дефініціях «вічні», «світові» образи: «Вони не точні, гіперболічні й антиісторичні. Не існує жодного традиційного сюжету та образу, поширеного у всьому світі. Найширший географічний ареал мають античні та біблійні образи. Та це не весь світ. Вираз «світові сюжети та образи» – прямий наслідок літературознавчого європоцентризму» [2, с. 4]. Загальнокультурна й конкретно-історична інтерпретації сюжетів, образів часто не збігаються, що потребує всебічного дослідження процесів взаємодії «малого часу» і «великого часу». Поліфункціональність традиційних сюжетів зумовлена тим, що за своєю смисловою значимістю вони є відкритими художніми системами, які не тільки демонструють очевидні зв’язки з реальністю, а й є іманентними структурами суспільного буття.

Тому в розвідці ми послуговуватимемось дефініцією *літературний етнообраз*, який за походженням і суспільною функцією специфічно зв’язаний з національними міфами, стереотипами, упередженнями, відзначається глибоко філософським узагальненням про буття народу. «Під специфічним зв’язком маємо на увазі те, що література

крамом село кооперація» [1, с. 293]. «Записалося сто двадцять душ на костюми, а костюм один» [1, с. 292]. «П'ятсот метрів самого сатину привезли […] Ділили крам, то аж за коси тягли одна одну» [1, с. 293]. Оце такий «завалений крамом» Буймир, що треба жінкам за коси тягати одна одну, змагаючись, щоб дісталося.

У висновках до розгляду повісті «Зерна» варто ще раз наголосити, що К. Гордієнко зумів правдиво відобразити колгоспне будівництво перших років після колективізації. Він непомильно показав, як сільське господарство в Україні рушило до занепаду, а народ до зубожіння. Сила повісті полягала не стільки в створенні колоритних характерів (на це в письменника не було ні часу, ні намірів), скільки у відтворенні жахливих соціальних процесів. Радянська влада зрозуміла, що пограбований і принижений український народ залишається гордим і нескореним. Колективні господарства опинилися під загрозою зникнення. Радянська влада розпочала війну із своїм народом, яка затягнулася на кілька десятиріч, але першою її битвою став Голодомор. Слід наголосити на тому, що воєрідним літописом колективізації у творчості К. Гордієнка є твір під назвою «Зерна» – один з перших в українській радянській літературі цикл повістей, присвячений людям села. Письменник зосередив увагу на показі перебудови дрібновласницького світу, задушливого побуту, на утвердженні нової системи сільськогосподарського виробництва.

Повість «Зерна» стала узагальненням досвіду К. Гордієнка у створенні ідейно-художньої прози про колективізацію. Письменник досить довго йшов до цього, узагальнивши свої найважливіші спостереження над життєвими процесами в українському селі кінця 20-х – початку 30-х рр. XX ст. Герої К. Гордієнка набували з часом все більш глибокого розкриття, а їх сукупність створювала той ідейно-художній синтетизм, якого прагнув прозаїк. Доводилося дбати про багато складових частин цього синтетичного оповідання, аж до його обсягу.

«Зерна» – у результаті – вийшли якраз просторовими, іноді навіть «тягучими», оскільки автор не дуже переймався сюжетним динамізмом. Відчувається, що з часом письменник був схильний до повнішого і справді «історичного» зображення подій і героїв. «Зерна» містять у собі досить матеріалу для цього: система персонажів, конкретний колорит, нарешті, певний історичний сюжет формувалися його очима.

К. Гордієнко мав намір і далі продовжувати писати повість «Зерна», використовуючи відкритий і добре освоєний художній прийом – творення окремих новел, стилізованих під усну розповідь. Але події в Україні розгорталися в такому жахливому, моторошному, трагічному форматі, що він покину свій задум. Через якийсь час він створив повість «Сквар і син», яка вперше побачила світ в 1935 році. Він їй надав статусу третьої книги з

циклу «Зерна». Потім він продовжив працю над цим твором, змінивши прізвища головних героїв і надавши книзі назву «Сім'я Остапа Тура». Але це був уже зовсім інший твір, по-своєму прикметний, але у якому мало що нагадувало повість «Зерна». Вона так і лишилася дивовижним забутим художнім феноменом української літератури 1930-х років.

**Список використаних джерел**


1. Гордієнко, К Зерна : повість. Вид. 2-е / Кость Гордієнко. – Х. : Рад. література, 1934. – 320 с.
2. Зінченко, О. Кость Гордієнко: [літературно-критичний нарис] / О. Зінченко. – К. : Радянський письменник, 1987. – 176 с.
3. Копштейн, А. Повість "Зерна" / А. Копштейн // Літературна газета. – 1934. – 1 березня. – 3 с.



УДК 882.6.09 -1



***І. І. Шматкова***


## ПЕСЕННЫ КАМПАНЕНТ У БЕЛАРУСКАЙ ЖАНОЧАЙ ЛІРЫЦЫ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XX ст.


У артыкуле разглядаецца песенны кампанент у лірыцы беларускіх паэтэс другой паловы XX стагоддзя (К. Буйло, Э. Агняцвет, Я. Янішчыц, В. Вярбы, Е. Лось, Н. Мацяш, Р. Баравіковай і інш.), раскрываецца роля песні ў іх жыцці і творчасці, паказваецца ўплыў народнапесеннай традыцыі на іх вершаваны радок.


Песеннасць – адна з самых значных адметнасцей беларускай жаночай паэзіі, вытокі якой яшчэ ў калыханцы, што спявала жанчына-маці сваім дзеткам. Песня традыцыйна суправаджала ўсё жыццё жанчыны. Песня – асноўны кампанент народнага светабачання.

Песня стала сімвалам жыцця і творчасці К. Буйло: *Песня! Песня! Ты даеш мне крылы* [2, с. 151], *Спявай! Палягчэнне мне песня дае, // Душа тваім гукам адкрыта, // Жыццё ў ёй тлумачыць загадкі свае, // Гадамі ў туманы спавітых* [2, с. 155], *Спявай! Спявай, каб жыць і пець* [2, с. 157].

Выток сваёй паэзіі бачыць у народнай песні выдатная беларуская паэтэса Я. Янішчыц: *Зацвітаюць буйна песні // У сялянак на губах... // Ад таго і я, напэўна, // Летуценная, пішу, // Што глыбока вашы песні // Мне запалі ў душу* [14, с. 15].

У. Гніламёдаў, разважаючы пра "тайну" паэтычнага феномену Я. Янішчыц, бачыць яе ў "своеасаблівым лірызме паэтэсы – празрыстым,

ціхім, песенна-плаўным. <...> Аснову яе інтанацыі складае музычнасць, напеўнасць радка...” [7, с. 235]. Р. Семашкевіч таксама вызначае “відавочны народнапесенны лад многіх твораў Я. Янішчыц” [13, с. 121].

А. Лойка, даследуючы паэзію В. Вярбы, адзначае, што самыя “цікавыя” творы з першага зборніка паэтэсы “Вочы вясны” (1962) “напісаныя ў інтанацыях і рытмах народнай песні, – “У апошні вечарок...”, “У мяне каханне...”. Словы аднаго з такіх песенна-народных вершаў сталі асновай тэксту вельмі папулярнай беларускай песні “Ручнікі” [10, с. 135]. Калі звернемся да лірыкі Э. Агняцвет, то прыходзім да высновы, што любоў да песні, музыкі паэтэса выяўляе праз выбар “музычных” жанраў: вершы “Апасіяната”, “Ронда”, “Скерца”, “Баркарола”, “Накцюрн”, “Актава”, “Песня” (зборнік лірыкі “Жаданне” (1971)).

Е. Лось успамінала: “Песні, чутыя ў Старыне з малых год, жывуць у памяці, яны як першае прычашчэнне да цудоўнай творчасці роднага народа. Помню іх “мірныя”, помню і тыя, што спявалі ў гады вайны. <...> Сэрца замірала, калі слухала я партызанскія песні. Партызан ідзе на заданне, яго могуць параніць, забіць, а ён – спявае... Ужо тады нараджалася думка, што песня неабходна чалавеку ў самыя цяжкія хвіліны, таксама як і ў дні шчаслівыя і радасныя” [12, с. 222 ].

Н. Мацяш таксама гадавалася ў песеннай атмасферы. Будучая паэтэса захаплялася песнямі маці і бабулі, спявала іх сама і выкарыстоўвала ў сваіх творах. У вершы “Песня матчынай маладосці” Н. Мацяш складае хваласпеў сваёй маме. Сутнаснае ў яе свеце выяўляецца праз матыў песні, якую тая любіла спяваць. Матчына песня ўспрымаецца паэтэсай як аснова духоўнага жыцця (верш “Песня*”): Песня помніць: // Адступіся яна ад людскога душы – // І ўжо не ўберагчы // Анічым // Чалавека* [11, с. 115].

Думка ў гэтым вершы празрыстая: жыццё без песні губляе сапраўдны чалавечы змест. Песня пераўтварае душу, і пачынаецца гэта з матчынай калыханкі. Народная песня – абярэг нацыянальнай душы. Яна, песня, адчувае, што чалавеку патрэбна духоўная энергія, асабліва тады, калі ён робіцца прыгнечаным, кволым, невідушчым, адмаўляецца ад высокіх мэт, ідэалаў, прыгожых мараў. У такім выпадку “песня помніць”, кім чалавек нарадзіўся і кім павінен быць. Песня – генетычны код, духоўна-эстэтычная памяць народа. Яна засцерагае нас ад магчымай прозы быцця, ад перараджэння... Дарэмна мы спяшаемся за “модай”, стараючыся пазбавіцца ад “архаікі”, а на самой справе – ад маральнага кодэкса народнай песні, яе ачышчальнай мудрасці, энергіі, душэўнай шчодрасці, чалавечай зычлівасці. Для Н. Мацяш песня – духоўны скарб, які вымагае ашчаднага стаўлення, якая можа дапамагчы: *Памажы мне, песня, акрыяць... // <...> Гэта ж песня – каханне* [11, с. 268–269].

У. Калеснік, даследуючы паэзію Н. Мацяш, вылучаў глыбінную фальклорную аснову яе творчасці, прасачыў цесную сувязь яе вершаў пра

каханне з народнымі песнямі на гэтую ж тэму. Каханне пераўвасабляе чалавека, робіць яго жыццё ўзвышаным, святочным, адкрывае таемнае, але яно не толькі асалода, уцеха і шчасце. Гэтае пачуццё праходзіць розныя этапы, бо каханне выпрабоўваецца на вернасць, яно і пакуты, і боль, і шчымлівая туга, і трывога. У народнай песні кантрастуюць "вернае" каханне і кароткае, на адну ноч, але якое пакідае ў сэрцы і памяці незабыўны, салодкі ўспамін*: А тое каханне, з вячора да рання, // Як сонейка ўзыдзе – каханне прападзе* [3, с. 253]. Варыянт гэтага лірычнага спеву зафіксаваны, напрыклад, у фальклорным зборніку "Вянок беларускіх народных песень" (1988). У. Калеснік цудоўна праілюстраваў дынамічную формулу кахання песнямі з рэпертуару маці Н. Мацяш, а таксама з ліку тых, якія любіла спяваць сама паэтэса ў коле сяброў. Яна ведала шмат беларускіх, украінскіх, рускіх песень. Не давялося пачуць У. Калесніку толькі тых, дзе даецца смехавая інтэрпрэтацыя кахання, любоўных узаемаадносінаў. А такая трактоўка ў фальклоры, як вядома, даволі пашыраная. Жартоўнае, нават фрывольнае адлюстраванне стасункаў яго і яе прыводзіць асобных паэтаў да антыэстэтызму. Н. Мацяш, наадварот, у сваім слоўным паказе кахання трымаецца далікатнага маральнага пачуцця. Як у народных песнях, так і ў яе творчасці "лірыка кахання – адна з самых светлых і самых пяшчотных старонак" [9, с. 91]. У мастацкіх адносінах з выключным псіхалагізмам і праўдзівасцю ўвасабляюцца паэтэсай жывое чалавечае пачуццё, інтымныя мары і жаданні.

У паэзіі Р. Баравіковай знаходзім таксама ўвасабленне народнапесеннай традыцыі. У. Гніламёдаў, спасылаючыся на выказванне перакладчыка яе вершаў на рускую мову Г. Куранёва, які адзначаў: "Раіса Баравікова творча абапіраецца на беларускую песенную традыцыю. Нездарма адзін з цыклаў сваіх вершаў яна так і назвала: "З бабуліных песень". Цыкл гэты, ключавы для ўсёй творчасці Раісы Баравіковай, не чарговае перакладанне фальклору, а адзначаныя пячаццю глыбокай павагі да народнай творчасці зусім самастойныя, самабытныя вершы" [6, с. 245]. У. Гніламёдаў прыходзіць да высновы: "Яе фальклорныя матывы і асацыяцыі спалучаюцца з сучаснымі і маюць глыбока псіхалагічны падтэкст. Тут назіраем фалькларызм і, з другога боку, вытанчанасць сучаснай спавядальнай лірыкі" [6, с. 245]. Адметнае прачытанне паэзіі Р.Баравіковай сустракаем у артыкуле В. Шынкарэнка: "Напэўна, прызнаннем у якасці першаснай асновы свайго паэтычнага слова мелодыі, музычнага пачатку, а не колеру, і абумоўлена мнагазначнасць гучання двухрадкоўя з верша Р. Баравіковай "Папялушка! – уздрыгваюць кусты...": *Словамі не пэндзлем маляваць, // тут свае адценні, свае гамы* [5, с. 574].

Для лірыкі беларускіх паэтэс уласціва нацыянальная адметнасць, якая выяўляецца не толькі ў выбары тэм, праблем, у своеасаблівым поглядзе на розныя бакі жыцця, але і ў нацыянальным моўным каларыце. В. Кожынаў

зазначае, што “лірычная паэзія... абумоўлена гранічна цеснай сувяззю лірыкі з родным словам, з самім яго непаўторным гучаннем і ладам” [8, с. 5]. Эстэтычныя карані “жаночай” паэзіі – у беларускай песеннай прасодыі. Моўная плынь іх твораў успрымаецца як музыка душы. Сапраўднымі вершаванымі ўзорамі песеннасці, меладычнасці сталі радкі беларускіх паэтэс: *Прыедзь у край мой ціхі, // Тут продкаў галасы, // Тут белыя буслíхі // І мудрыя лясы* (Я. Янішчыц) [14, с. 23] – алітэрацыя гукаў [ц’], [л], [с]; *Вочы вясны // водар сасны, // голас лясны – // Вось мае сны...* [4, с. 32] – алітэрацыя гукаў [в], [с], [н] (зычныя складнікі слова “вясна”); *Зноўку ноч цыганкай каля ганка, // Зноў прыйшла прарочыць – варажыць // Самыя шчаслівыя світанкі, // Самыя гаючыя дажджы* (Н. Мацяш) [11, с. 33] – алітэрацыя гукаў [з], [н], [с]; *Пад соннай ёлкі калыханне, // пад навагодні лёгкі вальс, // дзеля бясконцага чакання // я адмаўляюся ад вас* (Р. Баравікова) [1, с. 62] – алітэрацыя гукаў [н], [с]. Выкарыстоўваючы багатыя эўфанічныя асаблівасці, яны здолелі ўвабраць у сябе музыку беларускай мовы, ператварыўшы слоўную матэрыю ў эстэтыку мастацтва, пры дапамозе лірыкі змаглі перадаць мелодыю сваёй душы, гукарытміку сэрца.

Песенны кампанент з’яўляецца адным з важнейшых складнікаў лірычнай творчасці беларускіх паэтэс, іх вершаваны радок стаў увасабленнем народнапесеннай традыцыі, адлюстраваннем нацыянальнай самабытнасці беларускай мовы.

**Спіс выкарыстаных крыніц**


1. Баравікова, Р.А. Сад на капялюшыку каханай: лірыка / Р.А. Баравікова. – Мінск: Мастацкая літітаратура, 1997. – 486 с.

2. Буйло, К. ...Коціцца рэха: вершы, паэма, лісты / К. Буйло. – Мінск: Мастацкая літітаратура, 1993. – 286 с.

3. Вянок беларускіх народных песень / запіс У. Раговіча. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 432 с.

4. Вярба, В. Апошні верасень. Выбранае: вершы і паэмы / В. Вярба. – Мінск: Мастацкая літітаратура, 1995. – 270 с.

5. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. Т. 4. кн. 2: 1986 – 2000 гг. / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы; рэдкал.: У.В. Гніламёдаў, С.С. Лаўшук. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – 975 с.

6. Гніламёдаў, У.В. Класікі і сучаснасць / У.В. Гніламёдаў. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 288 с.

7. Гніламёдаў, У.В. Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс / У.В. Гніламёдаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 304 с.

8. Кожинов, В.В. Книга о русской лирической поэзии XIX века / В.В. Кожинов. – М.: Современник, 1978. – 303 с.

9. Лірычныя песні: беларус. фальклор у сучасных запісах / уклад. і рэд. Н.С. Гілевіча. – Мінск: БДУ імя У.І. Леніна, 1976. – 462 с.
10. Лойка, А. Сустрэчы з днём сённяшнім / А. Лойка. – Мінск: Народная асвета, 1968. – 172 с.
11.Мацяш, Н. Паміж усмешкай і слязой: вершы і паэмы (1962 – 1992) / Н. Мацяш. – Мінск: Мастацкая літітаратура, 1993. – 301 с.
12. Пра час і пра сябе. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. – Мінск: Беларусь, 1996. – 392 с.
13. Семашкевіч, Р. Выпрабаванне любоўю: эсэ, арт. / Р. Семашкевіч. – Мінск: Маст. літ., 1982. – 206 с.
14. Янішчыц, Я. Пачынаецца ўсё з любві...: вершы, паэмы / Я. Янішчыц. – Мінск: Мастацкая літітаратура, 2008. – 339 с.

УДК 821.161.3. 19. 09.82.398

***А. У. Ярмоленка***

## ДУХОЎНЫЯ І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫЯ ПОШУКІ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ Ў АПОВЕСЦІ “ДЗВЕ ДУШЫ” М. ГАРЭЦКАГА

Артыкул прысвечаны даследаванню паэтыкі і праблематыкі аповесці «Дзве душы» М. Гарэцкага, якая паўплывала на развіццё мастацкай і філасофскай думкі Беларусі ХХ–ХХІ стагоддзяў. З пункту погляду сучаснага літаратуразнаўства прааналізавана сістэма вобразаў, якія адлюстроўваюць духоўныя пошукі выхадцаў з беларускай вёскі пачатку ХХ ст. Прааналізавана перамнасць паміж творамі М.Ю. Лермантава і М. Гарэцкага.

Асаблівае месца ў творчасці М. Гарэцкага займае аповесць «Дзве душы», якая адразу свайго з'яўлення прыцягнула ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Большасць з іх цікавіў аспект адлюстравання рэвалюцыйных падзей і ролі беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў гэтых падзеях. «Повесьць Гарэцкага, нягледзячы на яе даволі сур’ёзныя недахваткі, цікаўная галоўным чынам як адбіцьцё беларускага жыцьця ў пачатку бальшавіцкага перавароту. Яна першы раз раскрывае багацьце гэтага жыцьця, раскрывае духовае хараство барцоў за беларускую нацыянальную ідэю, аб каторых шырэйшае грамадзянства йшчэ так страшэнна мала ведае і мо такжа мала іх цэніць...» – сцвярджаў А. Луцкевіч [1, с. 117]. Савецкія літаратуразнаўцы даследавалі твор з пункту погляду класавай барацьбы: «З вялікага мора рэвалюцыйных падзей, высокіх чалавечых страсцей, складаных калізій і найглыбейшых канфліктаў гісторыі пісьменнік узяў толькі дробныя каламутныя пырскі, жменькі выпадковага

асадку, выкінутага на бераг, і пачаў калупацца ва ўсім гэтым. Вялікае, галоўнае, сапраўднае засталося дзесьці там, убаку» [2, с. 29].

У наш час аповесць была высока ацэнена І. Чыгрынам: «Такім чынам у цэнтры роздумаў Максіма Гарэцкага – тэма радзімы, а Ігнат Абдзіраловіч, галоўны герой твора, – асноўны выразнік ідэйнай пазіцыі пісьменніка. Адсюль тыпізацыя жыцця ў аповесці вядзецца па надзвычай высокім рахунку» [3, с. 116]. П. Васючэнка адзначае: «Яшчэ не поўнасцю раскрылася таямніца хараства, якое прыцягвае сучаснага падрыхтаванага чытача да прозы Гарэцкага. Думаецца, «Дзве душы» Гарэцкага, гэтак жа як верш «Паязджане» і п'еса «Тутэйшыя» Янкі Купалы, задаюць новую загадку. Дзе крыніца хараства твораў, у якіх акцэнты наўмысна ці міжвольна не прастаўлены да канца, а ідэя не прыйшла да раўнавагі ці адназначнасці? Можа быць, справа якраз у настроі гэтых твораў, у іх паэтычнай замглёнасці і незавершанасці, адкрытасці гісторыі? Ці ў больш акрэсленых законах творчасці, паводле якіх складанасці і супярэчлівасці быцця адпавядае мастацкая дыялектыка вобраза?» [4, с. 474].

Т. Тарасавай у дысертацыі «Беларуская проза XX стагоддзя ў еўрапейскім літаратуным кантэксце: экзістэнцыялізацыя духоўнага свету героя» даследаваны экзістэнцыяльны аспект аповесці «Дзве душы» [5, с. 116]. Асобныя аспекты праблематыкі твора знайшлі сваё адлюстраванне ў матэрыялах Гарэцкіх чытанняў (Т. Грамадчанка [6], Д. Дудзінская [7], С. Сычова [8]). Нягледзячы на вышэй адзначаныя працы, комплексны аналіз паэтыкі мастацкага твора яшчэ чакае свайго даследчыка.

Творчасць М. Гарэцкага адрозніваецца філасофскай глыбінёй і шматграннасцю асэнсавання рэчаіснасці. Ствараючы аповесць «Дзве душы», М. Гарэцкі імкнуўся не толькі адлюстраваць класавую барацьбу, якая была надзённым і вострым пытаннем таго часу. Асноўнай мэтай М. Гарэцкага было асэнсаванне шляхоў станаўлення і развіцця беларускай інтэлігенцыі, яе ролі ў лёсе краіны, якая перажывала грамадзянскую вайну і рэвалюцыю.

Твор М. Гарэцкага заснаваны, як і многія яго творы, на аўтабіяграфічных фактах: «Аўтар, непасрэдны сведка драматычнага развалу магутнай Расійскай імперыі, сведка хаосу, безуладдзя і беспарадкаў, адлюстроўвае аб'ектыўную карціну таго, што на самой справе адбывалася з ім і яго знаёмымі напярэдадні Кастрычніцкага перавароту і пасля яго» [9, с. 5]. Але ў адрозненне ад дакументальна-мастацкіх аповесцей «На імперыялістычнай вайне», «Камароўская хроніка» гэты твор вызначаецца мастацкім падыходам да адлюстравання падзей, авантурным ці, як пісалі крытыкі М. Гарэцкага, дэтэктыўным сюжэтам (Д. Бугаёў [10, с. 146]), любоўнай калізіяй.

Твор М. Гарэцкага паўплываў на развіццё філасофскай і мастацкай думкі Беларусі XX–XXI стагоддзя. Аповесць М. Гарэцкага можна назваць

адным з самых цікавых твораў беларускай літаратуры XX стагоддзя. Нечаканы мастацкі прыём, заснаваны на класічным сюжэце падмены немаўлят, дазваляе М. Гарэцкаму выйсці за рамкі традыцыйнай сялянскай прозы, ацаніць духоўнае і матэрыяльнае становішча прадстаўнікоў розных класаў тэрыторыі тагачаснай Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі.

Спроба стварыць своеасаблівага героя свайго часу была яшчэ ў апавяданні «У чым яго крыўда?» М. Гарэцкага. Але масштабны вобраз, у якім увасобіліся некаторыя рысы лерманатаўскага Пячорына, быў створаны пісьменнікам у аповесці «Дзве душы». Вобраз Ігната Абдзіраловіча суадносіцца з героямі Лермантава і Дастаеўскага. Наследуючы традыцыі вялікіх рускіх пісьменнікаў, М. Гарэцкі выкарыстоўвае лерманаўтаўскія мастацкія прыёмы для стварэння малюнка любоўнай драмы, якая разгортваецца на Каўказе. Аповесць «Дзве душы», бадай, адзіны твор М. Гарэцкага, у якім так падрабязна апісана зараджэнне, развіццё і трагічная развязка рамантычных адносін Ігната Абдзіраловіча і Алі Макасеевай. Калі большасць твораў М. Гарэцкага з'яўляюцца творамі аднаго героя, то ў аповесці «Дзве душы» М. Гарэцкі падрабязна даследуе душэўныя перажыванні і асаблівасці характару розных герояў, ствараючы праўдзівыя жаночыя і мужчынскія вобразы прадстаўнікоў розных класаў грамадства. Увагай да мастацкай дэталі, натуралістычным апісаннем жыцця багатых і бедных аповесць М. Гарэцкага блізкая да раманаў Ф. Дастаеўскага «Бесы» і «Ідыёт».

Аповесць М. Гарэцкага «Дзве душы» вызначаецца перш за ўсё складанай сістэмай герояў, характар якіх пададзены ў развіцці, у выпрабаваннях рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Звычайна крытыка ацэньвае гэтыя вобразы з пункту погляду іх стаўлення да рэвалюцыі і нацыянальнага адраджэння. Гэта важны, але не самы галоўны аспект творчых пошукаў пісьменніка. Больш важна для М. Гарэцкага адлюстраваць развіццё характараў выхадцаў з сялянскага асяроддзя, станаўленне іх самасвядомасці, выбар жыццёвага шляху. Гэта неабходна таму, што лёс яго герояў прадвызначае лёс той зямлі, адкуль яны родам, жыццё людзей, якія залежаць ад іх. Месца галоўнага героя, якому належыць роля назіральніка за разбуральнымі падзеямі вайны і рэвалюцыі, адводзіцца Ігнату Абдзіраловічу. Матыў падмены панскага сына сялянскім дапамагае аўтару ахарактарызаваць жыццё кіруючай эліты тагачаснага грамадства, акрэсліць сацыяльную няроўнасць і непрымірымыя супярэчнасці паміж панамі і сялянамі.

У літаратуразнаўстве прынята меркаванне, што раздвоенасць душы, духоўныя пошукі, характэрны толькі для Абдзіраловіча, які спалучае ў сабе панскі і сялянскі пачатак, два непрымірымыя бакі канфліктуючых

класаў. Астатнія героі служаць для схематычнага ўвасаблення тыповых прадстаўнікоў сваёй сацыяльнай групы. У большасці апавяданняў і аповесцей М. Гарэцкага гэта сапраўды так. Але аповесць «Дзве душы» таму і прыцягвае ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў, што ў ёй прадстаўлены складаныя, шматгранныя вобразы не толькі Ігната Абдзіраловіча, але і Алі Макасеевай, Івана Карпячонка Гаршка

Лёс не дазваляе галоўнаму герою выбраць спакойнае панскае жыццё, трывожная душа вядзе яго далей: «Так, свой ці чужы, – падумаў ён з нейкім сорамам ці каяннем. – Я не ведаю, хто мне свой і хто чужы. Я дзяржуся дзікага нейтралітэту і ашукваю тых і гэтых і самога сябе» [11, с. 54–55].

Антаганістам Абдзіраловіча, на думку некаторых даследчыкаў, выступае князь Гальшанскі. На нашу думку, выразным антаганістам галоўнага героя з'яўляецца Іван Гаршчок. Князь Гальшанскі – тыповы прадстаўнік свайго класа, сапернік Абдзіраловіча ў любоўным трохкутніку. Сапраўды супрацьлеглыя погляды на свет выражае Гаршчок, і не толькі таму, што далучаецца да бальшавікоў. Палітычныя падзеі для Гаршчка – гэта шанс уладкавацца ў жыцці. Ён своеасаблівы двайнік Абдзіраловіча, таксама прымярае розныя сацыяльныя ролі, шукае свайго месца, мае складаны і супярэчлівы характар. Аб духоўных хістаннях, раздваенні душы Івана Гаршчка сведчыць яго біяграфія, цудоўнае ператварэнне з манаха ў бальшавіка: «Іван Гаршчок быў хлопец удалы, змалку на ўсё здатны і здольны. Змалку ж ён і чытанню-пісанню добра няўся. Як скончыў ён царкоўную школу, пасадзіў яго бацюшка ў школцы граматы вучыцелем. А Гаршчок калі за што браўся, дык браўся шчыра: змучыў дзяцей малітвамі, а баб і мужчын – чытаючы ім «Душеспасительный листок» з дужа страшнымі малюнкамі: у п'янюгі з рота лезе вужака, пляткарка ліжа языком гарачае жалеза і да т. п. І сасніў аднойчы Гаршчок, што ён вялікі нейкі прапаведнік ці манах, і пачуў голас ува сне, што павінен ісці ў манастыр, у манахі. І пайшоў. Папоўніў чараду» [11, с. 36–37].

Роздум над біяграфіяй Гаршчка – гэта роздум над лёсам выхадца з беларускай вёскі, лёсам краіны: «Губіць свой стройны парадак чарада ў гэную пару, бо хлопцы з беларускай вёскі пачалі выходзіць цяпер не толькі «ў свет», адылі і «ў людзі». Школы адчыняліся, і можна было выўчыцца на пісара і на вучыцеля, на чыноўніка, а то дык яшчэ вышэй: ксяндзы, папы і нават афіцэры пачалі выходзіць з-пад мужыцкіх стрэх» [11, с. 36].

У выпрабаваннях лёсу лёгка згубіць сябе, трапіць на самае дно жыцця, са святога стаць грэшнікам, што і здараецца з Іванам Гаршчком. Калі Абдзіраловіч у пошуках свайго «я» не губляе маральныя арыенціры, прытрымліваецца гуманістычных каштоўнасцей, то Гаршчок выбірае

іншы шлях, шлях крывавага тэрору і забойства іншых людзей. Тым больш цікавы і жудасны гэты вобраз, створаны аўтарам, бо ён паказвае магчымы выбар Абдзіраловіча. Ён адлюстроўвае тонкую мяжу паміж дабром і злом, якую ў экзістэнцыяльнай сітуацыі вельмі лёгка перайсці.

Магчымы выбар Ігната Абдзіраловіча адлюстроўвае і вобраз сялянскага настаўніка Міколы Канцавога: «Яму здавалася ці як бы чулася, што некалі Ігнась сам разгледзіцца і навернецца і яшчэ павядзе за сабою такіх, як ён Мікола. Яму здавалася, што наварачываць Ігнася – ненатуральны занятак. Дык жа і сорамна было б даводзіць Ігнасю тое, што можна даводзіць хіба цёмнаму, непісьменнаму чалавеку, каторы нават не ведае, што ён беларус» [11, с. 67]. Руплівы працаўнік на ніве адраджэння бацькаўшчыны, ён між тым пазбаўлены той бескампраміснасці і фанатызму, якая ёсць у Сухавея, які ацэньвае людзей толькі па прыналежнасці да сваёй справы. Як і Абдзіраловіч і Гаршчок, Мікола Канцавы бачыць усе магчымыя варыянты развіцця падзей, але шчыра выбірае свой шлях, з рызыкай для жыцця нясе асвету ў цёмную і непісьменную вёску.

Антыподам Канцавога выступае Сухавей. У віхуры рэвалюцыйнай барацьбы ён, як і Гаршчок, губляе натуральныя чалавечыя пачуцці (або свядома падаўляе іх), маральныя арыенціры. Для «справы» можа кінуць сябра.

Характар Іры Сакавічанкі больш распрацаваны аўтарам, чым характар Сухавея. Ёй уласцівы сумненні і трывогі, душэўныя парыванні да паэзіі, музыкі, хараства навакольнай прыроды, не толькі «справа» цікавіць яе. Пісьменнік пакідае фінал аповесці адкрытым, можна толькі здагадвацца, што адбудзецца з Ірай Сакавічанкай і Ігнатам Абдзіраловічам. Ліст да Іры, які пачынае пісаць Абдзіраловіч у канцы аповесці, дае надзею на іх новыя сустрэчы.

Такім чынам, у аповесці «Дзве душы» М. Гарэцкі стварае шэраг цікавых, шматгранных характараў выхадцаў з беларускай вёскі. Усе яны сімвалізуюць той ці іншы магчымы сцэнарый развіцця сацыяльных і палітычных падзей на тэрыторыі Беларусі. Пошукі і «дваенне душы» Ігната Абдзіраловіча – мастацкі прыём, ужыты аўтарам для адлюстравання нявызначанасці лёсу краіны, магчымасці выбару. На жаль, гэты выбар залежыць не толькі ад герояў аповесці, жыхароў тэрыторыі Беларусі, але і ад знешніх палітычных фактараў, што добра ўсведамляе здольны да рэфлексіі Абдзіраловіч. Неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай нацыі, вечная барацьба за існаванне складаюць аснову трагедыйнага, экзістэнцыяльнага светаадчування героя.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і

мастацтва / А. Луцкевіч. – Мінск : Кнігазбор, 2006. – 460 с.

2. Перкін, Н.С. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20–30 г.г.: праблемы сацыялістычнага рэалізму / Навум Саламонавіч Перкін. – [б. м.] АН БССР, 1960. – 396 с.

3. Чыгрын, І.П. Паміж былым і будучым: Проза М. Гарэцкага / І.П. Чыгрын. – 2-е выд., выпр. – Мінск : Бел. навука, 2003. – 166 с.

4. Васючэнка, П. Дыялектыка душы / М. Гарэцкі // Творы: Дзве душы: Аповесць. Апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч: П'еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты. – Мінск : Маст. літ., 1990. – С. 467–474.

5. Тарасава, Т.М. Беларуская проза ХХ стагоддзя ў еўрапейскім літаратуным кантэксце: экзістэнцыялізацыя духоўнага свету героя: аўтарэф. дыс. ... докт. філал. навук: 10.01.01 / Т.М. Тарасава; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. – Мінск, 2013. – 44 с.

6. Грамадчанка, Т. Аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы», «На імперыялістычнай вайне» ў кантэксце літаратуры прадстаўнікоў «страчанага пакалення» / Т. Грамадчанка // – XXII Гарэцкія чытанні «Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць»: міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, Мінск, 26 чэрвеня 2014 года. – Мінск : Выдавец Віктар Хурсік, 2014. – С. 33-38.

7. Дудзінская, Дз. Тры душы беларуса: персаналістычны антыутапізм у аповесці М. Гарэцкага «Дзве душы» і п'есе Янкі Купалы «Тутэйшыя»/ Дз Дудзінская // Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць. Матэрыялы XVIII Гарэцкіх чытанняў, Мінск, 11 чэрвеня 2010 г. / Дзярж. музей гісторыі бел. літ. – Мінск, 2010. – С. 79-87.

8. Сычова, С. Нацыянальны свет беларуса ў аповесці Максима Гарэцкага «Дзве душы» / С. Сычова // Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць. Матэрыялы XVIII Гарэцкіх чытанняў, Мінск, 11 чэрвеня 2010 г. / Дзярж. музей гісторыі бел. літ. – Мінск, 2010. – С. 157-162.

9. Илькевич, Н. «Душа двоилась...». Повесть, рожденная в Смоленске / Н. Ількевіч». – Смаленск : Бібліятэка часопіса «Край Смоленский», 1997. – 36 с.

10. Бугаёў, Дз.Я. Максім Гарэцкі / Дзмітрый Бугаёў. – 2-е выд., выпр., дап. – Мінск: Бел. навука, 2003. – 239 с.

11. Гарэцкі, М. «Дзве душы» : аповесць / М. Гарэцкі. – Мінск: Маст. літ., 2006. – 110 с.

Навуковае выданне

# Скарынаўскія традыцыі:
# гісторыя і сучаснасць

Зборнік навуковых артыкулаў

У дзвюх частках

Частка 2

Адказныя за выпуск:
*А. А. Лашкевіч,*
*К. В. Лёгенькая*

Падпісана да друку 02.11.2015. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. др. арк. 15,3.
Ул.-выд. арк. 16,8. Тыраж 35 экз. Заказ 640.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі
“Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Францыска Скарыны”
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вырабніка,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/87 ад 18.11.2013.
Спецыяльны дазвол (ліцэнзія) № 02330 / 450 ад 18.12.2013.
Вул. Савецкая, 104, 246019, Гомель